— Забітага. Яго прывезлі разам з партызанамі. Ён быў пераадзеты, і партызаны падумалі, што гэта свой. Ён ляжыць за Іванавым гумном.

Яны пайшлі.

— Гэта што... Гэта проста забітыя. Яны як жывыя,— гаварыў, як хвалячыся, Геня, пакуль яны ішлі па вуліцы.— А вунь Юзіка Марыльчынага, дык таго немцы ўсяго парэзалі...

— Як парэзалі?

— А ты хіба не бачыў? Я дык тады бегаў глядзець. Яго ўсяго пакалолі кінжаламі і зоркі на спіне павыразалі — як на шапцы, толькі вялікія. Я быў, калі яго прывезлі, і як мылі, і як хавалі, і ўсё бачыў. Там і мне было страшна.

Адразу за Іванавым гумном стаяў азярод. Далей за азяродам была канава, за ёй ішлі лазовыя кусты. Між кустоў і далей — усюды шэрая рудаватая трава. Ступіш — вада выступае.

— Вунь ён, ля канавы,— Геня паказаў вачыма на кусты. Косцік глянуў у той бок... Ля канавы ляжаў ахапак чорнай саломы, і на ёй нешта зялёнае, як усё роўна нехта здзеў і кінуў нямецкую адзежу.

Хлопцы наблізіліся да саломы. Там ляжаў немец. Адна нага ў тоўстым белым наску, другая — босая, зусім сіняя. На ім былі зялёныя штаны і цёмная паддзёўка. На паддзёўцы, ля паясніцы, была вялікая ржавая пляма. Відаць, яму патрапіла якраз у жывот.

— Бач, паддзёўку надзеў, хацеў, каб падумалі, быццам ён партызан,— разважаў Геня.— Але хваробу. Партызаны ведаюць, хто свой, а хто чужы.

— Ага. А ты яго не баішся? — Кастусь паказаў галавой на немца.

— Не-а.

— І я не баюся. Але я не хачу... болей тут быць. Холадна ў ногі.

І Кастусь, і Геня былі босыя, ногі іх пачырванелі, сталі як абмытыя бураковым квасам.

— А мне ніяк не холадна. Але і я не хачу тут быць. Пайшлі.

— Ён, мусіць, страляў у партызан?

— А няўжо ж не страляў. Усе немцы страляюць.

— І добра, што яго забілі. Болей страляць не будзе.

— Цяпер хай страляе. Мішка, што патроны мне даў, казаў, што іх там, як дроў, налажылі. А партызан усяго шэсць забілі.

— Затое партызаны нашы... і іх шкода.

Геня нічога не сказаў.

* * *

Дзёмін зайшоў у хату, пашарыў вачыма па вуглах, нікога не знайшоў і павярнуўся выйсці, але не выйшаў — зрабіў два крокі назад, зазірнуў на печ. Там, адаграваючы на чарэні сінія ад холаду ногі, сядзеў Кастусь.

— На, малец, забяры свой планавік,— Дзёмін працягнуў на печ руку з планшэткай.

У Кастуся вочы аж запрыгалі ад радасці. Ён скаціўся з печы, схапіў планшэтку. Гэта была яго планшэтка. Перакінуў раменьчык цераз плячо, але ён быў нізка адпушчаны, і планшэтка даставала да самай падлогі.

— Дай я памагу табе,— Дзёмін узяў планшэтку, прымераў, падцягнуў раменьчык, перакінуў Кастусю цераз галаву.— Ну во, зараз самы раз...

Кастусь паглядзеў на планшэтку, потым ускінуў вочы на Дзёміна. Той стаяў сярод хаты, пустым позіркам гледзячы на Кастуся.

— А ты болей не адбярэш яе?

— Не адбяру...

— Ой, як добра! — але тут Кастусь успомніў Жыбуртовіча.— А як жа?..

Дзёмін зразумеў яго.

— Яму болей яна не трэба... Яму болей нічога не трэба. А табе яна якраз.— Ён пастукаў пазногцем па планшэтцы.— Пойдзеш у школу, будзе ў чым сшыткі насіць... Слухай, малец, пайшлі са мной... Я табе і паперы дам. У мяне ёсць блакноты. А то планшэтка ёсць, а ў ёй пуста...

— Добра...

Яны выйшлі з хаты. Ля стопкі, на кастрыцы, як і тады, калі Дзёмін адабраў у Кастуся планшэтку, была разаслана плашч-палатка. На ёй ляжала брызентавая сумка. Дзёмін дастаў з яе два блакноты, падаў Кастусю. З аднаго блакнота вываліўся невялічкі трохкутнічак-пісьмо. Адрас на ім быў напісаны хімічным, расслінёным алоўкам. Дзёмін схапіў пісьмо, спяшаючыся, сунуў у сумку. Кастусь паспеў убачыць, што ў сумцы было яшчэ некалькі такіх пісьмаў.

— Гэта ты дамоў пішаш?

— Дамоў...

— Сваім дзецям?

— І дзецям.

— А чаму не адсылаеш?

— Як жа я пашлю, калі яны па той бок, за фронтам. Будзе самалёт адтуль, перадам, можа, і дойдуць...

— Чаму ж не дойдуць? Канешне, дойдуць,— запэўніў Дзёміна Кастусь. Дзёмін сумна ўсміхнуўся.

* * *

✓ — Мама, а калі мне можна будзе жаніцца?

— Жаніцца? Як вырасцеш, дык і можна будзе. Чаму гэта табе засвярбела?

— А як вырасту, мне можна будзе ўзяць у жонкі Таню?

— Якую Таню?

— Ну якая ты нездагадлівая. Нашу... Партызанку.

— А-а-а, вунь яно што...

— Ты, мама, не бойся. Я буду яе любіць...

— Добра, сынок...

— І цябе буду любіць.

— Добра, сынок... Добра... А зараз ідзі спі. Табе яшчэ трэба шмат расці.

— Я буду добра спаць і вырасту вялікі. Як Жыбуртовіч. І буду біць немцаў.

— Ага, сынок... Спі...

Ён заснуў. Яму снілася вайна.

1971

# ІВАНІХА

У поле козы хадзілі разам з каровамі, і два разы ў дзень — каля паўдня, калі статак гналі на ранкі, і пад вечар, калі каровы вярталіся на ноч,— Іваніха сустракала іх у канцы пасёлка. Старая баялася, каб па дарозе дамоў яны не завярнулі ў чый-небудзь агарод.

Першай — услед за каровамі — заўсёды ішла старая каза. Яна паважнаківала тупым клінам рудаватай барады, целяпала кароткім хвастом і лена саступала з дарогі, калі насустрач траплялiся людзі. За ёй, торкаючы ўгару яшчэ кароткімі рожкамі, тупаў шустры козлік. Трэцяй спяшалася белая як снег козачка. І ўжо далей — крокі праз чатыры ззаду — паволі перастаўляла тоўстыя, усе ў сіняках набраклых вен, ногі сама Іваніха. Яна цяжка несла сваё сагнутае, быццам перабітае пасярэдзіне цела, апіраючыся на цёмны арэхавы кій. Раз за разам яна выкідвала яго наперад і, заграбаючы сівы пыл плоскімі сухімі ступнямі, рабіла некалькі крокаў. Здалёк здавалася, што старая не ішла, а кожны

раз з сілай падцягвала да кія сваё цяжкое, разбітае цела. Вуліца была доўгая, і Іваніха зноў і зноў выкідвала наперад вузлаватую руку з кіем і зноў ступала ў мяккі шэры пясок...

Часам каторая з коз збочвала з дарогі да плота — насустрач вастраму паху гуркоўніку ці кропу. Тады старая прыцішала няроўную хаду, крычала густым хрыплым голасам:

— Куды прэсся?.. Куды, каб цябе...— і замахвалася кіем.

Ля невялікай хаткі — гэта ўжо блізка ад другога канца пасёлка — козы збіваліся ў кучу: чакалі гаспадыню. Іваніха выцягвала некалькі жэрдачак, што закрывалі ўваход у двор, і козы, прабегшы паўз ганак, знікалі ў цесным, на адну страху, хлевушку. Жэрдачкі закладваліся назад, а старая ішла ў хату. Праходзіла няшмат часу, і яе сагнутая постаць — ужо з маленькім гладышом у руцэ — зноў паказвалася на двары: надышла пара даіць казу. За старой, несціхана мяўкаючы і задраўшы хвост, бег шэры кот.

Пасля паўдня, прагнаўшы коз у поле, Іваніха з ашмоткам лейцаў цераз плячо ішла па дровы. Яна паціху мерала нагрэтую сонцам пыльную вуліцу, якая пахла свежым каравяком, каб гадзіны праз дзве вярнуцца назад. Толькі назад ішла яна яшчэ цішэй, і за спіной у яе пагойдвалася ў такт хадзе вязанка дробнага сучча.

Іваніха падыходзіла да свайго дома, прыпёршыся спіной да жэрдак, спускала вязанку ў двор, а сама садзілася на нізенькую лавачку, якая стаяла тут жа, ля плота. Ужо седзячы, папраўляла пад хусткай валасы, пра-

водзіла рукамі па твары, быццам сцірала стому, і, абапёршыся на кій, нарэшце суцішалася. Шэрыя, яшчэ быстрыя вочы яе цяпер глядзелі цераз вуліцу, за стары, парассованы дзяцьмі плот. Там, вярсты за дзве ад пасёлка, цёмнай сцяной уставаў сіні лес. За яго вечарамі садзілася сонца. Бліжэй, адразу за гародамі, браліся кусты: круглыя кучаравыя — лазовыя і вастраверхія, жаўтавата-ліловыя — бярэзнік і алешнік.

Пасля вайны на месцы кустоў рос густы бярэзнік. Ён падступаў да самага пасёлка, і ў гэтым была вялікая выгада. Каму жэрдка трэба была, ці колік, ці дроў палка — бяры ў рукі тапор, і нá табе — у лесе, як дома. Секлі ўсе і колькі хацелася. Маладняк доўга не паддаваўся, чапляўся за кожную лапінку забалочанай зямлі. Але кажуць жа: не вялікіх ног баіцца лес — баіцца маленькіх. Маленькіх ды частых. І толькі гады тры назад пасялкоўцы раптам убачылі, што бярэзніку не стала. Засталося крывое, каравае кустоўе ды гнілаватыя пнюшкі, абсыпаныя тонкімі хілымі парасткамі.

Паклаўшы падбародак на сашчэпленыя рукі, Іваніха пазірае за гароды, маўчыць, і цяжка здагадацца, пра што яна думае. Сонца ідзе ўніз, кранаецца зубцоў лесу, выкідвае некалькі даўгіх трапяткіх праменняў і мякка тушыць іх, а старая ўсё сядзіць... Можа, яна і не думае нічога, а проста грэецца, дае спачын натруджаным касцям.

Калі бываў дома, да Іванішынай лавачкі, падцягваючы крывую правую нагу, часцяком падыходзіў Уладзік — даўгі хлапец год на дваццаць, сын конюха Язэпа. Іх новая пяцісценка стаяла па той бок вуліцы, не

проці Іваніхі, а трохі наўкос. Працаваў Уладзік у леспрамгасаўскай хлебапякарні, нават у будні дзень насіў гальштук, трымаўся з усімі незалежна, хаця і насцярожана. Дамоў Уладзік прыязджаў толькі на выхадныя дні, на танцы хадзіў рэдка: больш цягнуўся да сталых мужчын.

З імі часцяком і выпіваў.

Ён кульгаў да лавачкі, гучна, мацней чым трэба было, вітаўся з Іваніхай, потым прысаджваўся на край дошкі, ляпаў па кішэні — шукаў закурыць. Калі было што новае — расказваў, і Іваніха слухала яго, устаўляла адно, другое слова, а не — то абое маўчалі, і нікому маўчанне гэтае не было нудным. Кожны жыў сабой.

...Гэты дзень быў суботні. Іваніха прагнала коз у поле і, калі статак вынес пыл за пасёлак, з лейцамі на плячы падалася ў кусты. Але вярнулася адтуль раней, чым заўсёды. І без суччa. Спяшаючыся, быццам уцякаючы ад некага, пратупала па вуліцы да сваёй лавачкі, села, паклаўшы кіёк ля сябе. Села і быццам акамянела — неспакойным позіркам утаропілася за гароды, апусціла на прыпол цяжкія рукі.

Там, у кустах, не сціхаючы ні на хвіліну, разлягаўся густы машынны гул; падмінаючы пад сябе кусты, цяжка поўзалі бульдозеры, ссоўваючы ў гламаздкія валы ўсё, што яшчэ засталося ад некалі вясёлага стракатага бярэзніку. Гул то заціхаў, рабіўся спакойны, то ўздымаўся да натужнага рову — гэта калі каторая з машын старалася вывернуць непадатлівы пнюшок нядаўна ссечанага дубка... Адзін за адным, спакойна і роўна поўзалі і поўзалі бульдозеры, горнучы перад сабой кучы

торфу, у тлустай чарнаце якога, як вырваныя жылы, бялелі абадраныя карэнні, паклычаныя пні...

Выйшаў са свайго двара Уладзік. Пастаяў трохі ля варот, капануў нагой шчанюка, які, гуляючы, учапіўся быў у калашыну, потым пракульгаў цераз вуліцу да Іваніхі. Стаў перад ёй, сказаў «дзіньдобры», пакратаў тонкімі пальцамі гальштук і палез у кішэню.

Іваніха ўзняла на яго прыжмураныя вочы.

— А-а-а, гэта ты... Прыехаў...— І ўжо нецярпліва, як непрыемнае, дадала: — Ну, не стой на вачах, не засці... Не шкляны...

Уладзік доўга масціўся на лавачцы, нарэшце ўсеўся, выставіўшы наперад крывую нагу. Закурыў, і тонкі струменьчык дыму пацягнуўся ўгору. Дым быў не густы і адразу разыходзіўся, быццам раставаў у паветры, але гаркавы пах яго ўдарыў у нос Іванісе, і яна скрывілася.

— Вот... варочаюць.— Яна кіўнула на бярэзнік.

Уладзік паглядзеў за гароды, пацiснуў плячыма, сказаў:

— Поле будзе.— Счакаў трохі і, збіваючы попел з папяросы, дадаў: — Даўно трэба было ўсё ссунуць. Дні праз два будзе чыста, як на галаве ў Піліпа.

Яму прыемна было бачыць, што ля іхняй вёскі карчуюць кусты, што тут шмат машын, можа, столькі, як у леспрамгасе, і што ён так удала пажартаваў са старога Піліпа, вялікая і круглая, як гарбуз, галава якога была даўно ўжо лысая.

Іваніха замыляла губамі, павярнулася.

— Ты б лепш пра сваю галаву думаў, чым скаліць зубы з чужой!

— А мне што? Мая галава пры мне,— адказаў Уладзік, плюнуўшы пад ногі, і адразу пераключыўся на другое: — Вот наш кухар на днях лася ўлажыў. Пудоў на васемнаццаць. Гара мяса!..

— Не пабаяўся, што кароўку можна завесці?

— Ну, так ужо і кароўку... Ніхто ж не бачыў.

— Ніхто не бачыў, а ты ведаеш?

— Мне ён сам пахваліўся, за чаркай. Рогі паказваў — во, на паўсцяны.— Уладзік шырока развёў рукі. Пасля некалькіх кароткіх зацяжак — папяроса стала тухнуць — працягваў: — Там іх часцяком хлопаюць. Месца нясходжанае, дзікае: з трох бакоў лес, з чацвёртага — балота, носа не ўсунеш. Ён і не застрэліў яго — параніў толькі, а сабакі ў дрыгву загналі. А балота там страшнае, гіблае. Такое, можа, як у нас тут некалі было. Ды што я вам расказваю: вы ж гэта лепш за мяне ведаеце...

Іваніха маўчала, і ён таксама змоўк. Уладзік ведаў, што пра балота Іванісе расказваць не трэба. На гэта ў яе была свая памяць.

У калектывізацыю аднойчы не прыйшоў вячэраць яе Іван — не ў прыклад хмурай жонцы — вясёлы і настырны сельсаветчык. Іваніха прачакала яго ўсю ноч, а раніцай пайшла ў сельсавет. Толькі праз два дні знайшлі людзі на краі хліпкай багны пакамечаную, утаптаную ў гразь яго сінюю васьміклінку.

На руках у жанчыны засталося двое: Клава і Хведар — гора яе і ўцеха, ужо не пуплы, але і не памочнікі.

Тут, у гэтым бярэзніку, недалёка ад таго месца, дзе

некалі знайшлі мужаву шапку, зняла Іваніха з бярозы і сваю Клаву.

Здарылася гэта на другім годзе вайны. Немцы наскочылі ў пасёлак не раніцай, як рабілі звычайна, а пад вечар. Шмат хто калупаўся на гародах — капалі бульбу, некаторыя прыйшлі, каб узяць у лес што-небудзь з вопраткі — пачыналіся халады. Клаву схапілі на парозе хаты, калі яна з дзвюма булкамі хлеба ў руках чапляла замок на дзверы. Замок давялося зняць. Згвалцілі яе тут жа, упіхнуўшы ў хату...

Цэлую ноч Іваніха хадзіла па лесе, дзе атабарыліся пасялкоўцы, пыталася, ці не бачыў хто яе Клавы. Ніхто Клаву не бачыў. А на другі дзень Іваніха сама сустрэла дачку. На доўгіх выцягнутых пальцах тая стаяла пад бярозай, сама, як тая тонкая бяроза. Толькі нягемка павернутая галава і пояс, прывязаны за сагнутую вяршыню дрэва, гаварылі другую — страшную праўду.

Іваніха выняла дачку з пятлі і на руках, як некалі насіла яе малую, панесла ў пасёлак. У пасёлку стаялі немцы.

Цяжка перастаўляючы ногі, ішла яна па маўклівай вуліцы, невідушчымі вачыма пазіраючы перад сабой, і ніхто з немцаў не адважыўся спыніць яе. Назаўтра Іваніха занесла дачку на могілкі. Яны ляпіліся тут жа, ускрай пасёлка. І зноў ніхто не затрымаў жанчыну.

З могілак Іваніха вярнулася жыць дамоў, і раніцай з коміна яе хаты — адзіны на ўвесь пасёлак — пацяг-

нуўся ўгору жывы сіні дымок. І яго карнікі не кранулі. Чатыры дні стаялі яны ў пасёлку, і кожную раніцу Іваніха запальвала ў печы.

На пяты дзень вярнуліся з лесу пасялкоўцы, і з імі яе Хведар. Зайшлі людзі да Іваніхі і ўбачылі, што ў пустой печы зырка гараць дровы. Ніводнага чыгунка не стаяла там.

Іваніха сядзела на лаве і пазірала, як у чалесніку мітусяцца грывы чырвона-белага полымя.

Мусіць, з таго часу яна пачала заседжвацца на лавачцы. Адсюль добра быў відаць лес і пахілы верх той тонкай пакутнай бярозы. Потым нехта здагадаўся ссекчы яе. Тады Іваніха пачала хадзіць у сучча — на тое месца, дзе апошні раз сустрэла дачку.

...У кустах не сціхаюць бульдозеры. Рудыя, маслявістыя бакі іх бліскаюць на вячэрнім сонцы, як люстры, успыхваюць белыя нажы.

Уладзік маўчыць. З трывожнай насцярожанасцю сочыць за машынамі Іваніха. І раптам твар яе яснее, выцягваецца ў радасным здзіўленні. Яна нават прыўстае на нагах.

— Глянь, заяц! Ах ты, напужалі, не ўлежаў!

— Дзе? — прыўстае і Уладзік.

— Вунь... правей крушынавага куста.— Іваніха махае рукой.— Бач, як шыбуе.

Уладзік доўга глядзіць у той бок, куды паказвае старая, і бачыць, як ад кустоў у лес куляецца маленькі шэры камячок.

— Вот бы двухстволку сюды... Ды наперад забегчы,— ахае Уладзік і кідае пад ногі акурак.

— Двухстволку... Вам бы ўсё нішчыць,— стомлена бурчыць Іваніха і доўга, як сляпая, лэпае рукой па лавачцы, каб сесці.

І зноў яны сядзяць удваіх і маўчаць. Можна падумаць, што слухаюць няроўны гул бульдозераў.

Падзьмуў аднекуль мяккі вецер. Бярозка над лавачкай скаланулася, упусціла некалькі лістоў. Адзін з іх павіс на сівых валасах Іваніхі. Яна здзьмухнула яго, як адмахнулася, уздыхнула:

— Восень ідзе...

— Ага, восень... Ад Хведара чутно што?..

— Ад Хведара?.. Чутно...— Іваніха ўстала і пайшла ў двор.

Уладзік плюнуў, са злосцю ўсадзіў абцас чаравіка якраз там, дзе ўсё яшчэ дыміўся акурак. Ён ведаў, што цяпер Іваніха будзе капацца ў хаце, не выйдзе на вуліцу да самага вечара. Ненарокам — вот пацягнула за язык! — разануў па самым балючым. Вось ужо тры гады, як Хведар жыве недалёка ў горадзе, а ёй не прыслаў ніводнага пісьма. Двое дзяцей у самога, а маці — хоць бы слова. Іваніха нікому не жаліцца, але не любіць, калі хто напамінае пра сына...

Уладзік устаў і сам пайшоў дамоў.

...Зайшло сонца, паклала пазалоту на неба, развесіла ружовыя ніткі ў паветры. Некалькі разоў падзьмуў вецер — напомніў аб надыходзячай ночы. Выйшла з хаты Іваніха, падалася ў канец пасёлка.

Неўзабаве адтуль паказаўся статак.

1966

## НА БАЛОЦЕ СКРЫПЕЛІ ДРАЧЫ

— А-а-а, брыгадзір! Здарова! Ты мне якраз і трэба.

Перакінуўшы пінжак цераз плячо, Максім пагойдваўся на шырока расстаўленых доўгіх нагах, шлёгаў лазовым дубчыкам па адпрасаваных калошах штаноў і ўсміхаўся прыгожымі карымі вачыма. Глядзеў, як брыгадзір лёгка, не разбягаючыся, сігануў цераз канаву, што аддзяляла брыгадны двор ад дарогі, і паволі набліжаўся да яго. Прывіталіся, пацiснуўшы рукі, і Максім з прыемнасцю адчуў сілу вузкай сухой брыгадзіравай далоні:

— Закурым? — весела, па-прыяцельску запытаў яго, дастаючы з кішэні «Беламор».

— Гэта можна,— адказаў брыгадзір. І, выцягваючы папяросу з пачка і прыпальваючы яе, ён заклапочана касіў вокам на брыгадны двор.

— Што, неча піці каню, неча есці? — сплюнуўшы з языка крошкі тытуню, нарэшце ўзняў вочы на Максіма.

— У цябе, брыгадзір, нюх, што ў ганчака,— зарагатаў Максім.— Табе б у міліцыі служыць, га-га-га!.. Угадаў. Толькі не каню, а ездаку неча піці. Ды і не піці, а выпіці.— І ён зноў засмяяўся, радуючыся, што брыгадзір разумее яго з паўслова.— Што думаеш калоць сёння? У суботу ж мы не ходзім на работу, га?

— Ды во шукаю конюха,— дзе яго чэрці носяць. Трэба сказаць, каб коней нанач далёка не зганяў. Заўтра за раку трэба дабірацца, паплавы касіць. Павінен тут недзе быць.— Ён яшчэ раз абвёў вачыма брыгадны двор: дзве прысадзістыя канюшні — адна пад шыферам, другая пад учарнелым гонтавым дахам, павець на магутных дубовых шулах, пад якой палазамі ўгору былі навалены сані, калодзеж з абамшэлым дубовым зрубам і двума асінавымі карытамі, з паўдзесятка калёс, раскіданых па ўсім двары,— і ўрэшце махнуў рукой.

— Ладна, пайшлі ў сяло. Маму пашлю да яго дамоў, няхай жонцы накажа. Ну, а вы як? Усё капаеце?

— Капаем. Відаць, у гэтым месяцы вылезем з вашага калгаса. Бачыш жа — да цябе дабраліся. А тут ужо лацвей — да ракі рукой падаць.— Максім матнуў галавой, успомніў, як заўчора, не паспеў ён пасля ночы раскачацца як след са сваёй машынай, пракапаў мо якіх метраў з пятнаццаць, заявіўся гэты брыгадзір. Мокры па пояс, успацелы, боты і штаны ў іржавай балотнай гразі. Вылез з кустоў і ну размахваць рукамі:

— Гэта што такое? Хто дазволіў? Чаму я не ведаю?

Пусціўшы экскаватар на халастых абаротах і высунуўшыся з кабіны, Максім моўчкі пазіраў, пакуль той гарачыўся, а як астыў трохі — выключыў матор і сам

саскочыў на зямлю. Выявілася, што з гэтага балотца, праз якое яны гналі канал, пачынаюцца землі брыгады, якой камандаваў гэты малады рыжавалосы хлопец, і што ён меркаваў выкасіць гэта балота, пакуль пачнуцца тыя меліярацыйныя работы. Хоць і травы тут, як бабе ў падол сабраць,— усё больш асочка, каляны балотны сівец, дзе-нідзе мятлюга, круглец,— а няхай бы было скошана. Ажно не ўправіўся.

Так яны пазнаёміліся. Звалі хлопца Жэня, але Максім звяртаўся да яго проста: «брыгадзір». Максіму больш падабалася гэта саліднае цвёрдае слова. Яно як быццам бы надавала яму большую незалежнасць, як бы раўняла яго з брыгадзірам. Ды і брыгадзіру, здаецца, яно было даспадобы.

Потым, калі пакурылі, брыгадзір залез у цесную кабіну экскаватара. Там і аднаму не павярнуцца, але ён ухітрыўся неяк бачком прыладзіцца ля Максіма і доўга глядзеў, як цяжкі коўш без натугі лупіў падатлівы балотны грунт, быццам павуціну, ірваў карэнні кустоў, выварочваў з торфу і сіняга глею чорныя, нібы абвугленыя, набрынялыя вадой альховыя плашкі, якія хто ведае колькі год праляжалі там, і ўсё гэта вывальваў абапал канавы. Глядзеў, цмокаў:

— Вось бы мне такую машынку, хоць на паўмесяца.

— На які ляд яна табе? — спытаў Максім.

— Ха-га!.. Я б ёй знайшоў работку па блату. Паставіў бы дарогі насыпаць. Каналы папраразаў бы. А то ж мы вясной і восенню ў гразі топімся.

Саскочыўшы на зямлю, ён нейкі час стаяў збоку, ўсё прыглядаўся да экскаватара, а там знік гэтак жа неча-

кана, як і заявіўся. Толькі праз некалькі мінут Максім убачыў, як яго рыжая галава мільганула за дальнімі лазовымі кустамі — па дарозе ў сяло. Мільганула і прапала.

І цяпер Максім усміхнуўся, успомніўшы: «Я б ёй знайшоў работку па блату». Яно і праўда, экскаватару работы ў брыгадзе хапіла б. І не толькі экскаватару. Не лішні быў бы і бульдозер. Дарогі ў брыгадзе паганыя. Апошні добры дождж ішоў, відаць, тыдні два назад, а ў калужынах усё яшчэ адстойваецца тлустая, як мазут, ліпкая гразь. Нават па гэтай, па якой яны ішлі, у дождж праехаць не так проста. Яна ўся ў гарбатых каляінах і праходзіць па нізкім забалочаным лузе, узвышаючыся над ім на нейкага паўметра. Бы тая перамычка, што злучае два астравы, два пагоркі — брыгадны двор і сяло. Канечне, вясной у гэтай нізіне збіраецца шмат вады: і з лугоў, і адтуль, з балота, дзе яны цяпер з экскаватарам, вада прэ сюды, пад сяло. І, канечне, усё залівае. Тут нават калі зрабіць высокі насып, і то ён доўга не пратрывае, яго зараз жа размые, знясе паводка. Калі яшчэ добра ўтрамбаваць, вылажыць каменем, аканавіць, перакінуць бетонныя трубы, каб быў свабодны сцёк, тады, можа, было б і нічога.

Максім дакурыў папяросу, пстрыкнуў акуркам у жаўтлява-сівую ваду канавы, якая цягнулася паўз дарогу, і сказаў брыгадзіру, што думаў: і пра насып, і пра каменне, і пра трубы. Той хмыкнуў, зірнуў на Максіма, як на блазна.

— Разумненька прыдумаў, нічога не скажаш. Правільна. Гэта было б здорава — вымасціць дарогі каме-

нем. А як усё гэта зрабіць, ты думаў? Не? У тым-то і бяда... Ну, ладна, каменне я знайду. З усіх куткоў сцягну — кіламетраў на пяць набярэцца. А сілу дзе я вазьму, га? І прывезці каменне, і насып зрабіць, і ўлажыць яго шчыльненька, роўненька, адзін да аднаго. Бачыў я, як гэта робіцца. Каб яны, камяні, ляжалі на дарозе, як яйкі ў рэшаце, каб ён, другі, і не вытыркаўся, і не правальваўся, і не паварушыўся, калі на яго націснуць. Па ім жа ездзіць будуць. А ў мяне — брыгада. Цяпер сенакос. А там — жніво. А там пасяўная. І на пяцьдзесят двароў добра калі пяцьдзесят рук набярэцца. Вось тут і танцуй, і вымошчвай дарогі каменем... Не-е, братка. Усё гэта правільна, але не для нас. Ты ведаеш, што мне цяпер трэба? Прыгладзіць трохі яе, падраўняць дарожку — хоць пяском, хоць проста зямлёй, дзёрнам. Каб можна было праехаць з возам сена ці саломы і не абярнуцца. Во што мне трэба. А ты — каменне...— Брыгадзір яшчэ раз глянуў на Максіма, сумна ўсміхнуўся, і Максім падумаў, што гэты рыжы хлопец не такі наіўны і просты, як здаўся яму заўчора, там на балоце, калі, як не разявіўшы рот, пазіраў і на яго, і на работу экскаватара.

Увайшлі ў сяло і быццам нырнулі пад цёмную павець: уся вуліца была абсаджана старымі ліпамі. Тоўстыя, чорныя, з нізкімі навіслымі галінамі, яны раслі ўсюды — і ў дварах, за высокім частаколам, і проста на вуліцы. Было ціха і спакойна, густа пахла ахаладалым тарфяным пылам, крапівой, якая раскашавалася пад платамі. І гэта сцішанасць, і сыраваты перадвячэр-

ні спакой, і засяроджанасць нейк балюча і прыемна тарганулі Максімава сэрца.

Ля новага дома з жоўтымі веснічкамі брыгадзір спыніўся, сказаў Максіму пачакаць, а сам зайшоў у двор. Вярнуўся ён хутка і не так сабе: правая кішэня яго штаноў была адтапырана.

— Тут магазіншчыца жыве,— падміргнуўшы Максіму і шчоўкнуўшы пальцамі, растлумачыў ён, калі яны пайшлі далей па вуліцы.— У магазін топаць далёка, ён вунь там, у канцы сяла, на горцы, а дома ў яе заўсёды стаіць некалькі пляшак. Так, на ўсякі выпадак, каб была пад рукою. Баба хітрая. Каму-каму, а брыгадзіру заўсёды знойдзе. А яно другі раз і не шкодзіць.

Максім слухаў брыгадзіра, ківаў галавой, а сам з цікавасцю глядзеў па баках: на ўтульныя, чыстыя двары, на прасторныя, ладна скіданыя з тоўстых стрыжнёвых бярвенняў хаты. Некаторыя з іх былі нядаўна перасыпаны — яшчэ не паспеў учарнець мох у пазах...

Ушчыльную да хат падступалі сады — таксама старыя, цёмныя, важныя. І чым далей ішоў Максім па вуліцы, тым больш апаноўвала яго дзіўнае і нейкае вельмі старое і як быццам знаёмае адчуванне: быццам ён даўно ўжо ведаў гэта сяло — ці то бачыў яго калі, ці то сніў, ці то думаў пра яго, толькі быццам яно павінна было знаходзіцца недзе далёка-далёка ад гарадоў і дарог, сярод дрымучых лясоў, непраходных балот, і што павінны жыць у ім непадобныя на тых, якіх ён дагэтуль ведаў, людзі — вялікія, неўвароткія, дужыя, з яснымі блакітнымі вачыма, жыць па нейкіх сваіх адметных законах, сваім асаблівым жыццём.

І калі брыгадзір прывёў яго да старой, з вялікімі, нізка пасаджанымі вокнамі, хаты і сказаў: «Вось і прыйшлі!» — гэтае адчуванне яшчэ больш узмацнілася. Максім доўга шараваў падэшвамі чаравікаў па плоскім круглым камені, што ляжаў на двары перад дзвярыма, не спяшаючыся пераступаць парог у сенечкі. Яму чамусьці здавалася, што даволі таўхануць дзверы, і ён убачыць сівога, з шырокай барадой дзеда, які сядзіць на нізкай дубовай калодзе, скрыжаваўшы на каленях цяжкія жылаватыя рукі.

Дзеда не было, і калоды не было. І сенечкі, і хата прыемна і холадна дыхнулі свежавымытай пафарбаванай падлогай і прывялымі бярозавымі венікамі: на куце, там, дзе вісела ікона,— маленькая, у квадратнай рамцы, амаль уся захінутая вышываным ручніком,— было наторкана бярозавых галінак.

— Прысаджвайся, а я гляну, дзе мама.— Брыгадзір кіўнуў на драўляную канапу з высокай выгнутай спінкай і выйшаў.

Максім сеў. Падумаў быў, што, можа, няварта было ісці сюды, несці лішні клопат незнаёмым людзям, але махнуў рукой. Такая ўжо служба яго — заўсёды па чужых людзях. Ды і вельмі ж не хацелася сёння тырчаць на кватэры. Напарнік — немалады ўжо, год за пяцьдзесят, сухапары Пракоп Пракопавіч, ці, як яго ўсе звалі ППД (Пракоп Пракопавіч Дайнека), матануў на выхадны да сваёй цёплай, пульхнай Надзі. Максім застаўся адзін. А наперадзе цэлы суботні вечар — такой сенакоснай парой цёплы, цёмны, з трывожным шапаценнем ліснця і мяккім сакатаннем конікаў, з напружаным чаканнем

нечага вялікага, чалавечнага. Вельмі не хочацца ў такія вечары заставацца аднаму. Вось і пацягнула сюды, да брыгадзіра... А тут, можа, на танцы пашанцуе, а там і да дзяўчыны якой прымасціцца...

Першай у хату зайшла маці — сыпнула ля печы трэскі і адразу накінулася на сына, які ішоў услед за ёй і спыніўся ў праёме дзвярэй:

— Чаму гэта ты чалавека аднаго ў цёмнай хаце пакінуў?

Шчоўкнула выключальнікам, запаліла святло, і Максім убачыў прыязную ўсмешку на круглым стомленым твары і нейкі вельмі блізкі, свойскі пагляд цёмных дробных вачэй.

Сын заходзіць у хату не спяшаўся: падпіраў вушак у парозе, усміхаўся, пазіраючы то на маці, то на Максіма. Потым і ён сеў побач з Максімам.

— Нічога, мама. Чалавек гэты не з палахлівых, мышэй не баіцца.

І па яго голасе, і па голасе маці, і па тым, як паблажліва, бы на гарэзу, і разам з тым радасна зірнула яна на сына, калі той сказаў, што яны — ён і Максім — хочуць есці, а там яшчэ і да дзевак збіраюцца схадзіць, па тым, як спрытна, звыклым рухам падаткнула валасы пад хустку і пачала перастаўляць чыгункі на прыпечку, рыхтуючы месца пад керагаз, Максім зразумеў, што ў гэтай невялікай хаце жывуць дружныя, памяркоўныя людзі. І потым, калі сядзелі за сталом, пасунуўшы яго на сярэдзіну хаты, Максіму спадабалася, што брыгадзірава маці глядзела на яго, як на даўно знаёмага, свайго чала-

века. І тое, што яна не надакучала пытаннямі, не дахо-
дзіла, хто ён, адкуль, надта было па душы Максіму.

Яна выпіла тое невялікае каліва гарэлкі, што ўліў ёй у шклянку сын, зморшчылася, прыкусіла збольшага і пакінула іх адных: пабегла, відаць, да конюха.

Першая чарка языкі не развязала, хаця ні нялоўкасці, ні няздручнасці — вось надумаў і ўварваўся ў чужую сям'ю — Максім не адчуваў. Наадварот, яму было прыемна сядзець у гэтай утульнай хаце, дыхаць як быццам зусім новым і незнаёмым пахам прывялых венікаў. Але разам з тым нейкая шчымлівая зайздрасць — ён ніяк не мог зразумець, адкуль яна,— перашкаджала яму адчуваць сябе зусім спакойным. Ён пацягнуўся быў да папяросы, але брыгадзір перахапіў яго руку:

— Пачакай. Раздзелім гэту,— ён кіўнуў на бутэльку,— потым закурым.

Разліваючы «гэту» па шклянках, ён зусім сур'ёзна, пазіраючы ў вочы Максіму, прапанаваў:

— А то давай, наглядай сабе кралю — дый ажэнім. На дзяўчат у нас не густа, ды тое-сёе маем!

— Ха! Ажэнім! Насмяшыў. Ты спачатку сам ажаніся, а пасля ўжо сватаць будзеш.

Брыгадзір памаўчаў, пацёр далонню лоб, усміхнуўся:

— Што я!.. Мне ўжо няшмат засталося. Завязаў вузельчык. І добра завязаў.— Ён падумаў і, не то для самога сябе, не то чакаючы, каб Максім выказаў сваё адносіны да сказанага, нечакана закончыў гаворку пытаннем: — Мусіць, да зімы і вяселле згуляем, га? — І падняў чарку.

— Давай! — падахвоціў яго Максім.— А мне параіш

якую-небудзь маладзічку. Мне ненадоўга — на тыдзень-другі, а там — дай бог ногі. Ведаеш, жызня наша, што ў той песні: «По морям, по волнам, нынче здесь, завтра — там...» І любоў таксама — «нынче здесь, завтра — там...».— Ён засмяяўся ціхім няўпэўненым смехам і зараз жа змоўк, нахмурыўся. Зноў загаварыў, пазіраючы ў акно, за якім ужо сінеў вечар: — Баюся я гэтых жанчын. Баюся, каб каторая ўкруга спадніцы танцаваць не прымусіла. Колькі и ведаў іх — і ўсе на адзін капыл. Любяць дзяржаць нашага брата, як цялка, на прывязі. Вось табе вяровачка, вось калок, і бегай кругом яго, круціся. Не, брат, пад бабскую музыку танцаваць я не ахвочы.

— Ага, ага... Нешта не верыцца, каб ты вельмі пад бабскую дудку скакаў,— усміхнуўся брыгадзір.

— Так-то яно так...— задаволена засмяяўся Максім, сыта жмурачы вочы.— Але я прывык жыць сам сабе... Куды ні пайшоў — усё тваё з табой...

— А некалі ўсё ж прыйдзецца атабарыцца?..

— Пажывём, пабачым. А цяпер ты мне скажы: дзеўкі, ну, ці бабы год так на дваццаць пяць — трыццаць у вас у сяле ёсць? Ну, такія.— І Максім хуткім рухам рук паказаў абрысы дзябёлай жаночай фігуры, і гэта ў яго атрымалася так выразна і дакладна, што брыгадзір зарагатаў, адваліўшыся да спінкі канапы:

— Ёсць!

* * *

Калі яны выйшлі на вуліцу, было цёмна, хоць на небе і высыпалі буйныя белыя зоркі. Прыпарвала. На балоце

скрыпелі драчы. Асцярожна, затоена шапацелі ліпы. З канца сяла даносілася бубненне галасоў, смех.

— Пайшлі,— кіўнуў галавой у той бок брыгадзір.

У многіх хатах, відаць па суботняму дню, яшчэ не спалі. Шырокія белыя пукі святла падалі з акон, перагароджваючы дарогу, асвятлялі платы, парэпаныя камлі дрэў.

Недзе наперадзе рыпнуў гармонік. Проста так: нехта паставіў яго на калені і пацягнуў туды-сюды. Потым ірванула цішыню «Лявоніха». Баяніст (цяпер Максім устанавіў, што ігралі не на «хромцы», а на баяне) браў без разведкі і не з пачатку танца, як гэта звычайна робіцца, а недзе з шалёнай сярэдзіны, і таму здавалася, што нечакана расчынілі дзверы хаты, у якой даўно і весела наярваў разагрэты музыкант.

— Здорава лупіць, га?! — усклікнуў Максім, пацепваючы плячыма ў такт музыкі і прытопваючы нагамі.

Музыка абарвалася гэтак жа раптоўна, як і пачалася, і Максім усміхнуўся: зачынілі дзверы хаты. І пашкадаваў, што зачынілі. Ці то выпітая гарэлка, ці гэтае незразумелае трывожнае адчуванне і гэты баяніст,— рукі ў яго — што трэба — рабілі яго добрым, пакладзістым. Яму хацелася гаварыць, абы-што, але гаварыць, ляпаць па плячы людзей, усё роўна каго, хоць сабе гэтага трошкі ваўкаватага, а па ўсім — свайго хлопца брыгадзіра.

Максіма толькі здзіўляла, а трохі і заядала, што за ўвесь час — і пакуль ішлі ў сяло, і сядзелі за сталом, і цяпер, на вуліцы,— брыгадзір нават і не заікнуўся пра экскаватар. Максім прывык, што да яго звярталіся з просьбамі, яго хвалілі, да яго паддобрываліся. «Які ж

ты тады гаспадар, калі не бачыш сваёй выгады,— думаў ён, ідучы ўслед за брыгадзірам.— Калі нават не спрабуеш праехацца на дармаўшчыну, нават там, дзе можна. Усе ж ведаюць, што дарогі ў брыгадзе дрэнь, а экскаватар, які мог бы падладзіць іх, пад бокам. І заўтра будзе цэлы дзень стаяць, як на выстаўцы: як-ніяк выхадны». Максім чакаў, што брыгадзір закіне кручок: так і так, маўляў, ці не змог бы ты і г. д., і загадзя ведаў, што сам нічога пэўнага паабяцаць яму не зможа, што яму давядзецца выкручвацца, адмаўляцца. Рабіць гэта будзе няёмка і непрыемна, але і згадзіцца ён не мог бы, хоць бы і хацеў. Перад гэтым трэба было б перагаварыць з ППД і са сваім брыгадзірам. Тым больш, што не так даўно ім — і Максіму, і ППД — нагарэла за адну «левую» работку. Уважылі аднаго старшыню, выкапалі вадаёмчык для гусей і — зарабілі па карку.

Адным словам, падмога, калі б яе папрасілі,— песня доўгая. І ўрэшце, чаму гэта Максім павінен думаць пра яе, пра нейкую брыгаду, павінен ламаць галаву? Ёсць брыгадзір — няхай ён і думае. А ён вунь ідзе сабе, пасвіствае.

Наперадзе пачулася песня — ціхая, нясмелая, як ласкавы подых ветру ў спякотны летні дзень. Спявалі дзве дзяўчыны — паволі, асцярожна, быццам не верылі ў свае сілы, быццам правяралі, ці варта яшчэ спяваць, ці выйдзе што. Адзін голас быў высокі, тонкі, і ён задаваў тон песні, але адчувалася, што браў не на поўную сілу, і, можа, не на паўсілы, а зусім на трошачкі — проста так, на пробу. Ён як быццам і не спяваў, а ціха расказваў, расцягваючы словы ў шчырую сумную мелодыю. Другі го-

лас быў мяккі, грудны, крышку хрыплаваты, як бы прастуджаны. Ён ішоў услед за першым, стрымліваў яго, не даваў далёка адарвацца.

Ляцяць ву-у-ткі,
Ляцяць ву-у-ткі
І — два-а гу-у-ся-а...

Песня выходзіла добра, можна было спяваць далей,— і першы голас узяў на поўную сілу, забіраючы вышэй і вышэй. І ўжо было страшна, каб ён не сарваўся на гэтай вялікай, шчымліва-сумнай і прыгожай вышыні.

Ой, каго лю-у-блю-у,
Каго лю-у-блю-у,
Не-ада-а-жду-у-ся-а...

Хлопцы завярнулі ў вузенькую цёмную вулачку. Праз густую навісь галін праглядала неба. Яно здавалася вельмі нізкім, парваным на вялізныя рызманы, на якіх, як алавяныя гузікі, блішчалі зоркі. Брыгадзір прыпыніўся, узяў Максіма за руку.

— Калі забавішся дзе, начаваць прыходзь да мяне. Я сплю ў садзе, у будане. Месца там хопіць на двух.— Ён пачакаў, пакуль дзяўчаты даспявалі яшчэ адзін куплет, і сказаў так, быццам дзяўчаты былі побач і іх можна было бачыць:

— Во да гэтай, тонкагалосай, паспрабуй падкаціцца. Маняй завуць яе. Дзеўка добрая, толькі брыкаецца. Хаця ж ты не баішся брыклівых.— Ён хмыкнуў, таўхануў Максіма ў плячо і загаварыў далей, толькі загаварыў цяпер сур'ёзна, заклапочана: — Ведаеш, дзеўцы пад трыццаць ужо, а па-людску яе, мусіць, і не пацалаваў яшчэ ніхто. І не таму, што ганьбу якую мае. Дзеўка як

дзеўка. І тварам не горшая за другіх, і рукі ёсць. А цяпер і зарабляе — дай бог кожнаму. А хлопцы абмінаюць. Другі раз так увесь вечар і праседзіць дзе-небудзь у кутку клуба. Цяжка сказаць, чаму гэта. Надта доўга былі яны — уся сям'я іх — затурканыя, закіданыя. Пасля вайны жылі бядней за ўсіх. Колькі год без парасяці, без каровы. Якая тут карова, калі нават бульбы не было соткі пасеяць. Ды і маці яшчэ такая... Не гультаяватая, а нерастаропная нейкая. Дзе трэба цішком — яна загрыміць, дзе трэба крычаць — прамаўчыць... Стэфа... Пра яе так і казалі, і цяпер кажуць: «Ат, што ты хочаш, Стэфа...» Так і круцілася гэтая Стэфа, як уюн у кашы, пакуль дзеўкі трохі не падраслі. Адна завербавалася недзе аж на Поўнач, потым другая паехала за ёй. Вылюднелі, там і замуж павыходзілі. Цягнулі і Маню, а яна не захацела ехаць адсюль. І не прагадала. Толькі вот старая слава, як хвост, валочыцца за ёй. Маня Стэфіна... А што Стэфа?.. Як выйдзе ў нядзелю на вуліцу, як убярэцца, што тая дама гарадская... А для людзей усё роўна яна — Стэфа. І Маня — Стэфіна. Во як, брат ты мой.

Хлопцы памаўчалі, потым пайшлі туды, адкуль неслася:

Ой, каго лю-у-блю-у,
Каго лю-у-блю-у,
Ой, не да-а-жду-у-ся-а...

І тое трывожнае, насцярожлівае, што адчуваў сёння Максім, што непакоіла яго, як быццам знікла. Яму стала добра і весела. Ён адчуў сябе бесклапотным, упэўненым у сабе паляўнічым, што ў самую пару выйшаў на паляванне.

Вулачка расступілася, адкрываючы вачам неба і шырокі двор пад ім. У глыбіні яго цямнела хата, а каля яе, наставіўшы ўгару стралу,— калодзеж. Бліжэй двара, направа, пад ліпамі, было шмат людзей — гаманілі хлопцы, хіхікалі дзяўчаты, ціхенька — ні то танга, ні то вальс — наігрываў баян.

На прыход брыгадзіра і Максіма ніхто не звярнуў увагі. Ды, мусіць, мала хто і заўважыў іх, бо ўсе ціснуліся ў цэнтр круга, дзе тапталася некалькі пар. Танцавалі дзяўчаты з дзяўчатамі.

Хлопцы — у большасці гэта былі падлеткі, школьнікі, гонкія, з доўгімі, тонкімі шыямі — шушукаліся між сабой, дурэлі, штурхалі адзін аднаго пад бакі, шчыкалі дзяўчат.

Гульня была ў разгары.

Пад ліпамі была лавачка. На ёй, адвярнуўшы галаву ўбок, быццам яго нічога не цікавіла, сядзеў баяніст. Выпраміўшыся і склаўшы рукі на прыполах, ля баяніста прымасціліся дзве дзяўчыны — у светлых касынках, гладка завязаных на галовах, у светлых сукенках з кароткімі рукавамі. Нешта ціхмянае, сумна-пакорлівае было і ў гэтых гладка завязаных касынках, і ў прамых паставах дзяўчат, і ў складзеных на прыполах руках.

— Тая, што справа — Маня,— шапнуў Максіму брыгадзір.— Так што — дзяржыся... Злева — Гэля, таксама незанятая...

— Ды ладна,— адмахнуўся Максім. Яму чамусьці стала няёмка.

Да іх падышоў рослы хлопец у чорным світэры з вы-

сокім, паднятым аж пад самыя сківіцы, каўняром, з ухмылкай на гладкім твары.

— Здароў! — працягнуў ён руку брыгадзіру.— Чаму гэта вы так позна? — Ён уважліва паглядзеў у вочы брыгадзіру, потым зірнуў на Максіма, пацягнуў носам.— А-а-а, суду ўсё ясна. Глынулі трошкі? — Ён падміргнуў брыгадзіру. Той зморшчыўся:

— Ды так...

Хлопец падаў руку Максіму, назваў сябе: «Віталь», і Максіму непрыемна было адчуваць, што Віталь, каб паказаць сваю сілу, стараўся моцна ціснуць яго руку.

— Закурыць ёсць? — спытаў Віталь у брыгадзіра, але той ці не пачуў яго, ці зрабіў выгляд, што не пачуў, і Максім дастаў з кішэні свой пачак. Пакуль Віталь раскурваў папяросу, Максім убачыў вялікія нахабнаватыя вочы і рэдкі, кволы пушок на тоўстай верхняй губе.

— Да нас, значыць, на «пятачок», завіталі? — сур'ёзна і з адчуваннем роўнасці спытаў Віталь у Максіма. Максім прамаўчаў, і Віталь працягваў: — Нічога цікавага сёння няма тут. Час такі... уборачная кампанія. Хоць бы дзеўкі былі добрыя. А то — Маня, Гэля...— Ён засмяяўся.

Максім маўчаў, адчуваючы, як нешта цяжкае, нядобрае закіпае ў яго грудзях.

— Гэта што, школьнік? — спытаў ён у брыгадзіра, калі Віталь нарэшце адышоўся.

— Школьнік,— абыякава-спакойна адказаў брыгадзір.

Баяніст паставіў на каленях баян, танцоры пакінулі

круг, і нeяк адразу ўсе, хто быў на «пятачку», абступілі лавачку. Аднекуль вынырнуў Віталь, прайшоўся паўз лавачку і раптам чмякнуўся, сеў на калені Мані.

— А божачка мой! — ускрыкнула яна і забарабаніла кулакамі яму па спіне. Уцягнуўшы галаву ў плечы, ён адскочыў ад яе, але зараз жа вярнуўся, ушчаміўся між ёй і Гэляй і загаварыў мяккім, прытворным голасам:

— Ну, як табе не ай-яй, Маня. Так жа і забіць чалавека можна.

— А ты не лезь, куды не просяць,— адмахнулася ад яго Маня і крутнулася на лавачцы, адвярнулася.

— А куды ж я лезу. Маня? — па-блазенску ўхмыляючыся, завышаючы голас, каб усе чулі, пытаўся Віталь.

— Нікуды...

— Ну што там такога, калі я пасяджу трошкі ля цябе, га? Ну, калі і ўшчыкну трошкі або памацаю... Ці ж цябе ўбудзе ад гэтага, га? — Віталь бачыў, што яго ўсе слухаюць, і гэта яшчэ больш падахвочвала яго, надавала смеласці. Ён заклаў руку за спіну дзяўчыне, каб абняць яе, але яна павярнулася да яго і ціха, але так, што ўсе пачулі, злосна прагаварыла:

— Я табе, дзіцятка маё, так памацаю, што ты маці забудзеш пажаліцца. Лепш штаны падцягні, кавалер смаркаты.— І турнула Віталя з лавачкі. І зноў, цяпер ужо над Віталем, усе зарагаталі, а той, няёмка ўхмыляючыся, але адчуваючы, што жартаваць больш няма куды, са словамі: «Нешта злая Маня сёння. Не падступіцца!» — пашыўся да сваіх хлопцаў.

— Лупцані-ка, Валодзя, што-небудзь для сэрца, та-

кое, каб нагам цесна стала,— папрасіў баяніста брыгадзір.— Ну, хоць бы полечку.— І заспяваў нейкую прыпеўку, прытанцоўваючы, пацягнуў за руку з лавачкі дзяўчыну, што сядзела побач з Маняй.

Баяніст узяў у рукі баян.

Услед за брыгадзірам у круг пайшлі дзяўчаты. Максім падышоў да Мані, запрасіў на танец. Яна ўстала, тужэй завязала касынку і, баючыся ўзняць на яго вочы, падала руку. Відаць, ёй было няёмка за ўсё тое, што толькі што адбылося тут.

Максім прыслухоўваўся да музыкі. Ён любіў танцаваць, любіў грукнуць на крутым віражы абцасамі, ды так, каб шыбы ў вокнах задрыжалі, і, выпраміўшыся, замерці на хвіліну, счакаць, пакуль гарманіст намацае тое калена, з якога можна прадаўжаць танец, і потым пайсці па крузе — і чым шырэй ён, тым лепш,— ведучы за руку дзяўчыну, выштукоўваючы нагамі такое, каб ходарам хадзіла падлога і тупат ног заглушаў хліпанне гармоніка, але каб слых у гэтым тупаце лавіў дробны перабор абцасікаў дзяўчыны. А там, недзе ў канцы калена, схапіць яе пад пахі і закружыцца, з захмялелай радасцю бачыць, як раптам пачынаюць выцягвацца ў адно — шырокае — усе вокны ў хаце, а твары людзей кружацца, скачуць белымі плямамі. І потым, калі кружыцца больш нельга, калі, здаецца, яшчэ адзін паварот — і стомленыя ногі не ўтрымаюць цела, і ты разам з дзяўчынай можаш паляцець да самага чорта, усё ж зрабіць гэты паварот і спыніцца, як укапаны. А тады ціхенька, з гэткім ляным розвальцам, быццам усё гэта просценькае і нязначнае — мы яшчэ і не такое ўмеем! —

пайсці па хаце, аддыхваючыся і даючы адсапнуцца дзяўчыне, чакаючы, калі гарманіст зноў натрапіць на тое калена...

Полька, якую іграў гарманіст, не падабалася Максіму, і ён марудзіў даваць волю нагам. Баяніст іграў вяла і безуважна, кідаючы ў круг кароткія, аднастайна картавыя пераборы. Гукі, сухія і круглыя, як гарошыны, шамацелі, бегалі, бы па ланцужку: здавалася, што баяніст перабіраў маток пацерак-гарошын, і яны, як касцяныя, глуха стукалі, дрыжалі ў яго руках. Маток быў малы, прабягаў баяніст яго хутка, і таму даводзілася зноў і зноў пачынаць спачатку. Для такой мелодыі стала б — і ўга як! — простай «хромкі», а не тое што баяна. Паставіў яе на калені — і сып пад ногі боб-гарох.

Ужо другі круг ішоў упустую Максім. Маня некалькі разоў узнімала на яго вочы, не ведаючы, чаго ён чакае, але ўбачыла, што і брыгадзір не танцуе,— скаліць зубы з Гэляй, усё зразумела, заківала галавой. Толькі дзве школьніцы, трасучы кароценькімі косамі, гоцалі нагамі па зямлі, але хутка і яны перасталі.

Баяніст, відаць, зразумеў, што ад яго чакаюць нечага другога. Ён узняў галаву, абвёў вачыма круг. Гэта быў яшчэ зусім хлапчук. Ён усміхнуўся, павёў языком па верхняй губе, аблізаў яе, выпрастаўся і смялей адкінуў руку ўбок. Пальцы яго, доўгія, тонкія, замітусіліся, забегалі па дробненькіх гузіках. Максім павярнуўся да сваёй напарніцы. Яна была на цэлую галаву ніжэй за яго, пазірала на яго знізу з-пад вузенькіх шнурочкаў-брывей, чакала. Ён скалануў галавой, падміргнуў ёй і рашуча ступіў наперад, тупнуў нагой. Яны закружыліся.

А баяніст разварочваўся далей. Маленькі замкнуты маток, па якім бегалі гукі-гарошыны, быццам лопнуў. Быццам покнула нітка, на якую нанізаны былі гэтыя гарошыны, і яны ўсе рассыпаліся па падлозе. Гарманіст кінуўся збіраць іх, чапляць на нітку, але разам з імі траплялася шмат другіх, новых, прыгожых, і ён збіраў іх, спяшаўся, нанізваў адну за адной...

Гэта была ўжо сапраўдная полька, і Максім дубасіў зямлю нагамі, кружыўся, сыпаў сухую заліхвацкую чачотку, паказваючы, што́ можна рабіць пад такую музыку. Маня насілася ўкруга яго, як вецер. Яна разгарэлася, расчырванелася. Касынка з'ехала на плечы, адкрыўшы русыя ў дробных кольцах завіўкі валасы, і яны пружынілі, трэсліся, налазілі на вочы. Яна некалькі разоў ускідала руку, папраўляла іх, але валасы зноў напаўзалі, і рукі былі заняты; польку з адной рукой не станцуеш, і яна перастала звяртаць на іх увагу, адно адкідала іх з вачэй рэзкім узмахам галавы і толькі ў часе перадышкі зноў заціснула іх пад касынку.

Полька п'яніла Максіма, гарачыла, туманіла галаву, але ён зноў і зноў кідаўся ў танец і яшчэ больш разаграваўся. Ён бачыў перад сабой расчырванелы Манін твар, напружаную, але радасную ўсмешку на губах, бачыў, што падабаецца ёй, чуў за сабой тупат ног, цяжкае дыханне танцораў, і гэта ўсмешка і тупат ног падганялі яго, штурхалі наперад, і ён з яшчэ большым імпэтам кружыўся, адчуваючы, як зямля коса ўцякае з-пад ног некуды туды, дзе святлее неба, і ўсё ніяк не можа ўцячы. Цяжкая невядомая сіла рвала Маню з яго рук, нібы хацела адабраць яе, панесці. Максім не аддаваў яе, моцна

трымаў абедзвюма рукамі за стан, адчуваючы, як ім там добра, утульна.

Што яны з Маняй засталіся ў крузе адны, Максім убачыў толькі тады, калі нехта лінуў ім пад ногі, распырскваючы, кварту вады. Максім крута развярнуўся перад баяністам, паклаў руку на баян. Баяніст, цяжка дыхаючы, вызваліў плячо ад папругі, паставіў баян на лаўку.

Не выпускаючы Манінай рукі са сваёй і чуючы, што яе рука дробна дрыжыць, Максім праціснуўся да вядра, якое ці не з двара прынеслі, забраў з нечых рук кварту, зачэрпнуў вады і падаў Мані. Яна з удзячнасцю глянула на яго і пачала піць, стукаючы зубамі аб берагі кварты.

Да іх падышоў Віталь, паклаў руку на плячо Максіма, падміргнуў Мані:

— А вы здорава давалі!

Максім варухнуў плячом, скінуў руку.

— Ладна, ідзі...

Віталь адышоўся. Максім зачэрпнуў яшчэ адну кварту вады, перадаў баяністу.

— Маладзец, можаш!..

Хлопец радасна заўсміхаўся. З прыемнасцю слухаючы, як вада халодным клубком пракацілася ўнутры, Максім адну за адной асушыў дзве кварты і толькі тады адчуў, што стаміўся, што ў самога дробна дрыжаць калені і рукі і што кашуля прыліпла да спіны.

Ён пацягнуў Маню за руку, выбіраючыся з талакі, у вулачку. Калі галасы і тлум засталіся ззаду, прыцягнуў да сябе — яна пакорліва і мякка паддалася — і моцна пацалаваў.

* * *

Наперадзе, куды гурбой павалілі падлеткі, чуліся галасы. Яны ўсё больш і больш аддаляліся, глушэлі, нарэшце зусім прапалі.

На балоце не сціхалі драчы.

Перадранішні халадок студзіў разгарачаную танцамі спіну, і Максім час ад часу грэўся, зябка паводзячы плячыма, напружваючы мускулы. Маня ішла збоку і трошкі наперадзе, пазіраючы сабе пад ногі. Доўгія і шырокія рукавы Максімавага пінжака, які ён накінуў ёй на плечы, даставалі ёй ніжэй каленяў, і яна ў ім здавалася зусім падлеткам — кволым, прыцішаным, непрыгрэтым.

І ад яе маўчання — як адышлі ад «пятачка», яна не сказала ні слова — і ад усёй яе паставы — невысокай, насцярожліва-зацятай, якая напрошвалася на шкадаванне,— Максіму было не па сабе. Ён не любіў, калі яго шкадавалі, не любіў і сам шкадаваць і таму хмурыўся, злаваўся.

«Трэба было браць яшчэ адну бутэльку»,— падумаў ён, успамінаючы пачатак сённяшняга вечара. Але цвярозая думка гэта не прынесла супакаення. Ён з зайздрасцю падумаў пра брыгадзіра, пра тое, што той прапаў недзе пасля першай полькі — пабег да сваёй нявесты...

«А ўсё ж трэба было яшчэ адну...» — пашкадаваў ён яшчэ раз. Тады ўсё было б нашмат прасцей. Не было б гэтай нялоўкасці, што ўзнікла паміж ім і Маняй адразу ж пасля першага танца, там, у вулачцы, калі ён хацеў лішні раз пацалаваць яе і яна, незразумела чаму, спалохалася і пацягнула яго назад, да гурту, не было б

балаў, нікуды не дзенешся... Слухай, ну а дзеўка яна хоць вартая, га?

— Якая дзеўка? — не зразумеў Васіль і, зразумеўшы, паціснуў плячыма.— Якая дзеўка, дзеўчанё нейкае рабое, але даволі прыемнае.

— Ну, хоць гэтым можна суцешыцца... А ведаеш што, пайшлі-тка мы і праўда да дзяўчат, тут недалёка жывуць, на суседнім пасёлку. Па-мойму, яны нікуды не паехалі.

Васілю было ўсё роўна, куды ісці і што рабіць. Віно зрабіла тое, што трэба было: затлуміла галаву, разгарачыла ўсяго. Паганага настрою быццам і не было, і бяда ўжо не была бядой: падумаеш, праваліў экзамен, ці мала правальваюць, на наступны год паступлю.

Пайшлі шукаць Валеравых дзяўчат. Дома іх не было, але гаспадыня сказала, што павінны скора прыйсці, і хлопцы пацягнуліся ў горад, шукаць яшчэ нейкіх Валеравых знаёмых, ды і тых не засталі, зайшлі ў магазін, узялі яшчэ пляшку віна і выпілі яго проста ў парку.

Да доміка, дзе жылі дзяўчаты, вярнуліся позна ўвечары, калі гарэлі ліхтары і сырой прахалодай цягнула з садоў і гародаў. І Васіль, і Валера былі п'яныя, шмат малолі языкамі, чапляліся да ўсіх, хто сустракаўся па дарозе. Дзяўчат і цяпер дома не было, і хлопцы рашылі пачакаць іх пад плотам, што выходзіў на нейкую пустку са старой адзінокай яблыняй. Сядзелі, клявалі насамі. Потым Валера пайшоў у разведку і прапаў. Васіль чакаў-чакаў яго і сам не заўважыў, як задрамаў. Прахапіўся ад холаду і ад адчування адзіноты і доўга не мог зразумець, дзе ён і чаго. Час быў позні, зрэдку даносіўся

гул машын, але Васіль не ведаў, куды яны едуць і ў які бок трэба ісці яму. Пайшоў паўз плот, каб выйсці на вуліцу: можа, там убачыць Валеру. Плот змяніўся шчыльнай дашчанай агароджай, за якой пачыналася другая, з калючага дроту, і ўжо за ёй — вуліца. Але гэта была не тая вуліца, на якой яны з Валерам шукалі дзяўчат. Васіль звярнуў у другую — зноў не тая. Цяпер, пры цьмяным святле рэдкіх ліхтароў, усе вулачкі былі падобныя адна на адну і ўсе дамы — на адзін манер, цёмныя і затоеныя, і платы нейкія аднолькавыя, і калі спачатку Васіль думаў, што трэба толькі выйсці на вуліцу, зірнуць на двор — і ён адразу пазнае той дом з парканам з тоўстых, пафарбаваных у карычневы колер дошак, то чым болей ён хадзіў і прыглядаўся, тым болей пераконваўся, што таго дома яму не знайсці.

Пераходзіў з вуліцы на вуліцу, і ніводнай душы, ніводнага чалавека не сустрэлася яму, каб можна было спытаць, дзе ён і куды яму ісці. Ён злаваўся на Валеру, бэсціў яго ўсімі брыдкімі словамі, якія толькі прыходзілі на памяць, але гэта мала памагала. Страх і адчуванне адзіноты падганялі яго. Здавалася, ён ужо ніколі не выйдзе з гэтага бясконцага лабірынта падобных адна на адну вулачак, якія непрыкметна перапляталіся, перасякаліся, пераходзілі адна ў другую. Нарэшце Васіль рашыў пастукаць у які-небудзь двор, нічога з ім не зробяць, хай накрычаць, але пакажуць дарогу. Тыцнуўся ў варотцы, яны былі запёрты — дзынкнула жалезам завала, і амаль адначасова са звонам разлёгся густы сабачы брэх. Сабака аж захлёбваўся. Васіль счакаў трохі — думаў, можа, выйдзе хто на голас сабакі. Не дачакаўся, пайшоў далей.

Вулачка вывела да высокіх цагляных дамоў. На самым выхадзе да іх стаяла воданапорная калонка, і Васіль прыпаў да яе, націснуў на балдавешку. Напор вады быў моцны, вада рвала губы, але Васіль хапаў і хапаў яе, задыхаючыся і не маючы сілы адарвацца. Піў, а смага не праходзіла. Аддыхаўся, нагнуўся да калонкі яшчэ, праўда, цяпер ужо спакойна, піў, смакуючы, ловячы губамі не ўвесь струмень, а часцінку яго. Пакуль піў, абліўся ўвесь — і чаравікі, і штаны, і грудзі. Стала трохі лягчэй дыхаць. Пайшоў да цагляных дамоў. Іх была цэлая вуліца, і Васіль рашыў, што яна павінна вывесці на другую, больш шырокую, і там будуць машыны.

Мінуў адзін, другі дом і раптам спыніўся, ашаломлены. Проста перад ім у праёме вуліцы, недзе далёка-далёка, як на краі свету, вісеў месяц. Зеленавата-медны, вялізны, круглы. Ён нядаўна ўзышоў, але свяціў моцна, і свяціць яму пасаблялі вулічныя ліхтары. Болей тыдня жыў у горадзе і ні разу не бачыў яго, быццам яго і не было зусім. А цяпер убачыў і ўзрадаваўся, як дарагому даўняму сябру. Колькі разоў бачыў яго — то празрыстым, як падсіненая вада, ледзь азначаным серпікам, то важкай, як булка, белай поўняй, з неасэнсаваным хваляваннем дзівіўся неразгаданай прыгажосці яго, колькі разоў хадзіў пад ім і зімой, і летам, уверыўся, што заўсёды так было і заўсёды будзе: зямля, неба і месяц на небе — свой сярод роўных, і ён, Васіль, будзе пазіраць на яго... А тут зусім забыўся на яго, ды ён сам напомніў, толькі неяк дзікавата было бачыць гэты круглы добры месяц над шэрымі квадратамі каменіц, але і радасна было, што

ён ёсць, што ён свеціць, жыве. Як і ў іх дома. Цяпер Васіль ведаў, што з ім ён не прападзе.

Пайшоў уздоўж вуліцы і праўда неўзабаве пачуў лёгкі шум і ўбачыў святло фар машыны. З узнятымі рукамі кінуўся напярэймы, і машына адразу спынілася, быццам і ішла спецыяльна па яго. Гэта была «Волга», акрамя шафёра ў ёй сядзеў адзін пасажыр. Васіль папрасіў падкінуць яго да цэнтра. Пасажыр з шафёрам пераглянуліся, адчынілі дзверцы. Машына прайшла метраў з пяцьдзесят, зрабіла ўсяго адзін паварот і выскачыла на шырокую вуліцу, і Васіль пазнаў яе і ўсё гэта месца: яны ехалі па вуліцы, на якой жыў Валодзя. Васіля везлі дамоў. Аказваецца, ён круціўся ў нейкім паўкіламетры ад вакзала. Васіль папрасіў спыніць машыну, працягнуў рубля шафёру — не ведаў, як аддзячыць яго. Шафёр пакруціў галавой, засмяяўся, зноў пераглянуўся з пасажырам.

— А цяпер ведаеш, дзе стаіш? — спытаў, націскаючы на педаль счаплення.

— Што тут ведаць? Во ён, дом мой,— матануў галавой Васіль на свой пад'езд. Машына рванула наперад, бліснуўшы рубінавымі агеньчыкамі стоп-сігналаў.

Дзверы ў калідор і ў пакой былі незамкнёнымі: Валодзя чакаў яго. З ім прасцей, ён усё зразумее. Цяжэй будзе дома, з бацькам.

Бацька ўбачыў Васіля, калі той падыходзіў да варот. Пара была пад вечар, сонца ўжо зачапілася за вільчык хлява, адкінуўшы яшчэ светлы і душны цень на двор з адгароджанымі градкамі гуркоў, куды ўбілася курыца. Бацька выганяў яе, цаляючы цераз плот глыжамі. Куры-

ца, як сляпая, насілася з аднаго кутка ў другі, плішчылася ў кожную шчыліну, але колікі ў плоце сядзелі густа і моцна, а сухія глыжы лупілі па лісці гуркоўніку ўсё бліжэй і бліжэй, наганяючы страх, і бедная курыца страціла ўсякую надзею выбрацца з гэтых праклятых град і толькі адчайна ўскрыквала, калі ля яе ўзрываліся, сеючы пылам, камякі зямлі. Нарэшце яна і зусім ушчамілася ў шчыліну, ірванулася выбавіцца — яшчэ болей засела і тады ўжо аціхла, разявіўшы дзюбу. Якраз у гэты час бацька ўладзіў ёй вялізным глыжом у хвост і разам з глыжом вынес за плот. Адкуль і спрыт у яе знайшоўся матануць па баразне ў бульбу... Тады бацька абцёр рукі аб штаны і павярнуўся да сына, пільна ўглядаючыся ў яго. Той, не спяшаючыся, адчыніў варотцы, ступіў на двор, узяў варотцы на зашчапку, паставіў чамадан на лавачку ля гародчыка.

— Нешта ж рана,— сказаў, падышоўшы, бацька.

— Прыйшла пара, дык і прыехаў.

Бацька тузануў яго за рукаў:

— Заваліў?

— Заваліў, ну і што?

— Нічога, сынок. Маладзец.— Бацька хацеў гаварыць спакойна і не змог, сарваўся на крык.— Дзесяць годзікаў у с... трубілі — кніжкі, сміжкі, адзявалі, кармілі, а ён цяпер — «заваліў, ну і што?»... Яму «ну і што»!

— Не крычыце, не баюся,— Васіль ірвануў руку і пайшоў у хату. Бацька зайшоў за ім.

— Надта смелы стаў. Ці не зарана? Яшчэ ўсё носіш бацькава — і на плячах, і на нагах, і ў галаве...

— Не, у галаве-то не бацькава, можаш не радавацца...

— Яно і бачна... Казаў жа, прасіў: едзь да Шуры... Там-то паступіў бы, ён не такі разінька, як ты, і табе памог бы... Дык не, свайго захацелася... Цяпер радуйся — наеўся!..

— Наеўся не наеўся, плакаць не буду... Дзе мама?

— Дзе ж ёй быць — на полі. Сынку трэба грошыкі, дык хто ж шлунне рваць мусіць? Бацька з маткай... А ён хай раскатае...

— Не ный, надаела! Тут і без твайго ныцця хапае! Дужа я нараскатваў тваіх грошай,— закрычаў раптам Васіль з-за кухоннай перагародкі.

Бацька змоўчаў, сеў на лаўку. Васіль дастаў са шкафчыка гладыш з кіслым малаком і прыпаў да яго, не зважаючы, што малако цякло па барадзе і капала на падлогу. Напіўся, выцер губы далонню, выйшаў з-за перагародкі, стомлена апусціўся на лаўку, утаропіўшы вочы ў акно. Яно выходзіла ў гародчык з кветкамі, цёмны ад перадвячэрняга ценю, і вачам добра было глядзець туды.

Маўчалі. Васілю цяжка было нават рот разявіць, а бацьку хоць і карцела, але цярпеў, пакуль было цярпенне. Потым загаварыў — ціхім, з жаласліваю нотаю, голасам:

— Ну што ж, праваліўся дык праваліўся. Мусіць, не нашаму цяляці ваўка з'есці. Сёння ўжо не трэба, насячы хацця дроў, а заўтра ранічкай пабяжыш з касой у Стаськоў Рог, кусты паабкошваеш, канаву. Трава там добрая, густая, капы са дзве, а то і тры адаб'еш. За раніцу не

паспееш — надвячоркам дакосіш... Толькі абкасі кругом, каб хто не ўпёрся.

— Не пайду я туляцца па кустах,— панура адказаў Васіль, не паварочваючы галавы.

— Чаму гэта не пойдзеш? І што гэта за зык на цябе сёння ўссеў, што-та з табой робіцца? — зноў павысіў голас бацька.

Васіль адарваў вочы ад акна, зірнуў на яго, зморшчыўся:

— Ніхто не зыкуе, тата. Я кажу, што ў кусты не палезу — ні ранічкай, ні надвячоркам. Падзеляць, тады палезу, а так, як воўк, крадком — не. Хочаш — сам ідзі, а я не хачу. Пайду стагаваць ці шчэ што рабіць, работы хопіць...

— Ну, сынок, ты мяне парадаваў сёння. Пацешыў... Я табе гэта прыпомню,— бацька ўстаў з лаўкі, выйшаў за дзверы, але не зачыніў іх, прасунуў галаву назад, доўга ўзіраўся Васілю ў вочы, быццам бачыў першы раз.— У-у-у, гадзіна! Выгадаваў на сваю галаву...— прастагнаў адтуль і ляснуў дзвярыма так, аж зазвінелі шыбы. І звінелі яны доўга, надакучліва доўга, Васілю падалося, што гэта звініць не шкло, а муха ўпёрлася недзе ў павуціну...

Як і ў той раз, поезд у Мінск прыйшоў у восем ґадзін. Па тым жа падземным пераходзе — тут нічога не змянілася за год, хіба толькі адвалілася колькі абліцовачных плітак, ды ў двух месцах на столі рудзелі пацёкі — прабілася вада,— Васіль выйшаў на прывакзальную плошчу. Павярнуў налева, да прыземістага будынка з касамі

дальніх паяздоў. Людзей ля кас было мала, і ён управіўся скора. Ехаць дык ехаць, да Шуры дык да Шуры... У яго яшчэ заставалася дзве вольныя гадзіны, але да Валодзі ён рашыў не паказвацца: так будзе лепей. Укінуў чамадан у аўтаматычную багажную, а сам пайшоў у горад.

Дзень меўся быць ясны, сонечны. Зусім нядаўна на вуліцах прайшлі палівальныя машыны, і асфальт курыўся, яркай зеленню блішчалі лісты прысад. Горад быццам пабыў у лазні і цяпер сушыўся, падставіўшы сонцу мокры твар. Людзей на вуліцах было шмат, людзі спяшаліся, толькі ў гэтай паспешцы не было вакзальнай сумятні. Васілю неяк шкода стала, што самому яму не трэба нікуды спяшацца. У яго нават ёсць лішнія пара гадзін, і ён не ведае, што з імі рабіць.

Зусім натуральна, калі чалавеку чаго-небудзь не хапае. Не хапае грошай, не хапае часу... Вечна чалавеку нечага бракуе, чалавек — не бог. Але горай, калі ў чалавека завяліся непатрэбныя яму рэчы. Тут ужо нешта не так, нешта не тое. Праўда, рэчы яшчэ можна каму-небудзь сплавіць. Заўсёды знойдуцца людзі, што збіраюць чужыя рэчы,— на свеце багата дзівакоў. А што рабіць, калі ў чалавека лішні час? Яго не прадасі, не збудзеш. Ён твой, як цень, ён заўсёды з табой. Бывае, што яго не адчуваеш, і гэта вельмі добра, гэта шчасце; бывае, яго не хапае, і гэта таксама добра; а калі яго лішка і калі чалавек пачынае гэта адчуваць... Гэта надта непрыемнае адчуванне, як напамінак пра хваробу. Летась, калі Васіль прыязджаў сюды паступаць, кожная хвіліна ў яго была на ўліку, і тады было добра... Прыязджаў пасту-

пацъ... Васіль усміхнуўся: даўно, вунь як даўно ўсё гэта!.. І так недарэчна скончылася... Не рашыў задачку, не задачу, а задачку, сярэднюю лінію зблытаў з перпендыкулярам. Дома ён рашыў яе назаўтра ж па прыездзе і рашыў за нейкія пяць хвілін, а тут... Цяпер пра ўсё гэта Васіль успамінаў без жалю і болю, як пра даўнюю хваробу. Перабалела — і як і не было. Перахварэў, і ўсё. Праўда, разам з папраўкай прыйшлі цвярозасць і сум — абавязковыя рубцы ўсё той жа хваробы. Кожная хвароба — гэта боль, а ўспамін пра боль заўсёды сумны.

Цікава, ці паступіла Валя? Канечне, паступіла... Добра было б сустрэць яе. Ён часта ўспамінаў яе дома, думка гэта нават стала надакучлівай. Нават збіраўся, калі будзе мець час, заехаць у інстытут. Яе-то не ўбачыць: лета, усе раз'ехаліся, але даведацца, ці вучыцца яна, зможа... Яму гэта трэба было ведаць, для самога сябе ведаць...

Васіль ішоў, думаў, разважаў сам з сабой, а на душы было трывожна. Не шкода было гэтага горада, які яшчэ летась ён лічыў сваім, родным, абжытым. Шкода было нечага другога. Можа, самога сябе?..

Падышоў да стадыёна, да рэкламных аб'яў — і спыніўся, утрапёны. З афішы, вясёлы і задаволены, на яго пазіраў знаёмы твар. Гэта быў той самы артыст, якога яны з Валодзем і Раманам некалі слухалі ў заводскім тэатры. Тая ж шыракаротая ўсмешка, тыя ж няроўныя зубы. І тая ж нахабнаватая ўпэўненасць на твары. Ён быццам смяяўся з Васіля, быццам гаварыў: «Едзеш? Уцякаеш? Давай, едзь... А я застануся... Мне тут добра!..»

Васіля аж скаланула. Усё роўна, як яго злавілі на не-

чым зладзейскім. Стаяў перад афішай, на дварэ была душная раніца, а між лапатак стала холадна. «Не-а, нікуды я не паеду. На злосць табе не паеду...» Рашыў так і ўзрадаваўся свайму нечаканаму рашэнню. «А ты давай, спявай. Пацяшай людзей. Пацяшай...» — сказаў афішы ўжо зусім весела і цвёрда. Але перш чым зноў зявіцца да Валодзі, захацелася зірнуць на інстытут, быццам ён мог куды дзецца, быццам мог знікнуць.

Інстытут нікуды не дзеўся, стаяў на тым жа месцы, такі ж шырокі, масіўны. Толькі тратуар недалёка ад варот пераразала канава з кучамі свежай, вывернутай са дна жоўта-чырвонай зямлі — не прайсці. Давялося даваць кругаля: ісці назад, на другі бок вуліцы, зноў наперад і зноў пераходзіць вуліцу...

«Ну і дзівакі. Толькі летась залівалі асфальт, а цяпер усё ўспаролі, трубы нейкія пракладваюць. Быццам няможна было зрабіць гэта тым разам»,— падумаў Васіль, і думка гэта засела ў галаве, як зачапілася за нешта, і ніяк яе нельга было адчапіць, хоць Васіль і стараўся забыцца пра яе; цяпер яго ўжо чакалі другія клопаты.

1972

## У НАС ВЯСЕЛЛЕ

— Коля, дзве міскі квашаніны...

І я выскакваю ў сенцы, перабягаю вузкі, зацярушаны снегам двор, спускаюся ў сыры склеп.

— Грыбкі трэба...

І зноў па абледзянелых сходках я саслізгваю ў цёмную нішу склепа. Там і на зямлі, і на паліцах — каструлі, міскі, талеркі з печаным, смажаным, марынаваным.

— Сынок, яблыкі на сталы.— І па хісткай драбіне я караскаюся на гару па халодныя звонкія яблыкі...

Коля... Хлопчык... Сынок... Мама гаворыць лагодным, вінаватым голасам, быццам хоча паддобрыцца, а я злуюся. Злуюся і бегаю ўсюды, куды трэба і не трэба, толькі б не тырчаць у хаце. А там ужо шумна і весела, як на кірмашы, і, як на кірмашы, кожны гаворыць сваё і чуе толькі сябе. Амаль кожную мінуту хто-небудзь крычыць «горка», і ўслед за ім пачынаюць крычаць усе.

А я злуюся. І на маму, і на Кацю, і на ўвесь свет. Не хачу, каб Каця ішла за Сцяпана. Не хачу.

Цікава атрымліваецца. Вось жывеш ты на свеце. Ёсць у цябе дзве сястры, а адну ты любіш больш, чым другую. Ад Зіны я ніводнага кухталя не наспытаў, а з Кацяй біўся, можа, кожны дзень. І за каўпачок ад бутэлечкі з духамі — ён замяніў мне згубленую шашку; і за пісьмо ад Валодзі — кіне на стале, а ты вінаваты, што прачытаў; і за тое, што не хацеў ісці з дому, калі да яе прыбягала піскпявая Жэнька,— я ведаў: будуць шушукацца, хлопцаў абгаворваць. Ды ці мала за што можна было пабіцца з Кацяй! Хаця якая гэта бойка? Ну, кухтальне ў плечы ці далікатна возьме за руку, выведзе за дзверы і гэтак ласкава папросіць:

— Коля, збегай да Мятляцкіх. Міша толькі што прылятаў, у яго, мусіць, задачка не выходзіць.

А ў самой у вачах чэрці скачуць, вось-вось не вытрымае і зарагоча на ўвесь двор. І рукі як абцугі. Імі б жалеза ў кузні варочаць, а не кароў даіць.

І гэтую даўгарукую Кацю я люблю больш, чым добрую Зіну. Можа, таму, што Зіна ў нас заўсёды была вельмі правільная. Яна рабіла толькі тое, што трэба было, і ўсе ведалі, што з ёй нічога благога не можа здарыцца.

Гэта ж Каця, а не Зіна шамнула залетась у праламку. Дзяўчаты не пачакалі яе і адны пабеглі на танцы ў Ліпнікі. Гэта недалёка ад нас, кіламетры за тры. Каця, як толькі даведалася, што яе пакінулі, хуценька пераапранулася і, каб апярэдзіць дзяўчат, ірванула напрасткі, цераз раку. І апярэдзіла б, калі б у ваду не трапіла. Тры тыдні пасля гэтага праваляласся ў пасцелі, чуць запаленне лёгкіх не схапіла. А ўстала — і хоць бы што.

А на неаб'езджаную жаробку хто сеў? Яна. Захацела

даказаць, што не пабаіцца, праедзе. І даказала. Зусім непрытомную падабралі на дарозе. І так у яе заўсёды.

Я не вельмі шкадаваў, калі Зіна паехала ў Данбас. Можа, гэта яшчэ таму, што Алёша, муж яе, такі добры, уважлівы. Ён усяго тры дні пабыў у нас і за гэты час паспеў замяніць гнілыя шулы ў плоце, залатаць страху ў хляве. У Алёшы шырокія цёплыя далоні, а на галаве свіціцца лысіна. Мне чамусьці адразу падумалася, што чалавек, у якога хутка будзе добрая лысіна, не можа быць дрэнны. І гэта праўда. У кожным пісьме Зіна піша, што жывуць яны добра, мірна.

Сцяпан не такі, як Алёша. І што толькі Каця ў ім знайшла, не ведаю. Не даходзіць да мяне. Ну, няхай сабе ён высокі і валасы ў яго кучаравяцца. Падумаеш, валасы можна і накруціць. Многія так робяць, асабліва дзяўчаты, я сам бачыў гэта. А калі ты высокі, дык не задавайся гэтым. А то не паспеў першы раз пераступіць парог, як ужо ляпнуў:

— Якія ў вас дзверы нізкія — чуць шыю не звярнуў.

І трэба было звярнуць, калі яна ў цябе не на месцы. Як быццам мы не ведаем, што дзверы ў нас нізкія. І што хата старая. Быў бы жывы тата, ён даўно б новы дом збудаваў. Ён ужо тады пачаў траляваць бярвенні з лесу. І выцягнуў бы, і перавёз бы, і хату паставіў бы, калі б не хвароба.

Сцяпан мне адразу не спадабаўся. Ходзіць па хаце, быццам на пляцы перад усім раёнам маршыруе. Потым пачаў разглядаць фотакарткі на сцяне. Іх у нас шмат — і даваенныя яшчэ, і цяперашнія. Аж тры рамкі застаўлены імі. Там жа, над акном, вісіць і татаў партрэт. Тата

ў вайсковай форме, яшчэ з кубікамі і зусім-зусім малады. Мама гаворыць, што і я такі буду: увесь у бацьку пайшоў.

А Сцяпан стаў перад партрэтам і зыбаецца. Бачыце, яму пазыбацца захацелася. А ў самога рукі ў кішэнях — як гіры выпіраюць. Ідзі на канаву, стань на кладку і зыбайся колькі ўлезе. Кладка — не маснічына, можа, саравешся ды ў гразь пляснешся. А то глядзіць на тату і — угору-ўніз, угору-ўніз, толькі чаравікі рыпяць ды падлога ходзіць. Я хацеў ужо сказаць яму, каб перастаў, гэта ж непрыгожа, але мяне якраз паклікала мама. Трэба было збегаць да дзядзькі Кастуся, паглядзець, ці вярнуўся ён са станцыі. Мама давала яму грошы на соду, дык спытаць, ці прывёз. Я ведаю: сода — гэта толькі адгаворка, каб пратурыць мяне з хаты. Я замінаю маладым. Няхай шэпчуцца ды хіхікаюць. А што яны мне не далі вывучыць урокі — гэта, выходзіць, нічога.

І вось вяселле. Да яго пачалі рыхтавацца даўно. Мама вельмі баялася, каб яно было не горш, як у людзей. А то скажуць: няма бацькі, дык няма каму і дачку адправіць. Купілі два цяляці, дзесяць гусей. Пітва назапасілі — хоць увесь калгас запрашай. І чаму гэта так — як вяселле, дык абавязкова, каб усе да аднаго былі п'яныя?..

Я не памятаю, каторы гэта быў дзень, але мы з Кацяй засталіся адны ў хаце. І я сказаў ёй, што не трэба ісці замуж за Сцяпана. Ён нядобры. Я думаў, што яна раззлуецца і надае мне. Ад яе гэтага можна чакаць. Але яна толькі ўскудлаціла мае валасы і сумна засмяялася.

— Нічога ты не разумееш, Рыжык. Ты малы яшчэ.—

А ў самой вочы вялікія-вялікія, і ў іх слёзы, як жывое срэбра. Ужо лепш бы грымнула ў плечы, чым такі смех. А Рыжык — гэта так, за мае валасы. У нас з ёй яны аднолькавыя, быццам сонцам прыпаленыя, залатыя.

— Каця, а як жа Валодзя? — ужо смялей спытаў я.— Ён жа прыедзе.

— Ну і няхай прыязджае. Што мне да яго? — зазлавала яна і стала глядзець у акно. А там усе шыбы замёрзлыя, і нічога нельга ўбачыць. Нават тое, што рабілася на вуліцы.

З Валодзем Каця разам хадзіла ў школу з першага класа. Пасля дзесятага яны цэлымі вечарамі шапталіся ў нас на лавачцы. І пра што можна гаварыць кожны вечар, не ведаю? Адзін раз я падглядзеў, як яны цалаваліся. І Каця не крычала на яго. Потым Валодзя паехаў на будаўніцтва нейкага завода ў Карэлію. Адтуль пайшоў у армію. Пасля службы ён не вярнуўся дамоў: застаўся там. Пісаў Каці, каб і яна прыязджала. А як яна магла паехаць, калі ў мамы рэўматызм? Каця ўгаворвала Валодзю вярнуцца ў калгас, а ён усё не ехаў. Потым аднойчы прыбегла Жэнька і сказала, што ён ужо ажаніўся, што яна сама чытала пісьмо, якое ён прыслаў маці, і што чорт з ім, з Валодзем. Быццам на ім адным свет клінам сышоўся. Каця таксама сказала, што на ім свет клінам не сышоўся.

А я не веру Жэньцы. Мала што яна можа нагаварыць... Калі б Валодзя быў жанаты, ён даўно напісаў бы сам. Ён не такі, ён не любіць таіцца. Але Каця вельмі перажывала. Цэлы месяц не вылазіла з фермы; пойдзе чуць свет і вяртаецца позна вечарам. І адразу ў пасцель.

Вось тады да нас і зачасціў Сцяпан. Ён нешта прывозіў на ферму і там сустрэўся з Кацяй. А нядаўна Валодзя прыслаў пісьмо і піша, што летам будзе ў водпуску. Адзін... І Каця гэта ведае... І цяпер глядзіць у цёмнае акно.

— Нічога ты не разумееш,— зусім спакойна паўтарыла яна і стала надзяваць куфайку: пара было даіць кароў.

Нічога не разумееш... Гавары... Яшчэ перад Новым годам я, можа, і не разумеў...

...Тады я толькі што прыбег з кіно. Дзяцей да шаснаццаці на яго не пускалі. Але я памагаў матарысту згружаць рухавік, бегаў з каністрай па ваду, і ён угаварыў кінамеханіка прапусціць мяне. Я стаў ля самых дзвярэй, каб не бачыла Каця. Яна са Сцяпанам сядзела на самым перадзе.

Дамоў я прыбег засопшыся і нырнуў у пасцель. Мне трэба было адразу заснуць, але я зусім акалеў. Каб сагрэцца, я залез з галавой пад коўдру і пачаў часта дыхаць і церці рукой аб руку. Я заўсёды так раблю, калі мне холадна. Сагрэўся я хутка і высунуў нос з-пад коўдры.

Каця думала, што я сплю. Яна ўвайшла і адразу ўключыла святло. Распранула паліто, кінула на канапу і засталася ў адным плацці. Гэта было цёмнае плацце з шырокім бліскучым поясам. Яна купіла яго ў нашай краме. Каця адшпіліла пояс, падышла да люстэрка і пачала выцягваць прыколкі з валасоў. Люстэрка ў нас вісіць на сцяне, якраз насупраць ложка. І я ўбачыў, што Каця папаўнела. Вельмі папаўнела.

Мне трэба было адразу заснуць, як толькі я прыйшоў з кіно. Але што я мог зрабіць, калі ў мяне так памерзлі ногі, а ў галаве білася страшная здагадка. Успомнілася размова Каці са Сцяпанам, якую перад гэтым я выпадкова падслухаў.

Гэта было ў самым пачатку зімы. Я загуляўся на рэчцы, і ўжо цямнела, калі вярнуўся дамоў. Ніхто, мусіць, не чуў, як я прайшоў па двары, ускочыў у сенцы. Я ўжо быў узяўся за клямку, каб адчыніць дзверы ў хату, як пачуў голас Каці:

— Табе хоць бы што. Ты...— я не разабраў, якое слова яна сказала,— і набок. А мне што рабіць?.. Куды я з дзіцем?..

— Ага, значыць, я вінаваты? — данёсся ў адказ глухі Сцяпанаў голас. Мне здалося, што Сцяпан засмяяўся. Ён гэта ўмее — смяяцца, калі зусім не смешна. Я не хацеў, каб ён смяяўся, і пацягнуў за клямку.

У хаце панавалі прыцемкі, але я заўважыў, што Каця плакала. Яна стаяла ля акна і плакала. Сцяпан сядзеў за сталом і дыміў папяросай. Потым устаў, прыдушыў яе на комінку і прагудзеў:

— Рашай сама. Я не супраць. Але жыць будзем у Паддуб'і.

— А як жа мама, Сцёпа? Яна ж хворая! — пакорлівым голасам спытала Каця.

— Ну, што... хворая... Не ў Амерыку едзем. Прыязджаць будзем, памагаць. Ды і Коля не зломак. Вунь які выцягнуўся.— І ён зноў засмяяўся.

У школу назаўтра я не пайшоў. Прытварыўся, што баліць галава. І мама нічога не сказала. Ёй некалі бы-

ло: трэба было мыць бялізну. Толькі падышла да ложка, паклала мокрую далонь мне на лоб.

— А і праўда, галава гарачая. Можа, доктара паклікаць? — спытала ціха.

Тады я сказаў ёй усё, што думаў пра Сцяпана.

Мама прысела на край ложка, стомлена апусціла рукі на прыпол. І я ўбачыў, што на правай руцэ ў яе, на вялікім пальцы, якраз там, дзе ён згінаецца, чорная трэшчына. Яна, мусіць, была ўжо даўно і ніяк не зажывала. А гэта ж так баліць, калі ў рану заходзіць вада...

— Ты не ведаеш яго, сынок. Ён не такі нядобры, як табе здаецца,— загаварыла яна сумным голасам. Але ў словах яе не было ўпэўненасці. І маршчыны з ілба збегліся ўніз, к пераноссю.

— Ведаю,— закрычаў я.— Я летась ездзіў з ім на станцыю, калі здавалі збожжа. Ён скінуў два мяшкі калгаснай пшаніцы ў Арэхаўцы, ля крайняй хаты. Там жыве яго дзядзька, і яны часта п'юць разам. Я ведаю: ён украў іх!

Мама маўчала. Яна спрабавала белым шматком закруціць балючы палец.

І тады я сказаў галоўнае:

— А калі народзіцца хлопчык, няхай жыве ў нас. Я скончу сёмы клас і пайду на трактарыста.

Тады мама падхапілася з ложка і пачала крычаць на мяне:

— Ты шмат ведаеш... Трактарыст... Хлопчыка гадаваць... Вазьму папругу ды так адгадую, што дзесятаму закажаш.— Яна ўсхліпнула, выбегла ў сенцы, але зараз жа вярнулася і зноў села на ложак.

— Ну што я зраблю, калі яна не слухае мяне. Што?..— Твар у яе быў разгублены, і па шчоках цяклі слёзы.

Я маўчаў. Я не ведаў, што трэба рабіць, калі дачка не слухаецца маці, а ўсе ў пасёлку гавораць, што жаніх любіць піць.

...Я злуюся і бегаю ўсюды, куды трэба і не трэба. Каб не тырчаць у хаце, каб не глядзець на Кацю і Сцяпана.

Каці сёння не пазнаць: яна сядзіць маўклівая, сцішаная, задумліва глядзіць перад сабой, і толькі калі да яе звяртаюцца, мякка і як бы трошкі вінавата ўсміхаецца: маўляў, вось якая справа выйшла — вяселле. Здаецца, яе зусім не трывожыць шум, які ні на хвіліну не сціхае за сталом, і калі б не белая вясельная сукенка на ёй, можна было б падумаць, што гэта не яна, а нехта іншы выходзіць замуж, а яна трапіла сюды выпадкова, адчувае сябе лішняй і толькі таму не ўстае за-за стала, што ўсе сядзяць.

Сцяпан — побач з ёю. Ён ужо моцна выпіў і цяпер усім усміхаецца. Як толькі хто-небудзь з гасцей крычыць «горка!», ён адпівае трошкі са шклянкі, паказваючы гэтым, што гарэлка не горкая, і лезе цалавацца.

— Коля, хадзі сюды,— паклікала мяне Каця, як толькі я з міскамі ў руках, можа, у соты раз увайшоў у хату.— Хадзі сюды. Я хачу выпіць з табой.

Я падышоў да стала. Мне далі ў рукі чарку. І ў Каці была чарка. Яна сумна ўсміхнулася і чамусьці сказала:

— За тваё шчасце! — І выпіла да дна. Я прамаўчаў. Я глядзеў у сваю чарку, і мне зусім не хацелася піць.

Потым усе ўсталі з-за стала і пайшлі ў клуб. Там ужо даўно іграла музыка і танцавалі. Дзядзька Кастусь распіхаў танцораў, выйшаў на сярэдзіну залы, узняў угору руку і моцна выгукнуў:

— І-і-і вальс! — Ён крыху падумаў і дадаў: — Для маладых!

Каця і Сцяпан выйшлі наперад. Я не спускаў з іх вачэй. Мне здавалася, што зараз павінна адбыцца нешта незвычайнае. Я хацеў, каб адбылося нешта незвычайнае. Маладыя кружыліся плаўна, спакойна. Каця танцавала, высока ўзняўшы галаву, моцна прыкусіўшы ніжнюю губу. Маленькія бровы яе былі насуплены, а ў прыжмураных вачах застылі цёмныя агеньчыкі. Я добра ведаў гэтыя агеньчыкі. Яны загараліся ў Каці тады, калі яна збіралася зрабіць што-небудзь важнае, нечаканае. І ўжо ніхто яе ад гэтага не мог адгаварыць.

Я думаў, што яна зараз пакіне Сцяпана пасярод круга, спыніць гарманіста і ўсім скажа, што іхняе вяселле — вялікая памылка і што яна ніколі не будзе жыць са Сцяпанам.

Але танец скончыўся, а Каця нічога не сказала. Яна ўзяла Сцяпана пад руку, і яны разам пайшлі дадому.

...На двары цішыня і мароз, аж няма чым дыхаць. Я стаю ў садзе пад яблыняй і гляджу, як прыгожы круглы месяц гоніцца за невялічкім сінім воблакам і ніяк не можа дагнаць яго. Ён ужо даўно гоніцца за ім. Аднекуль насоўваецца цёмная хмара і захінае сабой і месяц, і маленькае воблачка.

У садзе адразу становіцца няўтульна і страшна. Я ад-

чуваю, як па спіне ў мяне прабягаюць калючыя дрыжыкі.

— Коля, дзе ты? Коля!..— даносіцца з ганка мамін голас. Яна бачыла, што я голы выскачыў на двор, і цяпер непакоіцца. Я чакаю, пакуль бразне клямка ў сенцах, потым ступаю на двор. Трэба ісці: у нас жа вяселле.

1962

## ДЗЕНЬ ПЕРАД СВЯТАМ

Не кожнай восенню, але бывае такая завідная пара. З палёў усё сабрана, азімыя пасеяны, а дажджоў няма — і трывожаць сэрца незразумелым сумам усё яшчэ жывыя пахі нядаўніх работ.

Надта востра гэты сум адчуваецца вечарамі ў полі, калі дзённыя клопаты аціхнуць, а зямля ляжыць спакойна і стоена, быццам у прадчуванні нечага вялікага і невядомага, што павінна адбыцца — у прадчуванні таямніцы, якая раптам адкрыецца. Адкрыецца — і ўсё вакол набудзе нязнаны дагэтуль сэнс.

І зацятая ціша пануе над светам, такая зацятая, што здаецца, быццам увесь свет — гэта ты, ды шэрая аграмадзіна неба над табою, ды нямераныя кіламетры зямлі, што вядуць немаведама куды.

І цёпла на двары. Каб не веданне, што за восенню абавязкова павінна быць зіма, можна было б падумаць, што надвор'е пераломіцца на яшчэ большае цяпло. І нават чубкі паклычанага, але незааранага пацямнелага жнеў-

ніку, якія не-не ды і трапляюць на вока на нядаўна забаранаваных загонах, ці пагубляныя па дарозе і патрушчаныя коламі бульба і буракі — гэтыя абавязковыя прыкметы позняй асенняй пары,— не цягнуць на думкі пра блізкія дажджы і слату.

Прыгожа глядзіцца такой парой ігруша-дзічка. Трактарысты пашкадавалі яе, пакінулі расці на скупым прыдарожным узмежку, старанна абмінаюць плугамі, і ўжо каторую восень яна гарыць тут адчайным малінавым полымем. Як папрок людзям і выклік гэтай роўнай, узаранай, забаранаванай і засеянай прасторы. За што папрок? За тое, што яе пакінулі, ці за тое, што пакінулі адну?..

Быццам віну чуў за сабой Іван Ігнатавіч, калі праязджаў паўз гэта невысокенькае, калючае дрэўца. Быў некалі тут сад — што вымерз, а што састарэў, і ён даў каманду выкарчаваць яго, зараўняць — поле дык поле. Трактарысты так і зрабілі, а гэта дрэўца — атожылак некалі моцнага кораня — пакінулі. Іван Ігнатавіч не адзін раз думаў пра тое, што трэба было б пасадзіць тут новы сад. Праўда, думаў тады, калі на вока траплялася гэтае дрэўца, бо на большае не хапала ні часу, ні грошай.

І сёння саснілася гэта дзічка — у буйным чырвоным цвеце, потым нейкае поле, восень...

Старыя кажуць, калі сніцца цвітучы сад, то ці хто памрэ, ці хто народзіцца. Іван Ігнатавіч не быў чалавек сентыментальны — сам ведаў гэта,— і не падабаўся яму сённяшні сон. «Дзічка, жнеўнік, парассыпаная бульба... Усё ў адной кучы і што да чаго?..»

Іван Ігнатавіч не ўмеў і не любіў спаць позна. Дзе б

ні быў, што б ні рабіў, як бы позна ні лёг — у шэсць ужо быў на нагах. І не трэба было нікуды спяшацца, і нішто не падганяла, а прывычка рабіла сваё. Позняя птушачка вочкі прадзірае, ранняя птушачка дзюбку цярэбіць.

Ён даўно выверыў, што ранняй птушачцы лепей: дзюбка дзюбкай, а вачам шмат што бачыцца чысцей.

Асцярожна, каб не пабудзіць жонку, Іван Ігнатавіч уставаў. Іхнія ложкі стаялі побач, і часта Каця расплюшчвала вочы на колькі хвілін раней, чым гэта рабіў ён.

Даражыў ён гэтымі кароткімі ранішнімі хвілінамі, і ўвесь дзень потым быў асвечаны для яго безназоўнай душэўнай цеплынёю, якая вострым напамінкам нечага чыстага і вельмі роднага жыла ў ім.

Яны ўжо болей васьмі гадоў былі пажаніўшыся, мелі двое дзяцей, прывыклі адно да аднаго і да ўсяго ў кожным, а во — ажывала, успаміналася тая хвіліна, як Каця расплюшчвала вочы...

Гэта толькі гавораць так: «непаўторны», «непаўторнае»... Усё можна паўтарыць. Паўтарыць наноў. Трэба толькі, каб жыла душа. Жыла і балела. Толькі балючая душа можа даць жыццё памяці, уваскрасіць мёртвае.

Сёння Іван Ігнатавіч прачнуўся раней, чым звычайна. Ці не сон пабудзіў яго.

У спальні было цёмна. Каця спала. Іван Ігнатавіч узрадаваўся, што яна не пачула, як ён устаў. Узрадаваўся, можа, першы раз за ўсё жыццё разам.

Выйшаў на кухню, запаліў газ. паставіў чайнік з вадою. Ён галіўся толькі станковай брытваю і цяпер чакаў, пакуль нагрэецца вада.

У зале таксама стаяў прыцемак, але вока ўгледзела на стале ўчарашнія газеты. Мусіць, так конь знаходзіць упоцемках сена.

Яшчэ раз перагледзеў зводку за трэці квартал у раёнцы. Першы радок зверху — «Партызан», другі — «Чырвоны прамень», трэці — яны, іскраўцы... Два гады, як цвёрда аселі на гэтай трэцяй прыступцы. На апошнім актыве Павел Пятровіч пажартаваў: «У іскраўцаў цяпер трэцяе месца можна вырваць толькі хіба разам з зубамі...»

Гэта праўда. Разам з зубамі, а можа, і з вантробамі. Чатыры гады дабіраліся да трэцяй прыступкі, з дванаццатага месца дабіраліся...

Хаця, калі быць да канца шчырым, трэцяя прыступка даўно ўжо не радавала Івана Ігнатавіча. Ён нікому не прызнаваўся, але радасць заняць трэцяе месца для яго знікла разам з тым днём, калі стала вядома, што яны яго занялі... І сама гэта радасць была звязана не проста з трэцім месцам... За трэцяй прыступкай стаялі трыццаць цэнтнераў зерня з гектара і не меней двухсот цэнтнераў бульбы. Гэта была тая вышыня, на якой можна было адчуваць сябе людзьмі... І Іван Ігнатавіч адчуваў гэта, але радасць знікла, як толькі паспела нарадзіцца.

Не сказаць, каб Івану Ігнатавічу не хацелася бачыць свой калгас на другім, а можа, і на першым месцы. Але гэта не балела яму так, як тады, калі калгас цяжка, але ўпарта, цэнтнер да цэнтнера, падбіраўся да трэцяй прыступкі. Там быў абавязковы мінімум, тут — усяго толькі гонар, ці як гэта назваць. Там было яшчэ нешта нутраное, што вяло, падганяла і яго, і людзей. Цяпер яму зда-

валася, што гэта нутро пачало знікаць. Ці, можа, гэта толькі ён сам перастаў адчуваць яго, можа, ён згубіў нюх на яго? Усім вядома: калі мне баліць, здаецца, баліць цэламу свету... Можа, так і тут?

Іван Ігнатавіч адчуваў, што ён за гэтыя гады пастарэў, пастарэў на шмат гадоў... Ніхто гэтага, мусіць, не бачыць, для ўсіх ён, можа, усё той жа, як і тады, калі пачаў рабіць старшынёй, а сам ён гэта ведаў...

Іван Ігнатавіч прачыніў дзверы ў дзіцячы пакой, пастаяў на парозе. Дачка і сын ціха — трэба было затаіцца, каб пачуць — пасопвалі, і яму стала добра ад гэтага іхняга спакойнага чыстага сну.

Выйшаў на двор. Пачынала развідніваць — мякчэла, сінела на ўсходзе неба.

«Хоць бы заўтра была добрая пагода. Пад дажджом не нагуляеш...»

Кожны год «свята хлебароба» іскраўцы гуляюць позняй восенню; і кожны год — на Язэпавым Грудзе, у дубах. Наўрад ці ведае хто, чаму гэты груд завецца Язэпавым, але месца надта прыгожае: дубы выйшлі з лесу магутнай талакой, рассыпаліся па роўным сухім доле, распасцёршы кроны, быццам выйшлі для нейкага вялікага наступу,— і раптам спыніліся: перад імі, далей унізе, была рака, за ракой — нізінны луг — землі «Партызана»...

Ля канторы ўжо стаяў «газік», з-за яго, выціраючы рукі анучай, выйшаў Пеця, шафёр.

— Ты куды гэта ўчора ездзіў? — замест прывітання спытаў старшыня.

— Калі гэта?

— Не калікай. Вечарам.

— Да цешчы.

— Дык тут жа і кілометра няма.

— Ды я... Жонка папрасіла: падкінь ды падкінь, спяшала некуды.

— Яна табе скора загадае за хлеў вазіць... Глядзі мне.

— Не загадае, Ігнатавіч...

— Бензін ёсць?

— Поўны бак. Толькі што заліў.

— Тармазы?

— Добрыя.

— Ладна. Сам паеду...

— Па калгасе?

— Ага, па калгасе.

— Болей нічога не трэба, Ігнатавіч?

— Болей?..— Іван Ігнатавіч задумаўся. Пеця падабаўся яму. Ён належаў да тыпу тых людзей, якім нічога не трэба тлумачыць двойчы. Ён пытаўся пра тое, пра што нельга было не спытаць, і рабіў тое, што трэба было зрабіць. Часта рабіў нават болей, чым мог бы зрабіць сам Іван Ігнатавіч.— Не, Пеця, болей нічога не трэба.

У кабінеце было поўна, сядзелі ля стала, на крэслах паўз сцяну. Гарэла ўсяго дзве лямпачкі ў прыгожым пяціражковым люстры пад столлю. Іван Ігнатавіч толькі бліснуў вачыма ўгору, прайшоў да свайго месца за пярочным сталом:

— Што, так у цемнаце і будзем слепнуць?

— Ды Міхайла не дае ўключаць, усё эканоміць, беражэ ўсё...— глыбокім, як рэха, басам адазваўся Памíла, галоўны інжынер, і павярнуў буйную грывастую га-

лаву да Мамона, галоўнага бухгалтара, спытаў у таго пачцівым галаском: — Іванавіч, можна ўключыць?

— Не, няможна!..— узвіўся Міхайла.— Няможна! Табе дай волю, дык ты ўсё спішаш, усё на стружку пусціш!

Усе грымнулі рогатам: планёрка пачыналася, быццам па рытуалу,— перастрэлкай паміж галоўным інжынерам і галоўным бухгалтарам... Колькі працуюць разам, стольki і вядуць гэту вайну, не даходзячы, праўда, ніколі да сапраўднай варожасці.

Люстру, аднак, уключылі на ўсе пяць ражкоў, і ў кабінеце стала сліпуча-ярка, і засвяціліся вясёлым бляскам вочы, заварушыліся людзі, быццам дасюль нешта ім замінала адчуваць сябе вось так проста. Іван Ігнатавіч таксама ўсміхнуўся, хоць адразу, як толькі зайшоў, усе заўважылі, што ён нечым нібыта заклапочаны. Ды ці мала чым можа быць заклапочаны старшыня і ці першы раз ён заклапочаны?.. На тое ён і старшыня.

Іван Ігнатавіч пераглядаў складзеныя стосікам перад ім паперы: што падпісваў, што адсоўваў убок, а сам думаў пра тое, каго б з гэтых людзей пакінуў ён на сваім месцы, калі б давялося. Калі б давялося самому ісці адсюль. Ён ніколі раней не думаў пра гэта, сам ведаў, што гэта толькі гульня, яна сёння прыйшла яму ў галаву, але яму было цікава весці яе.

«Галоўнага агранома, Іскарку?» Той сядзеў перад старшынёй на стыку сталоў, лысаваты ўжо ў свае сорак год. Сёння ён быў чамусьці маўклівы. «Не, надта шмат гаворыць. Не ўмее маўчаць. І спецыяліст добры, і чалавек няшкодлівы, а маўчаць не ўмее. Кожны чалавек павінен умець маўчаць».

Іван Ігнатавіч быццам і не глядзеў ні на кога — так, блісне вачыма, потым возьме другую паперку, чытае...

«Памілу?..» Яны заўсёды садзіліся адзін проці аднаго і бліжэй да старшыні — галоўны інжынер і галоўны аграном. Галоўны інжынер і зараз узвышаўся за сталом магутнай фігурай, вярнуў галаву да бухгалтара. Не паскупіўся бог — адваліў усяго поўнай мерай: і здароўя, і весялосці. «Яго можна было б... Грубаваты трохі, грубаваты, не абчэсаны. Людзей добра ведае, і людзі яго любяць... Абатрэцца, а?..»

«Парторг? Надта мяккі. І характарам, і... Пяцёра дзяцей, жонка хворая. А чалавек глыбокі, далікатны...»

«Брыгадзіры?..» Па няпісанай традыцыі яны займалі крэслы заўсёды паўз сцяну, як птушкі на дроце.

Тут паслядоўны, лагічны ланцужок думак Івана Ігнатавіча перарваўся: вочы яго дабеглі да кутка — там сядзела Ніна, практыкантка з сельскагаспадарчай акадэміі. Яна не глядзела на Івана Ігнатавіча, але адчула яго мімалётны позірк, правяла рукамі па спадніцы, нібы хацела абцягнуць яе ніжэй, пакінула рукі на каленях.

«Яе? А што ты думаеш? Вельмі чэпкая... І характар ёсць, ага, ёсць характар. Толькі практыка трэба, практыкі не хапае. Праверыць на людзях — спачатку радавым спецыялістам, з прыцэлам да галоўнага... А? Хаця, ізноў, жанчына... Выйдзе замуж, сям'я, дзеці... Спецыяліст-то добры...»

Іван Ігнатавіч падпісаў пуцёўкі на машыны, але ўбок не адсунуў, быццам рашаў нешта, а сам папрасту адцягваў надалей самую цяжкую сённяшнюю работу — дзяльбу месц, прэмій. Ніколі гэта працэдура не праходзіла без

крыкаў, без сварак, хоць, здавалася б, усім загадзя вядома і ў каго якія ўраджаі, і якія надоі малака, і які парадак на палях і дварах — і ўсё астатняе, а кожны брыгадзір стараецца даказаць, што яго брыгада лепшая. І будзе даказваць доўга яшчэ пасля таго, як свята міне, даказваць усюды, дзе можна і дзе няможна...

— Хто з раёна будзе?

Да Івана Ігнатавіча не адразу дайшоў сэнс гэтага пытання ў роўнай гамане, што стаяла ў кабінеце. Пытаўся парторг, міргаючы блізарукімі вачыма. Іван Ігнатавіч з радасцю ўхапіўся за гэта пытанне. Узяў тэлефонную трубку і вялікім пальцам гэтай жа рукі — правая ўсё яшчэ была занята ручкай — колькі разоў крутануў дыск апарата. Сам ён нават не нахіліўся бліжэй да стала — як сядзеў, адкінуўшыся да спінкі крэсла, узлёгшы на правы локаць, так і набіраў тэлефонны нумар.

— А мы зараз праверым, што тут доўга варажыць,— сказаў нібы сам сабе, абвёўшы вачыма людзей, што сядзелі перад ім, за сталом, паўз сцяну. Усміхнуўся, паказаўшы дробныя, як у дзіцяці, роўненькія зубы.

— Алё?! Люся? Добрай раніцы! Як спалася? Дрэнна? Што ты кажаш? Табе — і дрэнна. Не можа быць! Ці то зямля пайшла па чужой арбіце, ці я ўжо такі стары стаў, нічога не разумею,— голас у Івана Ігнатавіча быў вясёлы ў меру для такой тэлефоннай гаворкі.— Тады дрэнна. Дрэнна, дрэнна, дрэнна,— гэта Іван Ігнатавіч прагаварыў, маючы на ўвазе нешта і сваё, і ўсе, хто быў у кабінеце, зразумелі гэта, ды і старшыня адразу перастаў усміхацца.— А са́м на месцы? Сёння? Праз трыццаць мінут? Усё роўна, скажы, што я званю. Алё... Павел Пятро-

віч? Добрага дня вам... Ага, які тут сон... Дык што гэта такое, Павел Пятровіч? Вы ж абяцалі быць у нас на Дні хлебароба... Калі? Заўтра, у Язэпавых дубах. Людзі ведаюць, чакаюць! Як, каго чакаюць? Вас, Павел Пятровіч... Усё падрыхтавана: і парад тэхнікі, каравы перадавікам, канцэрт, музыка, буфет... Усё як у людзей... Дык як, Павел Пятровіч?

Іван Ігнатавіч падсунуў да сябе тэлефонны апарат, гаварыў ціхім голасам, не гаварыў, а прасіў: усе адчувалі, што ён вельмі хоча, каб Павел Пятровіч прыехаў, але ўсе адчувалі і тое, што першы сакратар не прыедзе. Адчувалі па голасе самога ж Івана Ігнатавіча: ён не пагрубеў, а стаў болей адрывісты.

— Што Сяргей Ільіч... Ён летась быў. Прыедзе, пачне лекцыю чытаць... А ў нас свята... Ды і вы, Павел Пятровіч, і вы б перадыхнулі, а? Адпраўце Паласкуна ў вобласць, усё ж старшыня выканкома, а самі да нас, на тыя дарожкі, дзе некалі партызанілі? А, Павел Пятровіч?.. Што яшчэ? Мне трэба вас бачыць, вельмі трэба. Ёсць адно... Не, гэта не райкомаўская гаворка. Тут зусім іншае,— ён перастаў гаварыць, доўга слухаў, што гаварыла трубка, потым сказаў па-дзелавому проста: — Ну што ж, не — дык не. Тады шчаслівай дарогі. І... Павел Пятровіч, намякніце Сяргею Ільічу, каб ён надта доўга не гаварыў, а то сапсуе людзям свята... Хіба шмат трэба, каб сапсаваць... Толькі не кажыце, што я званіў... Вы ж ведаеце, ён і так мяне не вельмі любіць, а тады і зусім прападу...

Іван Ігнатавіч паклаў трубку, але рукі з апарата не здымаў, паглыблены ў сябе, потым быццам ачнуўся, ускі-

нуў галаву, паглядзеў на сакратара партыйнай арганізацыі:

— Дык што, Гаўрылавіч, пачнём?..

Сядзелі доўга, абгаварылі ўсё, што трэба было на заўтра, падзялілі месцы і прэміі, крычалі, даказвалі — кожны ўсім і ўсе кожнаму, і калі ўсе паўставалі ісці — устала і Ніна. І тады Іван Ігнатавіч спытаў яе:

— Ніна, вы не хочаце праехаць са мной па брыгадах, паглядзець, што і як?

Яна пазірала на яго, маўчала: пытанне было нечаканае, усе павярнулі да яе галовы, а Міхайла ўхмыльнуўся, падцяў губы, быццам намякаючы на нешта. Іван Ігнатавіч зіркнуў на яго, але стрымаўся. Каб трохі нешта вытлумачыць, сказаў Ніне:

— Вы ж ад нас скора едзеце, і я хацеў паказаць вам калгас...

Яна згадзілася і, здаецца, узрадавалася.

У Івана Ігнатавіча ніякіх планаў не было, было неспакойна на душы, у такія моманты ён заўсёды супакойваў сябе тым, што садзіўся за руль і ехаў. Ён чамусьці падумаў, што Ніне будзе добра паехаць разам з ім па калгасе. Ён не хацеў прызнавацца, што заставацца аднаму — нават у машыне — яму будзе цяжка.

Загадзя дарогу ён ніколі не выбіраў, ехаў абы-куды — па раллі, па сенакосе, цераз канавы, ведаў: «газік» вывезе. Так было і цяпер. Праехаўшы па пасёлку, выскачылі на гравейку, з яе звярнулі на палявую дарогу, а там пайшло тое, што можна назваць толькі «язда ўсля-

пую», дзе цяжка сказаць, што там у дзесяці метрах наперадзе і як будзе адтуль вылезці. Два разы ледзь не забурыліся ў канаву, «газік» толькі адным пярэднім колам зачапіўся за край яе, зад ішоў юзам, і Ніна хацела ўжо вылазіць, ці памагаць машыне, ці самой ратавацца, але Іван Ігнатавіч сказаў нецярпліва «сядзіце» і неяк сам, круцячы рулём і пераключаючы хуткасці, вывеў машыну наверх. «Сядзіце!» — гэта было другое, што сказаў Іван Ігнатавіч пасля таго, як выехалі. Першае было: «Я вас правязу па перыметры нашых зямель. Усяго перыметра не звяжам, а ўсё ж тое-сёе ўбачыце...»

А так — маўчалі: Іван Ігнатавіч за рулём, яна на сядзенні побач, учапіўшыся рукой за металічную дужку — пальцы аж пабялелі ў суставах.

Што можна ўбачыць на межавых землях? Гнілое, нікому не патрэбнае высахлае балотца на пару гектараў, усё папоранае дзікімі свіннямі, трохкутнічкі агрэхаў на месцах завароту трактараў, пасцяганае з поля каменне, забытую металічную стальвагу з баронамі («Я яму ўсыплю»,— сказаў Іван Ігнатавіч, маючы на ўвазе Памілу), дарогі, сцежкі...

Івану Ігнатавічу было прыемна, што гэта дзяўчынка згадзілася паехаць з ім і цяпер сядзіць на сядзенні побач, учапіўшыся ў дужку, нічога не гаворыць, адно глядзіць то наперад, то па баках сваімі чыстымі шэрымі вачыма.

Хай глядзіць, хай думае...

Яна падабалася яму, гэта дзяўчынка. Не толькі сур'ёзнасцю сваёй, быстрым розумам. Была ў ёй прамата і непасрэднасць, якіх сам Іван Ігнатавіч трохі пабойваўся,

але яго цягнула да яе. Мусіць, гэта адчуў і галоўны бухгалтар, а то чаго б ён ухмыляўся?

— Вы дружыце з першым сакратаром? — спытала Ніна.

Іван Ігнатавіч уважліва паглядзеў на яе:

— Яму пяцьдзесят пяць, мне — трыццаць пяць.

— Гэта нічога не значыць.

— Ён разумны мужык.

Яна варухнула губамі, можна было падумаць, што хацела ўсміхнуцца.

— Разумных людзей шмат.

— Разумных шмат, ды мала з кім можна пагаварыць пра ўсё.— Іван Ігнатавіч зрабіў націск на словах «пра ўсё».— А з ім можна. І я хацеў, каб ён пабыў на нашым свяце. Я хацеў паглядзець на наша свята яго вачыма.

Ніна памаўчала.

— Вы вельмі паважаеце яго.

— І сябе таксама,— сказаў ён зусім сур'ёзна, як пра каго другога.

Млеў чысты дзень, павуціна слалася па раллі, здавалася, усё поле заткана ёю.

Яны стаялі ля дзічкі, той самай, якую трактарысты пашкадавалі і якая сёння саснілася Івану Ігнатавічу. Лісце на ёй засталося толькі ўгары, на самай макаўцы, было яно ці ярка-рдзянае, ці рудое, і ў Івана Ігнатавіча раптам зашчымела ў грудзях.

Ён перавёў позірк на Ніну.

— Прыязджайце да нас працаваць.

— Не ведаю, куды размяркуюць.— Ніна як быццам пачынала злавацца, і злавацца на яго, Івана Ігнатавіча.

— Размеркаванне я бяру на сябе.

— А вы... смелы.— Гэта ўжо быў выклік. На смуглых Нініных шчоках плямамі выступіла чырвань. Іван Ігнатавіч зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў, паўтарыў:

— Размеркаванне я бяру на сябе.

— Не ведаю...

— Зробім запрос — і ўсё тут.

— Я не пра гэта.— Яна паглядзела яму ў вочы.— Вам будзе цяжка са мной. Ды і мне. Ага, нам будзе цяжка...

Іван Ігнатавіч ведаў, што гэта дзяўчынка гаварыла праўду: яму будзе няпроста з ёй, і ўсё ж яму хацелася, каб яна прыехала ў іхні калгас.

Недзе далёка ў небе адыходзілі журавы; іх галасы былі ледзь чутны, як звон балабона ў засланым туманам лесе, і звон гэты новым сумам лёг на сэрца Івана Ігнатавіча.

Лазня стаяла недалёка ад краю стромы, падмытай колішнімі поўнымі водамі, на самым заломе, дзе рака брала крута ўбок. Рака даўно адступіла ад берага, пакінуўшы паску мучністага пяску, памялела, але тут, на заломе, глыбіні хапала метраў на чатыры, і, выскачыўшы з лазні пасля палка, можна было не баяцца нырнуць з кручы.

Трохі ніжэй па плыні быў мост, ён злучаў дзве цэнтральныя брыгады, звілістай мяжой між якімі здавён была рака. Яна дзяліла луг, поле, кусты...

Метраў пяцьсот насыпной дарогі, адзін канец якой вёў у раён, другі — у сельсавет, з бакоў абсядаў парадзе-

лы ўжо, стары шалудзівы алешнік, зарослы чаромхай і вербалозам.

Вясной тут прытарна пахла чаромхавым цветам і аж заходзіліся салаўі.

Чаромху ламалі цэлымі абярэмкамі, а ёй быццам толькі гэта і трэба было: кожную вясну кусты абсыпала белым цветам яшчэ гусцей.

І любілі слухаць салаўёў: яны добра былі чуваць і з адной брыгады і з другой.

Выйдзе які-небудзь стары дзядок ноччу на двор, прытknецца ля плота — і раптам пачуе цёхканне, высільванне салаўя. Можна жыццё пражыць, можна ўвесь свет аб'ездзіць, усяго наглядзецца, а пачуеш салаўя, як ён стараецца, аддаецца ўвесь песні, як бы гэта яго апошні, развітальны канцэрт,— і захаладнее, засадніць у грудзях. І ўсё жыццё прамільгне ў адзін момант, быццам і было яго толькі ад таго салаўя, якога пачуў некалі ў маладосці, да гэтага, цяперашняга, быццам і салавей быў адзін, і песня адна, толькі то была ранішняя, а гэта во — вячэрняя. І доўга стаіць дзядок, разявіўшы рот, потым не вытрымае, махне рукой, усклікне: «Ну і дае, ядры яго вош!» — уздыхне і хуценька пойдзе ў хату, несучы ў сэрцы крыўду не то на салаўя, не то на сябе, не то так на некага...

Хто не любіць позна спаць, мог наслухацца салаўёў.

Калі надумалі будаваць лазню, усе ў адзін голас сказалі, што ставіць яе трэба толькі тут: і абедзвюм брыгадам добра, і месца высокае, і самім богам створаны халодны басейн. Пра салаўёў ніхто не гаварыў, але былі тут і яны...

Сёння быў мужчынскі дзень. На лаўках — папрыбіваных да слупкоў пагабляваных дзюймовых дошак — сядзелі мужыкі з венікамі, бялізнай, курылі, расказвалі анекдоты, выскаляліся.

Сярод мужыкоў Іван Ігнатавіч убачыў і галоўнага інжынера, успомніў пра забытую на полі стальвагу з баронамі, хацеў завярнуць — укінуць як трэба, але ў апошнюю хвіліну перадумаў, рашыў зайсці яшчэ на новы кароўнік: Паласкун не абыдзецца, каб не зазірнуць заўтра і сюды...

Марцін быў ля плота, калі Іван Ігнатавіч выйшаў з кароўніка. Выйшаў, доўга выціраў боты аб траву, потым саломай: кароўнік яшчэ не закончаны і цяжка прайсці, каб не начапляць на ногі гразі. Нарэшце старшыня разагнуўся, спаласнуў рукі пад кранам ля сцяны і пайшоў цераз дарогу, да Марціна.

«Нешта ж адзін ходзіць сёння — ні загадчыка фермы, ні брыгадзіра?» — падумаў Марцін, беручы з зямлі жэрдку і прымерваючыся прыбіць яе. Жэрдкі былі адбіты, каб можна было заехаць на соткі з машынай. Дзве глыбокія канавы — сляды ад колаў цяжка гружанай машыны — вялі на соткі, перак загонаў. На канцы следу чарнелі дзве высокія кучы нядаўна ссыпанага торфу — машына была з прычэпам.

Пасля кароўніка Іван Ігнатавіч збіраўся ісці дамоў, на цэнтральную сядзібу, але ўбачыў торф і Марціна. Марцін стараўся прыбіць жэрдкі на месца, каб не кідаўся ў вочы разгароджаны пралёт.

— Не спяшайся, дзядзька, мо лішнюю работу робіш? — сказаў старшыня, спыніўшыся на краі дарогі.

— Чаму гэта лішнюю? — адказаў Марцін, не паварочваючыся, пакуль не прыбіў цвік. Узяў з зямлі другі канец жэрдкі, прыставіў, стукнуў пару разоў сякерай.— Чаму гэта лішнюю? — перапытаў, павярнуўшыся да старшыні, быццам незадаволены нечым.

Старшыня глядзеў на Марціна прамым напружаным позіркам. Быццам хацеў сказаць, што яму, старшыні, усё вядома і калі ён пытаецца, то болей дзеля формы, чым дзеля ісціны. Болей дзеля яго ж, Марцінавай, карысці. «Галоўнае ў рабоце начальніка — хай і маленькага — адчуванне сваёй праваты. Ты правы ўжо тым, што цябе паставілі начальнікам. Для сябе ты можаш і памыляцца, а для тых, над кім ты начальнік, ты заўсёды павінен быць правы. Іначай людзі не будуць верыць табе. Іначай ты не зможаш патрабаваць ад іх,— вучыў яго некалі былы старшыня гэтага калгаса Жаўна. Вучыў, уступаючы сваё месца, ідучы на пенсію. Хоць ісці яму надта не хацелася. Можна лічыць, што яго папрасілі пайсці.— І трэба, каб людзі заўсёды адчувалі дыстанцыю. Паміж табой і імі. Мяжу. Ніякага панібрацтва. Тут ты, а там — яны. А між вамі — мяжа»,— працягваў павучаць Жаўна, збіраючыся ехаць у горад, у свой дом, у якім усе гады яго старшынёўства жыла яго сям'я. Жыла без яго. Ён тут, у калгасе, жонка з дзецьмі — там. І гэтак усе дзесяць год... Ён — сабе, яны — сабе.

Усю гэту прымітыўную мудрасць Жаўны Іван Ігнатавіч спасціг даўно. Не шмат часу трэба было. Спасціг — і... не спадабалася яму яна. Не спадабалася... Акрамя хі-

ба «дыстанцыі». «Дыстанцыя» яму трэба была. Яна дапамагала яму жыць спакойна. Можа, не так спакойна, як незалежна. Незалежна і ад начальства, і ад людзей. Праца — гэта адно, а маё жыццё — зусім іншае. І чым меней чужых вачэй будзе бачыць, будзе ведаць пра гэта «іншае», тым лепей, тым яно болей трывалае... Спачатку Іван Ігнатавіч думаў, што так яно і павінна быць. Цяпер ён ведаў, што тут нешта не так. Ён усё болей адчуваў, як нешта шчырае, чалавечае адмірае ў яго душы, пакідаючы струпы. Яны не зажывалі, гэтыя струпы, балелі, нылі...

Старшынёў позірк Марцін сустрэў спакойна, нават абыякава. Чакаў, што той яшчэ скажа.

— Кажу, можа, яшчэ прывязе, зноў трэба будзе разгароджваць,— старшыня нібыта і жартаваў, але вочы яго не смяяліся, праўда, і ў голасе не было строгасці.

Была нейкая вяласць.

Марцін прыкмеціў гэта ў самым пачатку, але адказаў упартым, бясстрасным голасам:

— Болей не прывязе.

— Пабаіцца?

— Проста я не прасіў яго. Не маленькі, ведаю, што можна, а што не. Добра, што гэта прывёз.

Старшыня ступіў колькі крокаў да плота, абапёрся на жэрдкі, доўга глядзеў на машынны след, потым на Марцінаў сад, на нядаўна абшаляваны і пафарбаваны дом, крута павярнуўся да Марціна:

— Хто?

Цяпер яны стаялі блізка адзін ад аднаго, твар у твар.

— Што «хто»? — непанятліва перапытаў Марцін.

— Хто скінуў торф, пытаю? — старшыня надаў голасу належную строгасць.

— Ах, вы пра торф...— Нешта, як падабенства пустой усмешкі, шарганулася па губах старога.— А я думаў, можа, сур'ёзнае што. А вы пра торф... Нянаскі, нейкі незнаёмы. Ехаў на самазвале, самазвал з прычэпам, высунуўся з кабіны, пытаецца, ці не трэба торф. Чаму ж не трэба?.. Карову збыў, у хляве няма каму стаяць, а ўдваіх з бабай ці шмат настоіш. Трэба, кажу. Адбіў я канцы жэрдак, ён завярнуў на гарод, скінуў торф і паехаў далей...

— Выходзіць, нянаскі?

— Выходзіць...

— І адразу паехаў?

— Паехаў... Чаго ж ён будзе стаяць? У яго ж, мусібыць, таксама графік, план, яму на гадзінніку стрэлкі ніхто не падкручвае...

— І ў хату не зайшоў? — Старшыня пытаўся адрывіста, ціхім голасам. Каб пачуць, трэба добра слухаць. Гэта таксама адзін з тых азбучных тактычных ходаў. Ціха — значыць глыбока, значыць упэўнена. Хай чалавек думае, што старшыня ўсё ведае. Так ён рабіў заўсёды, і такая тактыка дапамагала яму. Галоўнае, ашаламіць, не даць апамятацца вінаватаму, і ён сам ва ўсім прызнаецца. А што Марцін быў вінаваты — даказваць не трэба. Вунь ён, доказ: дзве глыбокія канавы цераз усе соткі і торф, дзве кучы торфу.

Іншым разам Іван Ігнатавіч так і зрабіў бы. Выклаў бы казыры на стол: глядзі сам, рабі вывады. Але сёння нешта не давала гэта зрабіць. Не то стомленасць,

не то нешта іншае, чаму цяжка было знайсці азначэнне, стрымлівала Івана Ігнатавіча.

— Дык, кажаце, адразу і паехаў? І ў хату не зайшоў? — старшыня вёў сваю лінію далей... Ён ведаў, што падчапіў рыбіну на кручок, і хацеў паглядзець, як яна будзе трапятацца. Праўда, рыбіна, здавалася, не чула кручка ці адкусіла ўжо і праглынула разам з нажыўкай.

— У хату зайшоў, чаму ж не зайсці. Я да такога не папушчуся, каб чалавека ў хату не пазваць. Не-е-е, гэта не наша парода... Ды спяшаўся надта, надта спяшаўся чалавек, дайжа за стол не захацеў сесці. Квасу толькі і выпіў,— гаварыў роўным голасам Марцін. Быццам тое, што так займала старшыню, для яго было пустата і нікчэмнасць. Самое нішто.

— Значыць, ён вам самазвал з прычэпам торфу, а вы яму кварту квасу? — усміхнуўся старшыня.

— Ага, кварту квасу толькі і выпіў. Гарэлкі яму няможна было, за рулём... Вось вы,— Марцін зірнуў на Івана Ігнатавіча, але так, мімаходзь,— вы калі за рулём, таксама трусіце ўзяць чарку. А ён — шафёр, ды і машына вялікая, і дарога дальняя...

— Канечне, за рулём...— Іван Ігнатавіч усё яшчэ ўсміхаўся. Рыба выслізнула, пайшла гуляць, трэба наноў падманваць. Папраўдзе, дык і не хацелася гэта рабіць. Іван Ігнатавіч пашкадаваў, што пачаў гэту гаворку. Але адступаць было позна. Тут ужо быў прынцып. Іван Ігнатавіч не меў права пакінуць гэты факт. Сабрацца і пайсці, быццам нічога не бачыў. Па вуліцы хадзілі людзі. Канечне, яны бачылі старшыню і Марціна і, канечне, зда-

гадваліся, пра што ідзе гаворка тут, ля плота... І разам з тым нешта ўтрымлівала ад прамой, лабавой атакі. Можа, сам Марцін. Ён харошы спецыяліст, харошы цесля. Ён быццам гуляе з сякерай. І гэты незакончаны кароўнік — таксама яго работа. І зноў... гэта яго спакойная абыякавасць...

Цераз Марцінава плячо старшыня пазіраў на кароўнік, дзе руды пагорак крута спускаўся ў нешырокую лагчыну, якую халоднай тонкай паскай перараэала рэчка. На тым беразе рэчкі, на пагорку, белым кубікам стаяла лазня. Там ужо мыліся. Адзін за адным з венікамі пад пахамі на пагорак падымаліся мужчыны. Каторыя затрымліваліся перад лазняй, збіраліся ў кучу па два-тры, курылі, каторыя адразу прападалі за дзвярыма. І Івану Ігнатавічу раптам здалося, што робіць ён нешта не тое, што трэба, і ён зазлаваў на сябе, павярнуўся:

— Дык хто?! — Цяпер з голасу прапала мяккасць і просьба.

— Ну, які вы смешны, старшыня... Ці мала тут машын за дзень пераварочваецца? — стары варухнуў брывамі на дарогу і далей за рэчку, на гравейку. Яму ўжо гаворка гэта таксама апрыкрала.

— Учора толькі нашы машыны вазілі торф,— упарта паўтарыў старшыня.

— А то было заўчора... Я вярнуўся з кароўніка, а ён стаіць, пытаецца, ці не трэба торф. Чаму ж не трэба, кажу, трэба.— Марцін пайшоў у другі канец пралёта, стукнуў колькі разоў па цвіках — праверыў, як прыбіты жэрдкі, вярнуўся да старшыні.— Трэба, кажу. Ён і ссыпаў.

— Заўчора я праязджаў тут, ніякага торфу ў вас не было...

— Дужа вы там бачылі. За рулём не шмат убачыш.

— Ніякага торфу ў вас не было. І плот быў загароджаны... А ля Максіма стаялі «Жыгулі»... Стаялі?

— Ля Максіма стаялі. Гэта праўда. Сын з Мінска прыязджаў.— Марцін быццам папярхнуўся, палез у кішэню, дастаў «Прыму», доўга прыпальваў цыгарэту.— Ага, сын з Мінска прыязджаў...

— А вы кажаце, не шмат убачыш... Убачыш, калі вочы ёсць. Дапусцім, я ўбачыў, што вам торф прывезлі ўчора пад вечар. На МАЗе, праўда?

— Якая розніца, на МАЗе ці на ГАЗе? Прывезлі, і дзякуй ім...

— Відаць, не за адзін дзякуй прывезлі, га? — Іван Ігнатавіч усміхаўся. Ён ішоў на прымірэнне. Праўда, гэта прымірэнне не павінна выглядаць як паражэнне, паражэнне яго, Івана Ігнатавіча. Ён павінен паставіць апошні знак. Хай гэта будзе пытальнік, але гэта павінен быць я г о знак. Іван Ігнатавіч пазіраў на Марціна, чакаў яго згоды.

Стары надоўга затрымаў позірк на старшынёвым твары, загаварыў ціха, спакойна-злосным голасам. Ён перайшоў на «ты».

— Слухай, старшыня, што ты да мяне прыстаў? Што ты мяне на споведзь бярэш? «Хто», ды «калі», ды «чаму»? Трэба табе гэты торф — дык забірай. Падганяй машыну і забірай. А мяне не церабі, душу не вярэдзь. Навошта гэта табе? Там, можа, і так страшней страшнага.

Івана Ігнатавіча быццам варам абдало. «Навошта гэта табе?» І праўда, навошта? На сэрцы стала прыкра і гідка, быццам яго злавілі на нечым непрыгожым. «Навошта?» Няўжо гэта так цяжка зразумець? Няўжо пра гэта табе гаварыць?

Іван Ігнатавіч зноў пазіраў на рэчку... Дзверы ў лазні расчыніліся, дыхнулі парай, з чорнага праёма выскачылі два голыя расчырванелыя чалавекі, прабеглі да абрыву і паляцелі ў ваду. Яму раптам самому захацелася быць там, сярод мужчын, распрануцца, добра папарыцца, і пасля баўтануцца ў халодную ваду. Здаецца, ён ужо адчуваў абпальваючы холад ледзяной вады на распараным целе. Але гэты холад ішоў не ад вады, а ад старога Марціна, ад яго позірку, ад яго слоў... «Навошта гэта табе?» Іван Ігнатавіч палез у кішэню, пашукаў папярос, не знайшоў. Яны засталіся ў машыне... «Навошта?» Папрасіў перасэлым голасам:

— Дайце закурыць...

Браў цыгарэту, а пальцы дрыжалі. Стараўся, каб Марцін нічога не бачыў, ды ад старога не шмат схаваеш. Некалькі разоў зацягнуўся, супакойваючыся... З дзвярэй лазні выскачылі яшчэ два чырвоныя чалавекі і кульнуліся з абрыву ў ваду. У вадзе прабылі яны нядоўга, вылезлі на бераг, нырнулі назад, у дзверы лазні. «А хто забараніў табе, як ім, быць там: хвастацца на палку, а пасля голым — у ваду?» Хто забараніў? Несалідна? Голы старшыня ў рацэ? Дыстанцыя?..

Марцін уважліва, з новай цікаўнасцю паглядзеў на Івана Ігнатавіча, дакрануўся да яго рукі, сказаў ціхім голасам:

— Чаго мы тут стаім? Пайшлі ў хату.

Старшыня курыў, быццам сказана было не да яго.

— Не бойся, я прасіць у цябе нічога не буду... І па сяле не панясу... Ты пра гэта не думай...

— Я не пра гэта думаю...— нешта падобнае на ўсмешку скрывіла старшынёвы губы. І папраўдзе, ён думаў пра тое, што заўтра свята, а радаснага ўзрушэння ў яго не было. Калгас заняў трэцяе месца па раёну, па льну на другое выскачылі. А дзе ж тая радасць, якая, здавалася, павінна была быць, дзеля чаго ночы не спаў? Ці ўсякая радасць — гэта ўсяго толькі чаканне радасці? Што гэта за капрызлівая птушка — радасць? Ці яе зусім няма? Ёсць толькі словы пра яе... Дзіўная рэч. Калі табе цяжка, калі табе трэба помач нейкая, калі ў цябе бяда, ты можаш ісці да кожнага чалавека. А з радасцю, як быць з радасцю? І ці радасць гэта? Калі радасць, то чаму так трывожна на душы? І адкуль гэта глухая незадаволенасць? Ён сам да канца не разумеў, што з ім сёння творыцца. Трэба было б ісці дамоў... Але ўбачыў гэтую машыну торфу. Канечне, нехта са сваіх прывёз. Можна знайсці, уклеіць штрафу... Замест прэміі заўтра — штраф. Хай ведае, што робіць.

Ці зрабіць выгляд, што нічога не бачыў? Як добры сабака не можа не падаць голас, калі нехта праходзіць праз двор, так і ён. Рашыў падаць голас? Гаўкнуць рашыў? Сабаку болей за ўсіх трэба? Не, не тое, не тое ты гародзіш, таварыш старшыня. І зноў Іван Ігнатавіч пазайздросціў людзям — тым, што чырвоныя выскаквалі з лазні і беглі да абрыву. І пашкадаваў, што толькі цяпер падумаў пра лазню. Пахвастаўся б, памыўся... І што даў-

но не парыўся, абыходзіўся ваннай і душам. І што заўтра не будзе Паўла Пятровіча...

— Я думаю не пра гэта.— Ён зноў усміхнуўся. Губы ўздрыгнулі, вочы звузіліся, і ў іх стары Марцін убачыў застаялы сум.

— Пайшлі ў хату,— сказаў ён цвёрда і сам пайшоў першы — па сцежцы паўз плот, убітай да глеевай сінявы. Ішоў не азіраючыся: ідзе за ім старшыня ці не ідзе — упэўнены, што ідзе. Толькі цяпер, ідучы ўслед за старым, старшыня ўбачыў, што плечы ў таго згорбленыя. Так горбіць людзей толькі старасць. Старасць і бяда. Старшыня не думаў пра тое, чаму гэта раптам ён ідзе за гэтым старым з прыгорбленымі плячыма. Яму сказалі, і ён ідзе. То заўсёды загадваў ён, і людзі рабілі тое, што ён загадваў, а гэта яму сказалі ісці ў хату, і ён ідзе... Ці, можа, ён даўно чакаў такой каманды? Можа, яму даўно хацелася такога простага голасу, які загадаў бы яму ісці некуды і рабіць нешта. Як некалі, у дзяцінстве, загадваў бацька... Як гэта добра, калі за цябе нехта думае.

Стары адчыніў веснічкі, пачакаў, калі ў іх пройдзе старшыня, зачыніў, пайшоў у хату.

Першае, што адразу забрала ўвагу старшыні, як толькі зайшлі ў хату, быў фотаздымак, вялікі, сантыметраў, можа, трыццаць на сарок, за шклом, ён вісеў на сцяне. На фотаздымку быў маладжавы, можа, нават надта маладжавы чалавек — здавалася, што яго шчокі і прыпрыпухлыя губы яшчэ не ведаюць, што такое халодны метал брытвы.

Гэта быў Марцінаў сын, Іван Ігнатавіч пазнаў яго адразу: летась падвозіў на машыне. Ён ехаў на машыне, а

яны з дачушкай ішлі пеша. Гады два дачушцы. Ён тады звярнуў увагу на яго твар: такі тонкі і такі далікатны. І зараз успомнілася, як падсаджваў ён дачушку ў машыну. Узяў пад пашкі яе, сукеначка задралася, паказаліся жоўтыя трусікі, загарэлыя, пераціснутыя гумкай, поўныя ножкі. Іван Ігнатавіч адвярнуўся, быццам убачыў нешта такое, што не павінен быў бачыць... І цяпер у душы Івана Ігнатавіча варухнулася нешта вельмі цёплае...

І першую чарку выпілі моўчкі, як за нешта агульнае, абодвум добра вядомае, пра што не трэба гаварыць, але што звязала іх, зрадніла. Яны толькі паглядзелі адзін аднаму ў вочы, кіўнулі галовамі і выпілі.

— Жонка паехала ў горад, на колькі дзён застаўся дома адзін,— сказаў Марцін, каб растлумачыць чалавеку, чаму ў хаце няма гаспадыні. Старшыня ўсё гэтак жа моўчкі кіўнуў галавой...

— Вось гляджу я на цябе, старшыня, і не разумею. І сын мой быў, прыязджаў... Таксама. Не разумею я вас. Не разумею, як так можна...

— Пра што вы?

— Толькі ты не прытварайся... Ты перад Міхайлам, перад Мамонам можаш прытварацца, а перада мною не трэба... Міхайла — прайдоха... Папусціся — ураз праглыне... і касцей не выплюне. Не глядзі, што худы, што заўсёды кволіцца... Ён усё жыццё кволіцца. Мы па дзвесце грамаў на працадзень мелі, а ён у санаторый ездзіў, лячыўся... І кожан год ездзе... Ты беражыся яго. Ты шмат яму волі даў. Старшыні прыходзяць і праходзяць, а бухгалтары застаюцца... Ды я не пра гэта... Я пра вас, маладых. Вы проці веку ідзяце, у вас усё наперадзе...— Ён

прыціх, прыслухаўся. На вуліцы пачуўся гул матора — спакойны, роўны...— Ага, ён, Максімаў, прыехаў... На «Жыгулях»... Не шкадуеце вы сябе, не любіце. Ну, злодзей, дапусцім. Ён няхай баіцца, ён тоіцца, яму трэба баяцца. А чаго табе баяцца?.. Не глядзі так на мяне... Я сыну гэта гаварыў... Дзівакі вы... Вось ты пяць год ужэ ў нас старшынёй. Пяць, праўда? І за гэтыя пяць год ці быў ты хоць на адным вяселлі? Ці паскакаў, як чалавек? Ці пагуляў? Не быў? Не быў... А чаму?.. Няма калі? Гэта праўда, работы шмат... І чым далей — яе будзе болей, бо чым далей — чалавеку ўсё меней застаецца жыць на зямлі. Ды не ў гэтым бяда. Час заўсёды знойдзецца... Ты баішся.... Сябе баішся, людзей баішся... А чаго людзей баяцца?..

Іван Ігнатавіч з цікаўнасцю пазіраў на Марціна, на яго цёмны, забурэлы твар, у яго маленькія, быццам сплюснутыя абцугамі па краях трохкутнікі вачэй. І дзівіўся: той гаварыў праўду. Не ўсю праўду, а праўду...

— Баішся, што нехта нешта скажа, нехта нешта падумае... Хай гавораць, хай думаюць. Людзі павінны і гаварыць, і думаць. А то што б гэта за людзі былі? Не трэба хавацца. Ад людзей не схаваешся, а ад сябе і падаўна... У сабак ёсць пераходная пара — калі шчанюк ужо гатоў стаць сабакам, але яшчэ не стаў ім. Перш чым стаць сабакам, ён павінен «пераесці чарвяка». У гэты час, мусіць, ідуць змены ў арганізме. Шчанюку і кволіцца, і яда не йдзе, і злы ён робіцца. Пакуль ён не пераджуе гэтага свайго чарвяка... А як пераеў — ідзе і на папраўку, і ў рост...

— Пры чым тут сабака? — Іван Ігнатавіч спрабаваў зразумець старога, спрабаваў пераключыцца на тое, пра што той гаварыў, але ўсё роўна сам быў са сваімі думкамі...

— А пры тым... Такая пара бывае ў кожнага чалавека... Толькі ў адных яна праходзіць скора, а ёсць такія, што яна расцягваецца на ўсё жыццё... Вы не ўмееце проста гаварыць з людзьмі. Вы правай рукой дастаіцё левае вуха. Заместа таго каб сказаць тое, што трэба, вы гаворыце шмат пустога. Я пра гэта гаварыў сыну. А ён даказваў, што, моў, век такі. Век інфармацыі. Людзі не паспяваюць пераварваць яе. А я кажу — усё гэта г-но. Людзі пераварацъ усё, што трэба. Толькі яны павінны ведаць, ш т о трэба... А ты — век інфармацыі.

— Я не гаварыў пра інфармацыю...

— Ага, ты пра торф гаварыў. Ты гаварыў толькі пра торф і болей ні пра што,— Марцін ужо злаваўся, і губы яго дрыжалі. Ён пазіраў на старшыню і быццам не бачыў яго.

— А вы б хацелі, каб я не гаварыў ні пра торф — хай цягнуць, хто куды хоча, ні пра бульбу, ні пра салому, га? Вы б так хацелі? — Іван Ігнатавіч непрыкметна пачаў злавацца і сам: Марцін замахнуўся на тое, дзе старшыня не даваў нікому спуску. Не даваў і не думаў даваць.

Стары перасмыкнуў губамі, трохкутнічкі вачэй сталі яшчэ меншыя. Як крышталікі лёду, яны блішчалі з-пад навіслых броваў...

— Я гэтага не хачу. Я гаварыў пра чарвяка, якога кожан павінен пераесці...

На дварэ быў вечар, чарната абступіла вокны. Старшыня зірнуў на гадзіннік. Марцін перахапіў позірк старшыні... Наліў чаркі.

— Ну, дзякуй, старшыня, што зайшоў... Мне і так цяжка, а аднаму было б яшчэ цяжэй... Я казаў, што жонка паехала ў горад... Ага, паехала. А я застаўся адзін... І во зайшоў ты... Сёння якраз сорак дзён, як яго не стала. Сына не стала. І я спраўляю сарачыны. Некаму трэба было ехаць у горад, памагаць. Паехала яна, мяне тут пакінула... Трэба было і мне ехаць, нікуды б не дзеліся гэтыя свінні і куры.— Ён пайшоў у другі пакой, прынёс другі фотаздымак.

Сын сядзеў на пні, абапёршы твар на левую далонь... Тонкія рысы твару. Нешта вельмі напружанае, трывожнае было напісана на яго твары... Нават не на твары — у вачах, у паглядзе. Не то перажыты страх, не то чаканне страху. Нават калі б ніхто нічога не гаварыў пра яго, было відаць, што гэтага чалавека чакае нешта трагічнае. І ён сам ведае пра гэта... Можа, нават думаў пра гэта ў тое імгненне, калі шчоўкнуў фотаапарат. Старшыня адчуў, як спіне стала зябка і нехта сціснуў сэрца.

— Што ў яго?

— Грып, пасля грыпу ацёк лёгкіх... Аб адным месяцы згарэў. Ён працаваў інжынерам, вядучым інжынерам... На тым жа заводзе, дзе выпускаюць машыны, на якой прывезлі мне торф. Ні дня, ні ночы не ведаў... І гэты грып... на нагах перахадзіў... Усё смяяўся, суцяшаў мяне: не бойся, бацька, мы да ста год дажывём. Дажыў... І фатаграфію любіў... Ага... А гэта ён дома, тут, у нашым лесе... Туды, за Язэпаў груд. Я сам яго здымаў летась.

Яго фотаапаратам... Ён мяне колькі разоў зняў, потым ласіцу сустрэлі, яе зняў — якраз натрапілася нам па дарозе... Можаце глянуць...

Яны зайшлі ў другі пакой. Усе сцены былі завешаны фотаздымкамі — вялізнымі, як карціны... Лес, раніца, сонца ледзь прабіваецца праз галовы хвой... Ласіца на паляне, пыса мокрая, блішчаць кропелькі вады, вушы чуйна наструнены... Лось-самец. Здаровыя мускулістыя грудзі, рогі ляжаць на спіне, разяпленая храпа з раздутымі ноздрамі і высалапленым языком... З языка ў траву збягае павадок сліны... Ён толькі што бег, крышыў маладу асіннік сваімі вострымі капытамі і магутным целам і раптам стаў, спынены нейкай нечаканасцю, гатовы ў любое імгненне рвануцца наперад — насустрач сваёй ці чужой смерці... І зноў сын — на пні... Той жа мудра-трагічны погляд.

— Ён сам навёў апарат і сказаў мне, дзе стаць, адкуль здымаць. Спачатку сонца было, яно сляпіла, і мы падаждалі, каб яно схавалася за хмару... Я не думаў, што нешта можа выйсці. Ажно выйшла... Ён сам і рабіў іх — у яго цэлая лабараторыя дома была. У ваннай... Падобны на мяне, праўда?..

Цяжка было ўлавіць падабенства паміж гэтым грубым, быццам высечаным з шэрага каменю тварам старога і далікатным худым тварам яго сына... Можа, хіба вочы... І губы, трошкі губы...

— Падобны,— сказаў старшыня.

Выйшлі на вуліцу, моўчкі пацiснулі рукі. Старшыня павярнуўся, каб ісці, і тады Марцін ускінуў рукой, быццам успомніў:

— Ага, каб не забыцца... пра торф. Ты не думай нічога, не ламі галаву... Гэта была машына адтуль, з яго работы. Хлопцы вазілі недалёка торф, успомнілі, што ён адсюль родам, што тут мы жывём, заехалі.

Старшыня зморшчыўся, махнуў рукой.

Іван Ігнатавіч прайшоў міма цёмных карпусоў фермы, спусціўся ў лагчыну, на мост. Стаяў, абапершыся на парэнчы, пазіраў уніз, дзе сальным асфальтавым бляскам час ад часу загаралася рака і адкуль цягнула стылым холадам. Потым пайшоў далей па дарозе, але, не даходзячы да сяла, павярнуў налева.

Перад ім ляжала вялізнае, як мора, чорнае поле, і здавалася, што яно, як мора, недзе наперадзе горбіцца аграмаднай паўсферай. Цяжка было азначыць пэўна, дзе канчаецца поле і пачынаецца неба,— нешта цёмна-шэрае свіцілася на гэтай далёкай няпэўнай мяжы. Іван Ігнатавіч ведаў, што гэта толькі здаецца, быццам зямля тут пукатая, яна тут роўная, і ноч і цёмнае неба вінаваты ў гэтым падмане, але разам з тым гэты няпэўны круг наперадзе быццам пацвярджаў усім вядомую ісціну, што зямля мае форму шара і што яна не такая і вялікая, як здаецца напачатку, а сам ты не такі маленькі, каб не чуць сваёй сілы над ёй, і здавалася, варта прайсці трохі — і ўбачыш нешта невядомае, што знаходзіцца па той бок сферы.

Іван Ігнатавіч услухоўваўся, яму хацелася пачуць хоць які-небудзь голас — ці то птушкі, ці так каго-не-

будзь, голас, які разбурыў бы гэтую глухую цішу. Але вакол было ціха і маўкліва, як у сне.

Іван Ігнатавіч доўга стаяў, слухаючы самога сябе, цяжка варухнуў губамі — яны не слухаліся, сказаў уголас:

— І хто гэта выдумаў, быццам усё пачынаецца вясной?..

1975

# ІГНАТ СЦЯПАНАВІЧ ВАПШЧЭТКІ

Сядзіш дома — здаецца, усё ідзе роўна і гладка, аж нудна робіцца, асабліва зімой, а варта з'ехаць куды на колькі дзён, і пачынаецца. Прыязджаў Валера да старэйшай сястры, паглядзець, як яны тут — даўно нічога не пісалі,— а заадно разведаць пра радыётэхнічны інстытут, як гэта, каб паступіць. Толькі тыдзень усяго і мінуў, як з сяла, накупляў розных дапаможнікаў і сам ужо нібы настроіўся на паступленне, на перадстартавы мандраж, і на́ табе, ужо на самым вакзале сустрэў Алёшу, і той, як пра нешта будзённае, ляпнуў: «А ці ведаеш ты, што твой Вапшчэткі даўся...» Ляпнуў і спакойна пайшоў сваёй дарогай.

Вапшчэткі, ён жа Ігнат Сцяпанавіч, быў далёкай раднёй па матчынай лініі, хоць справа зусім не ў радні. Валеру кальнулі не столькі словы пра яго смерць, як тое, як пра гэта было сказана, і як гэта ўсё аказваецца проста на гэтым свеце — тут жыў, тут няма.

Яны працавалі разам на млыне. Ігнат Сцяпанавіч

«начальнікам», «камендантам» — так ён любіў сябе называць, Валера — вучнем.

Валера бачыў яго перад самай паездкай. «Ты, вапшчэткі, зазірні ў магазін запчастак, мне казаў Сцяпан Яўменаў, там процітуманныя фары ёсць, вазьмі са дзве мне для матацыкла. Я б яшчэ адну зелінгераўскую брытву ўзяў, каб дзе натрапіў, ды, пэўна, у цябе з часам будзе туга. Скажу, гэ́та ў мяне трыццаць тры гады, а калі навядзеш, па шчацэ ідзе, як па атаве». Усё гэта Ігнат Сцяпанавіч гаварыў у сваёй хаце і гаварыў так, быццам збіраўся пражыць яшчэ па крайняй меры гадоў з пяцьдзесят, хоць самому было ўжо за семдзесят.

Вядома, усе людзі смертныя, а асабліва ў такіх позніх гадах, аднак Алёшавы словы марозам абдалі Валеру. Так з закамянелым сэрцам ён і праседзеў усю дарогу ў аўтобусе, не даўшы ахвоты вылезці ні разу нават расправіць ногі.

У канец пасёлка, дзе стаяла хата Ігната Сцяпанавіча, а трохі далей і іхняя, Валера ўваходзіў з павольнасцю, з якой ідуць на хаўтуры. Павярнуў з-за частаколу на прамое, а ад калодзежа да свайго двара, як ні ў чым не бывала, чэша сам Ігнат Сцяпанавіч: куфайка расшпілена, і кашуля расшпілена — відна валасатая грудзіна, у руках — два вядры з вадой, у шчарбатым роце — піпка. Убачыў Валеру, заўсміхаўся шырокай усмешкай:

— Вапшчэткі, трэба было даць сігнал тэлеграфам ці другім якім спосабам наказаць, я б пад'ехаў на матацыкле. Ён, скажу табе, і па снезе валачэ, як звер.

«Звер» — гэта трохсільны драндулет Мінскага велазавода, самая першая мадэль, якую цяпер наўрад ці ўба-

чыш дзе-небудзь нават у музеі. Ігнат Сцяпанавіч зрабіў для яго прычэп на веласіпедных колах і што толькі не ўхітраўся цягаць на ім — дровы, мяхі з мукой і цэментам, скрынкі з гусямі і парасятамі, нават жэрдзе. Але не было нічога страшнейшага на свеце, чым бачыць, як Ігнат Сцяпанавіч вязе з дальняй дзялянкі сена. Разагнаўшы свой мотафургон у ляску (там дарога ішла ўніз), ён вырываўся на роўнае і, набіраючы ўсё большую хуткасць і сеючы за сабой ашмоцце сена, як тарпеда, нёсся да сяла. Здавалася, няма такой сілы, якая магла б спыніць гэтую шалёную тарпеду, у галаве якой, сагнуўшыся ў тры пагібелі, дабравольным смяротнікам сядзеў Ігнат Сцяпанавіч. Палохаючы да смерці сонных курэй і сабак, Ігнат Сцяпанавіч праносіўся міма свайго двара і аднаму яму вядомай сілай спыняў свой мотафургон дзе-небудзь ля трэцяй ці чацвёртай хаты. Потым доўга адчапляў прычэп і, упрогшыся ў яго сам, дабаўляў сена дамоў...

Валера глядзіць на Ігната Сцяпанавіча, стараючыся знайсці адгадку дурной задачы, якую падкінуў сёння на вакзале Алёша, і радасна, без крыўды на таго, думае: «Боўдзіла ты, Алёша, такое боўдзіла...»

У Ігната Сцяпанавіча вялікая галава, даўгія рэдкія валасы. Зубы некалі былі буйныя, шырокія, але даўно павыкрышваліся, засталося мо якіх з сем на ўвесь шырокі рот. Часам здаецца, што яму з гэтымі нямногімі зубамі можа нават ямчэй, чым калі б іх быў поўны рот. Куды б ён тады са сваёй піпкай? А гэта ўшчаміў сабе ў шчэрбіну, і хай вісіць: можна разяўляць рот як хочаш, можна гаварыць з чалавекам, можна плюнуць, калі за-

хочацца, не баючыся, што піпкаываліцца. Ігнат Сцяпанавіч нават зазор зрабіў у муштуку, каб дзяржалася між зубоў... Так і ходзіць з піпкай у роце цэлы дзень, смокча, як суслу, пакуль не ўбачыць, што ў ёй даўно ўсё выгарэла. Тады дастае піпку з рота, бярэ шыла, доўга калупаецца, вычышчаючы нагар і попел, зноў набівае тытунём — ён і цяпер, хоць кругом засілле магазіннай махоркі і папярос, садзіць яго на гародзе за хлевам,— раскурвае, заціскае ў шчэрбіну. Піпка і цяпер тырчыць у роце для прыліку — ні дыму, ні паху.

Валера ставіць на снег чамадан, Ігнат Сцяпанавіч ставіць вёдры, і шэрае неба плаўна і прыгожа калышацца ў вадзе. Нейкі час моўчкі стаяць адзін проці другога, радуюцца сустрэчы, быццам даўно ўжо страцілі надзею на яе.

— Я думаў, дзядзька, што ты ўсё ж з'ездзіў у раён, зубы ўставіў,— нарэшце знаходзіць што сказаць Валера.

— Яно, вапшчэткі, і з гэтымі зубамі жыць можна, абы было што есці,— апраўдваецца Ігнат Сцяпанавіч.— У раён ехаць — гэта цэлы дзень сцерці. І добра шчэ, калі ўправішся. Ды сказаць, я і сам вытачыў бы іх і ўставіў — падхадзяшчага металу няма.

Ігнат Сцяпанавіч гаворыць гэта сур'ёзна, як пра даўно абдуманае, а сам пазірае за Валерава плячо ў канец пасёлка, дзе шырокім белым клінам роўна ляжыць заснежанае спакойнае поле. Нешта сумнае, як даўняе няздзейсненае жаданне, шэрым туманам сцелецца ў яго вачах. Валера не сумняваецца, што Ігнат Сцяпанавіч і праўда ўзяўся б за гэту мудроную справу — вытачыць

і ўставіць сабе зубы,— абы знайшоўся «падхадзяшчы» метал. Якія б ужо былі зубы і як бы ён іх устаўляў — гэта іншае...

— Дык што, дзядзька, можа, лазню зварганім?

— А яно і не грэх будзе. Пасля прастуды нешта ў грудзёх асела. Пакуль ты ездзіў па сталіцах, дык я лічы нешто пабываў там,— Ігнат Сцяпанавіч ківае ўгору, на неба.— Брат, хвароба ўваходзіць грамамі, а выганяць яе трэба кілаграмамі. Ты ведаеш, разагрэўся, выбегаўшы за дзіком ухаластую кіламетраў з дваццаць, хапіў з прагнасці вады з лёдам. І што я яе там глынуў, і, здаецца, не надта халодная была, а знайшла свайго мікроба. Доктар кажа: запаленне лёгкіх. А прызнаюся: кабанчык лоўкі быў, пудоў на шаснаццаць, і я лічы што ўзяў яго, ды сабака падвёў, падла, дамоў збег. Я табе скажу, дзік жартаў не разумее, на чыстым з ім лепей не сустракацца, ён на порах ідзе, як снарад, з пяцідзесяці метраў другога выстралу не паспееш зрабіць. Добра, калі б'еш з засады, а калі на адкрытым, беражыся, беражыся і бойся... Вунь Ман быў, памятаеш, з Ядранай Слабодкі, яго брат з аўстрыякамі ваяваў у Галіцыі яшчэ ў тую вайну, ужо тады тэлефаністам быў пры штабе. Разумны мужык, немцы расстралялі за нішто гэтай вайной. Нехта падаткнуў, што ён з партызанамі звязаны, а хто не быў звязаны? Зрабілі вобыск. Акрамя ружжа шчэ і пісталет знайшлі, у хляве пад гноем быў схаваны... Ружжо — гэта зразумела, што за паляўнічы без ружжа, а вось пісталет... Чаму не здаў?.. Яны гэтага не любілі... Дык пайшлі мы на паляванне, я тады саўсім малады быў, выследзілі мы кабанчыка. Кабанчык не кабанчык,

а сякач добры, пудоў на дваццаць тры, іклы што грабільны, па паўметру кожны, яму надаела вадзіць нас па лесе — пайшоў цераз поле ў малады сасоннік. Ман следам за ім, мы траха адсталі. І сасонніку таго няшмат, лапік, можа, з мае соткі. Абышоў Ман кругом: не відно, каб дзік куды выйшаў, няйначай залёг. Вярнуўся Ман назад, на след, ідзе, прыглядаецца, аж бачыць: нешта цямнее ў кусту. Цямнее і шаволіцца, чухкае. На каго ты чухкаеш?! Злажыўся ён ды як чухне! Біў пад левую лапатку, і стралок быў добры, а не паспеў і вокам зміргнуць, як чуе, што некуды едзе — задам наперад. Дзік даў яму між ног і папёр. Метраў сорак правёз, пакуль той не ссунуўся ў снег, а дзік як ішоў, так і пайшоў далей... Тут якраз і мы падаспелі. Ман яшчэ ўсхапіўся з гарачкі, пажартаваў: «Во праехаў дык праехаў!» — і тут жа зваліўся. Сякач як зачапіў іклам нагу — распаласаваў ад ступні да пахвіны. Схапілі мы яго на рукі ды на сані, у бальніцу, ледзь уратавалі. Я табе кажу, дзіка проста так не возьмеш. Але я ведаю, дзе ён абітае, хай трошкі падрасце, ды і я папраўлюся — зашчамлю яго... Хочаш, пойдзем разам, у мяне запасное ружжо ёсць, а? — глядзіць Ігнат Сцяпанавіч Валеру ў вочы.

— Не-е, які з мяне паляўнічы. Я лепей лазню арганізую.

— Вапшчэткі, ты праўду кажаш. Здароўе таксама трэба пільнаваць... Распальвай, а там, можа, і бацька пад'едзе — павезлі сёння скаціну на камбінат, то хай бы і ён косці пагрэў.

Лазня ў Ігната Сцяпанавіча невялічкая, новая, стаіць яна ў садзе, воддаль ад хлява і хаты, і праз нейкую гадзіну з высокага азбеставага коміна яе паплыў угору, як нехаця, асцярожны дымок. Дровы гарэлі добра, але пакуль нагрэецца вада ды каменне, ёсць час, каб пасядзець у цяпле хаты, пагаварыць. І яны сядзяць: Ігнат Сцяпанавіч бліжэй да печы, яму холадна, Валера трохі далей, адкінуўшы галаву да высокай точанай спінкі крэсла, заплюшчыўшы вочы.

— Вапшчэткі, калі глядзець збоку, то можа здацца, што чалавечае жыццё — гэта няшмат болей, як сума парадоксаў, а яно не зусім так. Я табе скажу: няма нічога страшнага на гэтым свеце. Трэба толькі мець цярпенне і ўпартасць па-дурному не лезці на вастраўё. Дайжа тады, калі неба табе здалося з аўчынку і няма скарынкі хлеба, каб з'есці. Бо ў кожнага заўсёды ў запасе застаецца смерць, як у таго салдата маршальскі знак. А гэта ўжо сур'ёзна, бо смерць нічога не хоча пакідаць самому чалавеку. Хіба што камень у галавах ды гурбачок зямлі. Ды і зноў жа таму, што некалі ўсё гэта возьмецца травой і мохам. Смерць, як жонка, не любіць дзяліцца, яна хоча камандаваць аднаасобна, і перахітрыць яе цяжка.

— Ото звязаў разам... смерць... жонка... камандзір. Табой накамандуеш,— падае голас цётка Марына, і Ігнат Сцяпанавіч здзіўлена паварочвае галаву ў яе бок, быццам толькі цяпер заўважае, што ў хаце акрамя яго і Валеры ёсць яшчэ чалавек і гэты чалавек — яго жонка. Цётчына рэпліка, аднак, на нейкую хвіліну перапыняе дзядзьку, але не на столькі, каб не пусціць далей.—

Да прыкладу, я табе скажу, што гэта вайна застала мяне ля Беластока. Мы прынялі бой, і нам трэба было адступаць. Я быў пры гармаце, чацвёрты нумар, а яе разбіла. Нікуды не дзенешся, адступаць дык адступаць. Ішлі на Гродна, разам з бежанцамі. Вайна — заўсёды вайна, тут без смерці немагчыма. І раптам нас пераганяе машына, палутарка. Бачу, у кузаве Мацвей Міранові, з Цераболі. Яго хата стаяла недалёка з краю, а бацька яго ў дваццатым, як палякі стаялі на Бярозе, быў у войску. Вельмі адчайны быў мужчына, адчайны і храбры. Дык з сынам яго, Мацвеем, трапілі мы ў адну часць, ён пры штабе, а я ля гарматы... Усё ж землякі. Я сам ужо ледзь валакуся. І гарачыня, і ўтома, і не спалі двое сутак. Пазнаў я машыну, крычу: «Мацвей, пачакай!» Пазірае ён на мяне і не пазнае. Ухапіўся я за борт, дык ён прыкладам па пальцах, як не патрушчыў. «Нельга,— крычыць,— ваеннае імушчаства вязу». А сам, бачу, як азвярэў. Я і адпусціў рукі, што тут гаварыць, імушчаства дык імушчаства. Едзь, маць тваю так. А тут нямецкія самалёты над дарогай адзін за адным, толькі і шукаеш якую-небудзь ямку, каб схавацца. Адседзішся і далей. У салдата свая задача — ваяваць. І што ты думаеш, кіламетраў праз пятнаццаць бачым: ляжыць на баку машына, сейф раскарожаны, каўбы выпушчаны, і вецер паперы ганяе — ведамасці нейкія. Прамое пападанне бомбы. Ад Мацвея адно мокрае месца. Я так скажу: страх заўсёды бяжыць паперадзе чалавека, толькі не трэба яго далёка адпускаць ад сябе, прападзеш, як муха. Во які парадокс.— Ігнат Сцяпанавіч цмокае мокрымі гу-

бамі, пускае дым з рота, пазіраючы ўгору, у нейкую сваю далёкую цемнату.

— Сам ты парадокс, быў ім увесь век і памрэш ім. Схадзіў бы каровам сена ўкінуў, а то сядзіш, як сугней,— зноў умешваецца высокім голасам цётка Марына, грукае вёдрамі, бунтуе спакойны, элегічны настрой Ігната Сцяпанавіча.

Ігнат Сцяпанавіч не мяняе паставы, як сядзеў на крэсле, так і сядзіць, нават галавы не паварочвае, толькі ўвесь напружваецца, губы сціскаюцца ў нерухомую ўсмешку. Трэба ведаць Ігната Сцяпанавіча, каб разумець, што гэта ўсмешка можа перайсці ў сухі смех ці ўзарвацца лаянкай. За доўгія гады жыцця разам цётка Марына гэта добра вывучыла.

— Ну, падумай, Валера, нашто нам тры каровы? Нашто? Хіба мы ўдваіх з'ядзім тое малако, што яны даюць? Ды нас бы параспірала. Колькі нам яго трэба? Во, бачыш, свінням выліваю,— і яна са злосцю перакульвае гладыш над вядром.— Кажу, давай прададзім дзвюх, пакінем адну, маладзейшую. Нам і яе — уга! як хопіць... Дык не...

Па сённяшнім дні, калі мала хто хоча дзяржаць і адну карову, упартае жаданне Ігната Сцяпанавіча мець іх поўны хлеў цяжка зразумець. Прадаваў бы яшчэ малако ці якім іншым чынам стараўся шукаць ад іх прыбытак, дык не.

— Сена я накасіў, хопіць да тройцы...— нібы тлумачыць Ігнат Сцяпанавіч, але такім тонам, каб адсеч хвост гаворцы, звесці на жарт. Яму яўна не хочацца ўлазіць у яе глыбей.

— Дык жа каб толькі каровы... Яшчэ ж свіння, кныр, гусі, куры,— адчуўшы маўклівую падмогу, ідзе ў наступленне цётка Марына.— І ўсё на мае рукі. А сабакі, сабакі яшчэ...

Ігнат Сцяпанавіч задумваецца.

— Мой бацька лічыўся нядрэнным гаспадаром... У яго аж дзевяць кароў было. Ні ў кога на радыус воласці не было столькі...

— Толькі і гонару было, што лічыўся. А зімой кубак малака дзіцяці, бывала, не знойдзеш, не кажу пра масла, яго дык і зусім не бачылі...

— Вапшчэткі, тады другая ўстаноўка жыцця была... Людзі сядзелі на гаспадарцы. Але яны ўмелі радавацца. Няма бядней чалавека, які не ўмее радавацца. Памятаю, быў тытунь «Стамболі», «Місаксудзі»... Бацька ездзіў у Бабруйск і адразу браў паўфунта, ён любіў «Стамболі». А ў суботу апранаў касторавы касцюм, ехаў у царкву... І я тады прывучыўся курыць. Можа, і рана было, але надта смачна было пачынаць.

— Гаворыць, сядзелі на гаспадарцы... А ты не сядзіш? Ды ты ляжыш на ёй...— Балючае заўсёды баліць, і гэта добра чуецца ў голасе цёткі Марыны.

— Ты, вапшчэткі, карміла б свінней,— гаворыць Ігнат Сцяпанавіч, зноў-такі не паварочваючы галавы, але ў голасе ўжо чуюцца грубейшыя ноткі.— Дапусцім, возьмем мяне... Я працую на точцы, млын у мяне. І вучанік у мяне, да прыкладу, ён, Валера. Я захварэў, а вучаніка ўзялі сена вазіць. І млын стаў. Зноў жа, я наліў камень, хацеў змяніць паўпрыцы, і во на — хвароба. Хто за мяне гэта зробіць? То-та. І прыязджае сам старшыня, про-

сіць: Ігнат Сцяпанавіч, памажы. Як тут быць? Я бяру матацыкл і еду...

— А ты тут хоць разарвіся. Развёў гамарню. Адна рыкае, другі вішчыць, трэці пішчыць...

— Як я магу не паехаць? Сам старшыня папрасіў. У яго на плячах цэлы сельсавет. І зноў жа, кажу, точка стаіць. А там — свінарнікі, кароўнікі... Ігнат Сцяпанавіч, памажы... Ці, дапусцім, жніво. Тут усё гарыць, хапаць трэба, пакуль можна. У калгасе майстэрні, там пяць чалавек, а ён прыязджае да мяне: Ігнат Сцяпанавіч... І ўслед за ім гоняць прычэп, камбайн... Борт паламалі, матавіла паляцела...

— Ён цябе вывучыў лепей, чым ты сам сябе. Ведае: папрасі цябе, дык ты ў нітку выцягнешся, а зробіш. Дня мала, дык ты ноччу, пры лямпачцы. У хляве неба праз латы глядзіцца, а ён чорту лысаму — точа, пілуе, стругае...

— Вапшчэткі, не чорту лысаму. Раз старшыня даў разнарадку і ноччу людзей пасылае, значца, іначай нельга. А хлеў перакрыю, шыфер імеецца...

— Ён ужо счарнеў, шыфер твой, за тры гады.

— Ты, вапшчэткі, дасі мне з чалавекам пагаварыць?! — нарэшце ўзрываецца Ігнат Сцяпанавіч, крута паварочваецца на крэсле, быццам наважыўся ўстаць, нават падымае ногі ў валёнках і гупае імі аб падлогу.

Цётка Марына хапае вёдры і, таўхануўшы нагой дзверы, выходзіць у сенцы. Хата нейкі час расчынена, і холад лянівым белым мядзведзем коціцца па падлозе. Валера ўстае, каб зачыніць дзверы, а заадно і паглядзець, што там у лазні.

У печцы ўсё паспела выгараць, рухлівыя язычкі полымя снуюць над вуголлем, ліжуць яго, абдымаюць. Як заварожаны, забыўшыся, чаго прыйшоў, Валера пазірае на гэта дзіва, думае пра Ігната Сцяпанавіча. Жыве ён, як дуб у полі: ва ўсіх на віду і ўсе вятры чэшуць языкі свае аб яго сукі.

З вайны Ігнат Сцяпанавіч вярнуўся пад канец сорак шостага года і адразу ж, не даўшы адпачыць сабе і аднаго дня, пачаў ладзіць прыбудоўку да стопкі. Прыбудоўка стала прасторнай майстэрняй на два акенцы, з верстаком, наждаком і тачыльным станком. На паліцах і палічках, круках і кручках уздоўж сцен занялі сваё месца рубанкі, гэблікі, малаткі, цесакі, долаты, свярдзёлкі... Была пара, калі людзям вельмі трэба былі самапрадкі, і Ігнат Сцяпанавіч пачаў рабіць іх. Заказаў было шмат, і працы шмат, і Ігнат Сцяпанавіч пілаваў, габляваў, тачыў з раніцы да позняй ночы. Скора яго самапрадкі пралі ніткі ў кожнай ліпніцкай хаце, і не толькі ліпніцкай. Ішоў час, у людзей большала грошай, а на прылаўках магазінаў палатна і паркалю, заказаў на самапрадкі рабілася ўсё меней. І тады, пацясніўшы сталярную братву, ля акна прыбудоўкі стаў такарны станок з электрычным прывадам, пад століў загарэлася «пяцісотка». Замест мяккіх і пахучых драўляных стружак на двор усё часцей выкідваліся тонкія і вострыя металічныя стружкі. Прыйшла пара другіх заказаў — на рамонт гармонікаў, ружжаў, швейных машынак, веласіпедаў, матацыклаў, і двор Ігната Сцяпанавіча пачаў нагадваць стаянку для матацыклаў ля раймага.

Якраз тады прывезлі ў сельпо матацыклы Мінскага

велазавода, і Ігнат Сцяпанавіч забраў адзін сабе. «Вапшчэткі, машына не ўступае заграмнічным маркам»,— упарта сцвярджаў ён, калі хто-небудзь заводзіў гаворку пра тое, што матацыкл надта трашчыць і не дае спаць не толькі сабакам, але і людзям.

У Ігната Сцяпанавіча было тры дачкі і адзін сын. Дочкі раз'ехаліся, павыходзілі замуж, паабсейваліся дзяцьмі. Сын таксама не ўседзеў дома: пабываў на Поўначы, у Казахстане, паспеў два разы ажаніцца, а гады тры назад раптам вярнуўся дамоў. Вярнуўся, каб тут памерці.

У першую ж сустрэчу пасля вяртання, калі сын зайшоў праведаць бацькоў, Ігнат Сцяпанавіч пільна пагледзеў на яго схуднелы твар і сказаў:

— Позна ж ты вярнуўся, сынок...

— Можа, яшчэ не позна,— жаласна ўсміхнуўся той і пачаў паспешліва выкалупваць з пачка папяросу.

— Позна,— сумна і ціха паўтарыў Ігнат Сцяпанавіч.

— Ты заўсёды знойдзеш, чым парадаваць дзіця,— накінулася на яго цётка Марына, і Ігнат Сцяпанавіч усміхнуўся вінавата, быццам збіраўся заплакаць. Кожны, хто бачыў бы іх у гэту хвіліну, нават не ведаючы, што гэта бацька і сын, па адной усмешцы сказаў бы, што гэта так.

На двары была зіма, ляжаў малады снег, ад яго на свеце было светла і ціха, і гэтак жа нязвычна ціха стала ў хаце. А летам сына паклалі ў бальніцу. Ляжаў ён там нядоўга, можа, з месяц.

Колькі разоў цётка Марына спрабавала падступіцца

да Ігната Сцяпанавіча, каб з'ездзіў адведаць сына. І ўсякі раз Ігнат Сцяпанавіч адказваў:

— Трэба было раней шкадаваць.

І сваім спакоем, і гэтымі словамі ён яшчэ раз намякаў на тое, што калі б не сама цётка Марына, то, можа, сын нікуды б і не з'язджаў з дому, можа б, і здароўчы быў. Першая сынава жонка была свая, вясковая, але не прыглянулася яна цётцы Марыне, і праз два гады сын кінуў яе і збег на Поўнач, а адтуль у Казахстан. Там і сустрэў ён сваю другую жонку, яна таксама была з Беларусі, з суседняй вёскі, куды яны і вярнуліся цяпер з траімі дзяцьмі.

Умеў Ігнат Сцяпанавіч трымаць душу сваю на замку, і мала хто ведаў пра тое, што ён шмат і балюча думае пра сына і што ён ездзіў да яго ў бальніцу. Прыехаў на матацыкле, паставіў яго ў двары знаёмага мужыка, а сам з паляўнічай торбай у руцэ пайшоў у бальніцу.

Пара ўжо бралася пад восень, быў надвячорак, і здавалася, што прырода зрабіла асноўныя дзённыя работы і гатова ісці на спачын, каб заўтра пачаць жыць новымі клопатамі.

Бальніца была ў канцы сяла, у маладым бярэзніку. Было тут яшчэ цішэй, чым у пасёлку, і Ігнат Сцяпанавіч думаў пра тое, што тут вельмі сумна нічога не рабіць. Сына ён знайшоў на адной з дашчаных лавак, якія былі раскіданы па ўсім бярэзніку, каб хворыя, выйшаўшы на прагулку, мелі дзе прысесці.

— Ну, дык як ты тут? — спытаў Ігнат Сцяпанавіч і ўсміхнуўся, шырока расцягнуўшы губы.

— А нічога,— адказаў сын, мелькам зірнуўшы на

бацьку, быццам яны даўно ўжо сядзелі на гэтай лаўцы і бацька некуды адлучаўся на колькі хвілін, а гэта вярнуўся.— Бачыш, як тут ціха,— дадаў ён, і губы яго тарганулiся, паспрабаваўшы ўсміхнуцца, хоць сам ён быў недзе далёка, быццам услухоўваўся, стараючыся пачуць далёкую музыку.

— Вапшчэткі, яно так,— пагадзіўся Ігнат Сцяпанавіч і недыпламатычна спытаў: — Ты што гэта, сур'ёзна надумаў паміраць?

— Мне ўжо, тата, не засталося часу болей ні пра што думаць.— Ён даўно не гаварыў слова «тата», але сказаў яго лёгка, як дзіця, і Ігнат Сцяпанавіч уздрыгнуў плячыма.

— Тады давай вып'ем,— Ігнат Сцяпанавіч палез у паляўнічую торбу.

— Мне нельга, у мяне жывот. А ты выпі.

— Яно і мне няможна, я на транспарце, але ладна... Я прывёз табе пячэння, каўбасы...

— А каўбуха свайго не прывёз?

Ігнат Сцяпанавіч заміргаў:

— Я не хацеў, каб маці ведала, што я паехаў да цябе. І ты ёй не кажы, што я быў...

— Усё ваюеце? — спытаў сын і зноў як пра нешта вельмі далёкае.

Ігнат Сцяпанавіч нічога не сказаў, выліў палову «чацвяртушкі» ў шклянку, выпіў, пасядзеў трохі, пераліў у шклянку астачу і яе выпіў.

— Хачу папрасіць цябе аб адным, тата: памажы Лідзе дагледзець дзяцей. Ёй адной цяжка будзе падняць іх.

— Добра. А маці я скажу, каб каўбуха прывезла.

На тым і рассталіся.

Праз тыдзень сын памёр.

Ігнат Сцяпанавіч сам зрабіў труну, завёз яе ў бальніцу, сам прывёз сына дамоў — да дзяцей і жонкі.

Ні на хаўтурах, ні на могілках ніхто не бачыў слёз на вачах у Ігната Сцяпанавіча.

«Каменны чалавек з жалезным сэрцам»,— ціха жалілася бабам цётка Марына.

Назаўтра пасля пахавання Ігнат Сцяпанавіч узяў ружжо і з раніцы сышоў з дому. Вярнуўся позна вечарам, нічога не забіўшы. Так было і на наступны дзень. Цётка пачала ўжо трывожыцца за яго самога, але на трэці дзень ён устаў у пяць гадзін, як гэта рабіў заўсёды, і пайшоў у прыбудоўку. Цётка цішком прайшла за ім, зазірнула ў акенца: Ігнат Сцяпанавіч зацята чысціў гэблікам нейкую дошку. Цётка ўздыхнула з палёгкаю.

У хаце цёмна ўжо, толькі адзінокім воўчым вокам блішчыць аганёк ад піпкі — і то калі Ігнат Сцяпанавіч зацягваецца, тады ўспышка на імгненне асвятляе яго твар, столь, сцены, абабітыя вырабленымі цялячымі скуркамі дзверы.

Не першы раз Валера сядзіць з Ігнатам Сцяпанавічам, не запальваючы святла, і цемната абступае іх, але сёння трывога, што з'явілася на вакзале ў Мінску, не дае спакою адчуваць сябе лёгка, як гэта было заўсёды. І хоць прычынай яе была няпраўда — вось ён, Ігнат Сцяпанавіч, сядзіць сабе, байкі баіць,— трывога не прахо-

дзіць. Можа, вінавата яшчэ і цемната, і гэта «воўчае вока» — піпка.

— А то надумаў я пайсці на ваўкоў. І, можа, не так сам надумаў, як паджучыў мяне Прыжок Антон,— радасным голасам, як пра тое, калі б яму пашанцавала раптам выйграць па латарэі легкавую машыну, гаворыць Ігнат Сцяпанавіч. Валеру прыемна здзіўляе не сам голас, а тое, што Ігнат Сцяпанавіч загаварыў пра ваўкоў — як бы ўслед за яго думкамі.— Не, не той, што жыў за могілкамі, у двары яго яшчэ валун ляжаў счэсаны, на ім добра было пляшку віна выпіць, а з Мікасаўкі, ён сам хоць і ружжа ў руках дзяржаць не ўмеў, бо і дзяржаць не было чым, быў без вялікага пальца на левай руцэ, а правай і саўсім не меў, адарвала ў малатарні. Так і жыў чатырохпалы — ні даць, ні ўзяць, ні ўкрасці... Прыходзіць гэта Прыжок увечары, а зіма халодная была, якраз самая піліпаўка: «Чаго ты с..ку на печы грэеш, ваўкі скора вуглы ў хаце паабгрызаюць»,— гаворыць. І праўда, той зімой яны раз'ятрыліся, як на пагібель, у святога Карпа з Асінаўкі з ланцугом сабаку павялі. І сабака быў слаўны, не пад кожны стол падлазіў, на волі дык і двум ваўкам не даваўся, а аднаго сам браў спакойна, і не чуў Карп нічога, а назаўтра ланцуг з нашыйнікам за тры кіламетры знайшоў, у штылі, аж ля Бронікавай гары, во як... А Аркадзеву аўчарку, яшчэ ад немцаў засталася і прыбілася да двара, ну гэтага Аркадзі, з Дулеб, яго бацька некалі парабкаваў у Мажанскага, узялі пад акном. Пакуль паспеў штаны нацягнуць, дык і касцей не пакінулі, і клочча не сабраў.

Я табе кажу, воўк, як раззлуецца, страшней любога звера, мядзведзя страшней.

А ў Прыжка якраз свіння тыдні два як апарасілася, чортведама што з парасятамі рабіць — такі холад. У хаце дзяржаў, каб не памерзлі. Кажа, возьмем заўтра ў мяшок кабанчыка і пойдзем, падманім іх, шэльмаў, можа, каторага і звалім, глядзіш, і трыста рублёў заробім, гэта шчэ на тыя грошы, за трыста, кажа, і кабанчыка не шкода, каб яе чорт убрыкнуў, свінню гэту, выбрала калі парасіцца...»

На тым і парашылі: ён заўтра бярэ парася, ідзе да мяне, а ад мяне ўжо разам туды, пад выжары. У мяне якраз трохстволка была, шаснаццаты калібр, цэнтральны бой, зайца за сто метраў даставала.— Ігнат Сцяпанавіч цмокае губамі, заплюшчвае вочы, суцішваецца. Можа, ён заснуў — з ім і такое бывае. Валера нейкі час чакае: ці не пачуецца голас зноў — не, не чуваць, і ціха выходзіць з хаты.

Выгортвае вуголле з печкі, выносіць на двор, залівае вадой. Доўга пазірае ў печку, дзе дагараюць, губляючы іскры, пераліваючыся рдзяна-блакітна-сінімі агенькамі, сабраныя ў кучу астатнія вугольчыкі, залівае і іх, чакае, пакуль ачахне, выйдзе мокры дух, аблівае вадой палок, лаўкі, яны курацца шызай парай, налівае гарачай вады ў дзежачку — запарыць венікі, ускідвае кубак вады на каменне — абмыць яго, абагрэць палок. Ідзе дамоў, бярэ бялізну, мыла. Бацькі ўсё яшчэ няма. Заходзіць па Ігната Сцяпанавіча. Той спіць, схіліўшы галаву на плячо, але, як толькі Валера заходзіць, адразу падае голас:

— Назаўтра я насек волава, накачаў карцечы, шэсць

патронаў з карцеччу, чатыры з куляй, не лічу ніжняга ствала, у мяне тры патроны і для яго было — гэта калі па два патроны на галаву — шэсць смела можна ўлажыць. Толькі прыцьмела, заяўляецца Прыжок з мяшком за плячыма, а ў ім на дне шаволіцца нешта жывое. Кажа, самага лепшага кабанчыка ўзяў. І праўда, вішчыць у мяшку нехта ціхенька, але галасок звонкі. Я яму, кажа, за лыч пяцельку зашмаргнуў, каб голас быў вясялейшы...

Валера садзіцца — даслухаць, што было далей.

— Ідзём мы, снег рыпіць пад нагамі, ды кабанчык жаласна канючыць. Антон узяў яго на рукі, як дзіця, той прыгрэўся і аціх. А мароз до-обры, у носе малодзіць. Пакуль дайшлі да балотца, трохі праяснела. Ёсць такая пара зімой, у піліпаўку: на звязку дня і ночы раптам сцямнее, шэрае на вочы крадзецца, а пасля выясніцца, і зноў відна, чыста ўдзень. У мяне на нагах буркі ў бахілах — вайскоўцы заязджалі, аж тры скаты адразу прапаролі, трэба было камеры падлатаць, дык яны мне браковую, з чырвонай гумы, пакінулі, чатыры пары бахіл выйшла, моцная гума была,— у Антона — лапці.

Выбралі мы дзве елкі лявей балотца, паўз дарогу ў раён, метраў пятнаццаць адна ад адной, я залез на адну, Антон на другую, кабанчыка пакінуў пад елкай, толькі вяроўку ад мяшка ў руках трымае. Скажу, месца выбралі мы добрае, праглядаецца кругом: і балотца, і гала, і выхад з выжараў. Воўк — звер мудры, ніколі не ўгадаеш, адкуль ён да цябе з'явіцца. Баронь бог стаць з падветранага боку, за кілометр чуе чалавечы дух, а порах яшчэ далей. Але тут нам усё прыяла: вечар ціхі, ні

вецярка, ні голасу — быццам усё застыла, у зямлю ўмерзла. Нават сабакі ў сяле перасталі абзывацца. Умасціўся я на елцы: пад нагамі два тоўстыя сукі, задам абапіраюся яшчэ на адзін сук — каб і сектар абстрэлу быў і каб злажыцца можна было, біць дык біць. Ішлі — чуўся мароз, а сцішыліся на суках, ён пад кажух палез. І парсючок холад чуе, «гі» ды «гі». Злажыў гэта я рукі і асцярожна, для разведкі, падаў голас: моў, адстаў ад сваіх, дзе вы?

Ніхто не адазваўся, я гэтага і чакаў, воўк рэдка калі абзываецца на першы зоў. Ён ідзе на яго, а не абзываецца. Сабакі толькі заякаталі ў сяле, іх я купіў адразу, лічы, за медны грош. Счакаў трохі, пакуль усё ўляглося, злажыў рукі трубой, захапіў паветра і павёў — спачатку ціхенька, нібы з-пад карча, а там шырай, на ўсе грудзі, але зноў жа з сумам такім, з тугой, з голасам, і вышай, вышай, а пасля ўніз, на спад і зноў жа зацята, роспачна, быццам застаўся адзін на ўсім белым свеце — ні радні табе, ні долі.

Я табе скажу, ваўкі надта прыгожа выюць, яны быццам плачуць самі па сабе, можа, таму і валасы ў чалавека на галаве ўстаюць дыбам, бо ён разумее плач гэты. Бывае, яшчэ баба ў роспачы так загалосіць, тады не толькі валасы ўстаюць, сэрца пераварочваецца. Зноў узнялі гвалт сабакі і доўга не сціхалі, а як улёгся брэх, пачуўся голас ваўка, гэта быў ён, я яго пазнаю з сотні галасоў. «Ну,— шапчу Антону,— падшавельвай свайго парсючка», а сам стаў цвярдзей на суках, каб не палянецу далоў, калі трэба будзе страляць.

І тут пачуўся яшчэ адзін воўчы голас, зусім блізка і

за спіной. Вось табе і маеш, чакалі гасцей з аднаго боку, а яны з другога. І парсючок захадзіўся ў мяшку, колькі тае жывёліны, а, відаць, пачуў звера, паміраць каму ахвота. Я асцярожна паварочваю галаву, паглядзець, дзе ён, доўгачаканы, і ствол вяду за сабой. Бачу, цень на снезе, здаецца, блізка, і прыкінуў: метраў дзвесце, страляць не будзеш. Глянуў лявей — там яшчэ адзін цень, далей яшчэ... Сем штук налічыў. Паселі паўкругам, галовы пазадзіралі ўгору, быццам на зоркі дзівяцца, і бліжэй не падыходзяць, і не адступаюць. Потым пачалі перабягаць з месца на месца, гыркаць адзін на аднаго, але без злосці, быццам перагаворваюцца між сабой. Выходзіць, не мы іх, а яны ўзялі нас з Прыжком у абцугі і не збіраюцца выпускаць.

А тут, браце, і мароз цісне, чую, ногі дзервянець пачынаюць, рукі зябнуць, метал, ён і праз рукаўку дастае, а тут правая голая, на курку... І Антон галасіць пачынае: «Братачка Ігнат, давай выбірацца, а то яны зусім замарозяць нас...» Выбірацца-то выбірацца, але куды: ад сяла яны адрэзалі нас. Думаю, дай-ка стрэлю з раз, забіць не заб'ю, а пужну трохі, можа, разбягуцца, тады і пойдзем.

Стрэліў, і як пугай па вадзе шлёгнуў: забегалі яны, замітусіліся, а адступаць не хочуць і круг не звужаюць.

Скажу табе, тут і да мяне страх пачаў падкрадацца. Добра гаварыць пра ваўкоў, седзячы на печы, а ўбачыўшы іх перад сабой такім падраздзяленнем... Яно-то канешне, трохстволка ў мяне слаўная, і б'ю я без промаху, качку на ляту за пяцьдзесят метраў здымаю, а Залескі Казік падкінуў быў угору шапку на спор, метраў за

трыццаць,— на рэшата пабіў, болей і не ўздзеў на галаву, але тут другое... Ды яшчэ і Прыжок ные, каб ведаў, не браў бы з сабой: «Братачка Ігнат, я ўжо ногі паадмарожваў, што Тэклі скажу, давай нешта думаць. Няма рукі, ладна, як жа без ног...» Думай не думай, а трэба прарывацца. Антон просіцца: «Ты, Ігнат, прарывайся першы, а я за табой, бо яны ў адну секунду разбяруць мае косці».

Спусціліся мы на зямлю, патупалі трохі, каб ногі адышлі, на рукі пахукалі. Кажу Антону, трэба кідаць парсючка, пакуль ваўкі разбяруцца з ім, мы і ўцячом.

Што ты! Мяне, кажа, Тэкля на парог не пусціць. Я ўжо вярнуся ці не, ладна, а калі заўтра парасяці не далічыцца, зжыве са свету. Страх перад жонкай бывае горшы за вайну, што ты паробіш. Кажу, ну і памірай разам з парсюком сваім, толькі не адставай ад мяне, бо яны ўмэнт раздзеляць цябе. Рушыў я наперад, куркі на ўзводзе, адзін ствол з карцеччу, два з кулямі, быць не можа, каб не прарваліся. Ідзём проста на іх строй, такая, ведаеш, псіхічная атака, а яны сядзяць, як ёлупы, толькі вочы бліскаюць зялёнымі іскрамі.

Метраў пяцьдзесят ідзём — яны ні з месца, як папрымярзалі. У мяне хоць і ружжо ў руках, а валасы дубка бяруцца. Падпусцілі яны нас метраў на сто, потым нехаця — прыг-прыг у бакі — і зноў сядзяць, як ганаровы караул з двух бакоў, во як.

Падыходзім да сяла, Прыжок просіцца: пачакай. Ну што ж, цяпер можна і пачакаць. Сталі, пачаў я закурваць, ён працягвае мне пляшку: «Вазьмі глыні. Гэта ж браў з сабой, думаў, заб'ём якога злыдня ды за яго

грэшную душу вып'ем, аж не давялося...» Бяру я пляшку, а там на самым дне і засталося: ён пакуль сядзеў на елцы, як не ўсё выжлуктаў. А я-та думаю, чаго ён усё шаволіцца, месца ніяк сабе не знойдзе.— Ігнат Сцяпанавіч доўга смяецца ціхім дзіцячым смехам, нібы сам з сабою, зноў заціхае. Мусіць, зноў недзе там, у сваёй памяці, якая так беражна захавала ўсё, дзе і што было з ім — добрае і дрэннае, вясёлае і цяжкое. Хаця паслухаеш яго, то цяжкога, здаецца, у яго і не было — усё проста і ясна, як у сне.

— Пара ісці,— ціха, быццам у нечым вінаваты, гаворыць Валера, і Ігнат Сцяпанавіч борздзенька ўстае, уздзявае кажух на плечы.

— Вапшчэткі, жыццё — штука надта мудроная і, мусіць, ніколі не здоўжыцца,— гаворыць ён ужо на дварэ.— Дапусцім, жонка кажа: чаго ты на млын бяжыш? А куды мне бегчы? Бабу і то пакуль вывучыш, а то ж цехніка. Не памерла шчэ машыніна мама, дзякаваць богу, а да машыны не кожнага падпусціш. Тут таксама талент трэба. Лёнік мой, дапусцім, светлую галаву меў і рукі не чужыя, пасля пятага класа запрог трактар, і не абы-які — ЧТЗ,— ды бабы зглумілі жыццё. Здароўе загубіў на гэтых пераездах. Што ты хочаш, тысячы кіламетраў... Зноў жа, ты хлопец чэпкі, скора наложышся рабіць усё як трэба. Тут, брат, калі што вартае трапіць, пакуль не абгрызеш, як сабака костку, не выпускай. І правільна зрабіў, што кніжак набраў — вучыцца трэба. Канчай інстытут ды вяртайся. Сам бачыш, што выходзіць у нас: майстэрні ёсць, станкі, «лятучкі», а працаваць не надта каму ёсць, во ў чым механіка. Людзі

рвуцца ў горад, а не разумеюць, што волі там меней, прастору няма. Душы воля трэба.

Распранаецца Ігнат Сцяпанавіч павольна, быццам павольнасць — гэта таксама часцінка нейкага вельмі важнага рытуалу. Валера гаворыць, каб Ігнат Сцяпанавіч лажыўся на палок: «Я з вас хваробу буду выганяць. Кілаграмамі буду выганяць». Ігнат Сцяпанавіч паслухмяна выцягваецца на палку, кладзе галаву на рукі. Цела ў яго сухое, жылістае, косці ды бугаркі мускулаў. Цяпер яно выдае нашмат меншым, чым калі было ў адзежы. Валера ўскідвае паўкубка вады на камяні, чакае, пакуль дух, шугануўшы белым у сцяну процi печкі, зойме і палок, асцярожна праводзіць распараным венікам па спіне, нагах Ігната Сцяпанавіча, ускідвае яшчэ паўкубка. Дух хапае за вушы, сушыць у носе.

— Вапшчэткі, можна пачынаць,— падае голас Ігнат Сцяпанавіч, і Валера ўзмахвае венікам. Дух і венік робяць сваё — Ігнат Сцяпанавіч задаволена мармыча, охкае, уздыхае, варочаецца, падстаўляючы то адзін, то другі бок.— Паддай яшчэ,— просіць ён, і Валера кідае на камяні новую порцыю вады. Духу шмат, ён хлупіць у глотцы, Валера ўжо не ўзмахвае венікам, а лёгенька гладзіць, масажыруе цела Ігната Сцяпанавіча.

— Ото-то здорава, ото добра... А цяпер пакрапі халоднай вадзіцай,— просіцца ён, і Валера пырскае халоднай вадой, потым зноў бярэцца за венік...

— Валерачка, ты ж там глядзі, не замары майго дзеда,— чуецца за дзвярыма голас цёткі Марыны.— Я тут бялізну прынесла і кіслага малака. І на холадзе доўга не сядзіце, адразу ідзіце ў хату...

— Усё будзе, як вы кажаце,— адказвае Валера, і цётка Марына пакідае іх адных.

— Вапшчэткі, я табе скажу, жонка хоць баба і языкатая, але заўсёды ў пару прыходзіць,— гаворыць Ігнат Сцяпанавіч, і ў яго голасе чутна непрыхаваная задаволенасць.

Потым яны аддыхваюцца голыя ў прылазніку, п'юць набгом з гладыша густое кіслае малако, ідуць мыцца. Валера памагае Ігнату Сцяпанавічу — намыльвае, шаруе венікам, мачалкай спіну, грудзі, рукі, і Ігнат Сцяпанавіч пакорліва прымае гэту дапамогу, паказваючы сваёй пакорлівасцю нешта дзіцячае, слабае. Апрануўшыся, сядзяць у прылазніку. Ігнат Сцяпанавіч дастае піпку.

— Вапшчэткі, скажу табе, калі што ўесца ў косці, то надоўга. Недарма столяр, паміраючы, казаў: усім усё дарую — і добрае, і дрэннае,— адно яловаму суку і на тым свеце ніколі не дарую. Не мог наравістага характару суку даравапь, бо той усё жыццё ўпоперак яму стаяў. На гордага чалавека шмат хлеба трэба, ды і па хлебе, але кожны хоча, каб пра яго ведалі. Як там у каго выходзіла, гэта ўжо іншае, тут трэба мець сілу смеласці не даць дурной ахвоце і людзям затаптаць сябе... Памятаеш Караля — высачыня такая была, недзе два метры, і сіла па росце, а гонару яшчэ болей. Прыходзіць ён у кузню, а там паўсяла сабралася, якраз лета было, ды дождж работу сарваў. А Максім нагрэў брусок металу — сякеру збіраўся выкаваць. Ён як быццам і не надта яркі брусок, а тэмпература ўсярэдзіне высокая. Нехта і скажы Каралю: «А вот не возьмеш у рукі, пабаішся».— «Давай на спор».— «Давай». На літру залажыліся. Узяў

Кароль у руку распалены брусок, перакінуў у другую, гуляе гэтак з жалезінай, як з мячыкам. Рукі ў яго вялікія, у мазалях, ведама, чалавек рабочы, яно і не страшна. І як ён зяўнуў — выпусціў брусок. Выпусціць-то выпусціў, а быў у ботах з шырокімі халявамі. Брусок і слізгануў па штаніне ў халяву. Усе смяюцца: во фокуснік, брусок схаваў, а яму не да смеху, боты былі на босую нагу ўзбуты; жонка — лярва такая, анучы ніколі не знойдзеш. І Кароль, замест таго каб скарэй нагу выцягнуць з бота, кінуўся плячыма на зямлю, задраў ногі ўгору, трасе, каб брусок вытрасці. Вытрас, але брусок не на зямлю пайшоў, а па голай назе, у штаны. Ты ведаеш, паўнагі спаліў, пакуль выкінуў. А літру, вапшчэткі, выйграў...

Ігнат Сцяпанавіч прыхінае галаву да сцяны, заплюшчвае вочы. Валера таксама прысланяецца да сцяны і адразу нібы правальваецца ў сон. Нешта дзіўнае накочвае на яго, быццам ён пераносіцца ў другі час, калі быў зусім маленькі, а бабуля гаварыла яму пра людзей і пра чалавечую душу. Што чалавек жыве, пакуль ёсць у ім душа. А варта толькі пасварыцца з душой, як яна пакідае цела, і чалавек памірае... Як ад штуршка, Валера прачынаецца. Ігнат Сцяпанавіч напружанымі пільнымі вачыма пазірае на яго, быццам рашае для сябе нейкую вельмі важную задачу. Потым нібы спахопліваецца:

— Во, бач, таксама звёў вочы і сніцца: падыходзіць як бы Ігнат Яблонскіх, мы з ім некалі ў Бабруйску на столяраў вучыліся, рэдкай рукі столяр быў, але вайна яго крэпка пакачала, ён недзе адразу і памёр; дык быц-

цам падыходзіць ён і пытае: «Ці гэта ты, Ігнат, ці так сабе хто?..» Хацеў я прыгрунуць яго трохі: хіба ты сляпы, сваіх не пазнаеш,— ды перадумаў. «Не, кажу, не я». Ён і пайшоў кульгаючы, у яго дзве скразныя раны былі ў правую нагу. Выходзіць, даў мне адсрочку, і я прачнуўся... Ага, дык, вапшчэткі, чаго мы сядзім, не ідзём у хату? Там, пэўна, і вячэра гатова, а можа, жонка і яшчэ што знойдзе...

І яны ідуць на мароз.

1968

# МАРУТА І ЗІНА

Позні зімовы вечар. За цёмнымі шыбамі, зацягнутымі слюдзянымі наплывамі лёду, глухі шоргат і шапаценне. Быццам хто сыпане ў вокны пяском і чакае нечага, яшчэ сыпане і зноў чакае... Потым пачынае варочацца, усё роўна як намагаецца ўстаць, сапе, цяжка ўздыхае...

Гэта снег і вецер. Яны як пабраталіся, як наняліся напамінаць, што на дварэ сіберна і няўцешна.

У хаце стаіць густы цёплы дух. Востра б'е ў нос свежай кроўю і вантробамі. Толькі што кончыла гарэць печка, і цяпер атухае, абрастаючы шызым пылам, вуголле, пастрэльвае іскрамі. Пад столлю яркім сліпучым бляскам свеціць лямпачка.

Марута сёння закалола кабана, і ўсё, што можна прыспасобіць пад свежыну, занята і закідана ёю. Шырокая лаўка, што заўсёды стаіць ля парога, пасунута на сярэдзіну і завалена салам, мясам, пасечанымі касцямі.

На стале, на голых дошках, ляжаць сцегнякі, ногі, стаіць, натапырыўшы чорныя храшчы вушэй, свіная галава.

Нават крайняе ад дзвярэй акно не пустуе: на ім чы-

гунок з кроўю. Ля коміна, прывязаны за юшку, сушыцца надзьмуты посік...

Унесці з двара ў хату кабана і разабраць Марута ўправілася яшчэ завідна. Праўда, памагаў сусед, аднаногі Лявон, дзякаваць яму. Ён і смаліў яго, і разбіраў, і сала пакроіў, і косці пасек. Парадчыць жа ўсё — пасаліць, злажыць у кубел — пакінуў самой.

— Паціху разбярэшся тут, спяшыць няма куды,— сказаў, выпіўшы і закусіўшы як трэба, і развітаўся.

А яна мала што і ўправілася зрабіць. Добра, што хоць Зіна прыбегла, мяса падсобіць крышыць.

Сама Марута ў сіняй мультановай кофце з шырокімі, закасанымі за локці рукавамі ўселася ля печкі, на старым нізенькім табурэціку. Шырока, па-мужчынску расставіўшы ногі ў бліскучых гумавых ботах і як бы ўсміхаючыся нечаму сухімі губамі, яна на канцы высокага ўслона шкрабе кішкі. Нешта святочнае, прасветлена-радаснае праглядвае ў яе мажной упэўненай постаці, у нетаропкіх эканомных рухах вялікіх, зеленавата-белых ад кішэчнага сала і густой слізі рук.

Зіна сядзіць на другім канцы ўслона. Гэта поўная працавітая дзеўка гадоў васемнаццаці. Жоўтыя, колеру спелага аўса валасы яе заплецены ў касу, светлыя бровы прыўзняты ўгару і выказваюць здзіўленне круглага белага твару, і ўся яна выдае нейкай мяккай, добрай, як недапечаны велікодны пірог. Звыклым запавоненым рухам, нават не пазіраючы, куды выпроствае руку, бярэ цёплыя кавалкі мяса з вялікай сіняй міскі, што стаіць на ўслоне між ёй і Марутай, шлёпае іх на днушку і скоранька рэжа. «Чы-чы-чы, чы-чы-чы!» — лёг-

ка, з тугім картавым трэскам чыкае яе быстры востры нож.

Занятыя працай, жанчыны маўчаць, чутно толькі пастукванне нажоў ды неспакойнае шапаценне за вокнамі.

Глянуць на іх збоку, то можна падумаць, што і гаворкі між імі ніякай не можа быць,— так яны спяшаюцца, так улягаюць у работу.

Але вось Зіна як быццам натыкаецца на нейкую нябачную перашкоду, перастае рэзаць, выпростваецца, утаропіўшы вочы ў адчыненыя дзверцы печкі. Там, ля самага краю, у белым попеле распаленым драбком золата бліпічыць чырвона-малінавы вугольчык. Ён як быццам не ляжыць на месцы, як быццам увесь час варушыцца, пераліваючыся рознымі яркімі колерамі. Застылымі круглымі вачыма, як заваражаная, Зіна пазірае на яго, але па нерухомаму спакойнаму твару яе відаць, што яна, мусіць, і не бачыць яго, мусіць, проста аб нечым глыбока задумалася. Раптам яна ўздрыгвае, як бы скідвае здранцвенне, ссоўвае пакрышанае мяса з днушкі ў таз, пераводзіць вочы на Маруту.

— Цётка Марута, пагляньце, я не дробна крышу?

Марута бярэ рукі на прыпол, заглядвае ў таз.

— А добра, як пакрышыш, так і добра. Гэта ж каўбух, не каўбасы... Усё пройдзе — і дробна, і буйна...

— Вы кажыце, калі не так. Мамка дык не любіць, калі ў каўбуху мяса дробна пакрышана...

— Не думай нічога, Зіначка, якраз добра...

Зіна зноў арудуе нажом: «Чы-чы-чы, чы-чы-чы!» Марута пазірае на яе. Відаць, што яна хоча спытаць нешта ў Зіны, і не адважваецца. Лёгкая дрыготка прабягае па

яе вуснах, яны торгаюцца, як ад уколу, збіраюцца ў вузел, потым паціхеньку расслабляюцца... Яна пытае:

— А дзе ж цяпер твой мужык? Як жа ты цяпер?..

— А хто яго ведае... Як прагнаў тата, дык і не заяўляўся,— груба, адрывіста гаворыць Зіна, але ў голасе не злосць, не раздражнёнасць, а нейкая млявая абыякавасць.— Быў недалёка. На тым тыдні на трэцюю брыгаду прыязджаў на сваёй «лятучцы», а да нас не зайшоў. Мусіць, баіцца, каб не ўсыпалі.— Яна пачынае смяяцца, закінуўшы галаву, паказваючы шырокія здаровыя зубы.

Марута маўчыць, прыплюснуўшы вочы, быццам дрэмле. Яна не бачыць, як з нажа, які яна трымае ў руцэ, спаўзаюць і шлёпаюцца на падлогу, пырскаючы на ногі, мутныя кроплі.

— Ну, вы ж паслухайце, цётка, хіба ж можна так,— сур'ёзна і з жалем працягвае Зіна.— Так бажыўся, так кляўся... Перад вяселлем дык і з хаты не вылазіў. Кожны вечар прыязджаў. Іду з работы і ведаю, што ён ужо ў нас, з татам гамоняць. Усё пра паліціку... І мне якіх толькі слоў не нагаварыў. А ў самога дзве жонкі. Адна ў Бабруйску, а другая яшчэ недзе...

— Вот такіх дурняў і шукае, каго за слова купіць можна,— нібы ачынаецца, прыўзнімае галаву Марута.

— І зноў жа... Да вяселля дык макам рассыпаўся... Ты і такая, ты і гэтакая... Як на руках не насіў... А пасля вяселля... на які гэта... на трэці дзень было... Сядзім мы ў сенцах вечарам... Мамка, тата, ён... Мы з мамкай бульбу абіраем. Пайшлі, кажа, спаць, заўтра ўставаць рана. Яму трэба было ехаць у раён. Сказаў і пайшоў у

другую хату. Мы там спалі на печы. Хата не агледжана, на ложку холадна, а на печы добра, цёпла.

Кончылі мы абіраць бульбу, і я пайшла за ім. Узлезла на печ, дык ён, ні слова не гаворачы, як дзьмухне мне ў вуха. Бач, зазлаваў, што не пайшла з ім адразу, не паслухалася яго. Я думала, і ўліпну ў комін. Дні чатыры пасля галавой не магла павярнуць. Дык я ўголас. Прыбягае тата — босы, у споднiках,— ён ужо спаць лажыўся. У руцэ папружка матляецца. «А ну марш з маёй хаты!» — на Гогу. Я сяджу на печы, раву, а самой смешна.

Тата стаіць сярод хаты, маленькі, натапыраны, ну, яй-богу, певень, а Гога як злез, дык як ні ўдвая вышэй за яго. Я думала, біцца будуць. Але Гога паслухаўся. І пайшоў. Праўда, развітаўся, руку ўсім даў — і тату, і мамцы, і мне... Пасля таго і не заходзіў болей.

— Не пашанцавала табе з гэтым замужжам. Не паспела выйсці — і ўжо аўдавела. Толькі ты не бяры да сэрца. Усё яшчэ наперадзе — і харошае, і благое...

— А ён дык смешны такі, цікавы...— Зіна быццам не чуе спагады ў голасе Маруты, усміхаецца бліскучымі, як шклянымі, вачыма.— Гаварыў, што, як пажэнімся, адразу пераедзем жыць у Бабруйск. Там у яго дом свой, сад, гарод. Кажа, ты на работу хадзіць не будзеш. Будзеш дома гаспадарыць... Я дык і не верыла, што ён жанаты, пакуль першая жонка не прыехала.

— Бабруйская?

— Ага... Якраз на другі дзень, як тата прагнаў яго. З хлопчыкам прыехала. Гады тры яму. Акуратненькі, чысценькі, у касцюмчыку. Броўкі тыя — якія яны ў яго

яшчэ! — а ўжо чорныя-чорныя, вочкі вялікія, вірлацянькія. Ну, выліты Гога...

— Пакуль малыя, дзеці ўсе харошыя, усе прыгожыя. А вырастуць... Ага... Дык во, даўно збіраюся спытаць у цябе і ўсё забываюся. Гога, гэта што, дражняць яго ці імя такое?..

— Не, імя такое.— Круглы Зінін твар расплываецца ва ўсмешцы.— І мне спачатку неяк прыкра было. Ну, што гэта, думаю, за імя — Гога? А потым прывыкла — і добра. Гога, Георгі. Жоржа...

Гаворка перапыняецца. Марута з нейкай рашучай паспешлівасцю кідае на ўслон кішку, шморгае па ёй нажом. Не разлічыла сілы — адшчыкнула канец. Выкідае ўсю кішку, бярэцца за другую.

Зіна таксама цягнецца рукой у міску. Праз колькі хвілін зноў падае голас:

— Я думаю, цётка, каб у суд на яго падаць. Мы ж яму і кашулю к вяселлю купілі, і касцюм... То хай бы хоць за гэта заплаціў... Хай бы хоць сказаў што... Хай бы сказаў, што не любіць, дык і то лягчэй было б. А то паехаў — і ўсё... Як і не было нічога...

— Чорт з ім, Зіначка, і з гэтымі грашамі. Перахрысціся ды атрасі рукі. Скажы дзякуй, што і так добра выкруцілася, радуйся, што дзіцяці ў цябе яшчэ няма... Будзе шчэ на тваім вяку шчасце, не бойся. Знойдзецца чалавек, што і табе палюбіцца, і ты яму любая будзеш. А то шчасце... На трэці дзень пасля вяселля галавой аб печ... Ужо мой які звераваты быў, а на мяне руку падняць баяўся...

— А чаму ж вы, цётка, не пусцілі яго, як вярнуўся?

Гавораць жа, што ён дужа прасіўся...— Зіна пазірае на Маруту, чакае.

— Прасіўся. І не адзін раз... Ды я адправіла яго туды, дзе ўвесь гэты час быў. Як кінуў адну з двума на руках, тады не прасіўся. Вільнуў хвастом і прапаў, як і не бацька ўсё роўна. Сэрца тады не балела. А цяпер, як хлопцы павырасталі, успомніў. Успомніў сваю кроў, сабачы бацька...

Зноў стукаюць нажы, і зноў гэты стукат перапыняе Зінін голас:

— А я ўсё ж хачу схадзіць да пракурора. Што ён параіць? Можа, хоць рублёў пяцьдзесят вернем...

Марута маўчыць — зацята шоргае нажом. Яна не заўважае, што пырскі з-пад нажа ляцяць не толькі на падлогу, а і на прыпол, на рукавы кофты. Галаву яна ўзнімае толькі тады, калі Зіна зноў пытаецца:

— Цётка Марута, пагляньце: я не дробна крышу?

— Ладна, Зіначка, як пакрышыш, так і будзе...— адказала Марута.

...Даўно перасталі страляць іскры ў печцы. Перагарэў на попел і рассыпаўся драбок золата — чырвоны вугалёк. Толькі за вокнамі не сціхаюць шоргат і шапаценне, і нехта цяжка варочаецца, быццам намагаецца ўстаць і ніяк не можа...

1968

# БАРВОВЫЯ СУМЁТЫ

## (Палеская балада)

На граніцы цяперашніх Салігорскага і Лунінецкага раёнаў, недалёка ад таго месца, дзе нешырокая Вольфа ўпадае ў быструю і прыгожую Лань, стаіць невялікая, двароў на трыццаць, вёска. Нават не вёска — пасёлак. Моцныя, з сасновых бярвенняў, дамы: сцены адных паспелі пацямнець, другія захавалі і залацісты бляск чыста абчэсанага дрэва, і прыемны здаровы пах разагрэтай на сонцы смалы. Зімой і летам не заціхае там жывое цюканне тапароў.

Вёска мае адну вуліцу і шмат — можа, столькі, колькі і ўсяго двароў,— завулкаў, кожны з якіх, як правіла, мае самастойны выхад у лес. Лес, малады сасоннік і алешнік з частай прымешкай маладых дубоў, акружае вёску з усіх бакоў, і вольныя гаспадары яго — дзікі і казулі — мірацца са свойскай жывёлай, а зімовымі халадамі нярэдка і самі прыходзяць у вёску, бліжэй да чалавечага жытла. Дзікі адважваюцца і на большае — «браканьернічаюць», і часам хатнія свінні прыводзяць

парасят з нязвыклымі палосамі ўздоўж спіны. Але за такія вольнасці людзі на іх асабліва не наракаюць, толькі пакідаюць за сабой права смяяцца і жартаваць.

Ні выгляд гэтай звычайнай палескай вёскі, ні спакойнае, някідкае жыццё яе жыхароў — калгаснікаў калгаса «Партызанскі край» — з іх штодзённымі радасцямі і турботамі не выдаюць страшнай трагедыі, якая разгулялася тут халоднай зімой 1943 года. Пра гэту трагедыю расказваюць яе сведкі, якім пашчаслівіла астацца жывымі. Яны расказваюць і пра подзвіг Івана і Міхала Цубаў — двух старэйшых жыхароў гэтай вёскі, імем якіх яна нядаўна пачала называцца. Калі адбываліся згаданыя падзеі, назва ў вёскі была другая — Навіна.

...Пра тое, што немцы пачалі блакаду, ведалі ўсе. Аб гэтым гаварылі партызаны, адыходзячы ў глыб лясоў і балот.

— Трэба,— гаварылі яны,— капаць зямлянкі на астравах, у лозах, куды немцы не дабяруцца і дзе можна будзе пераседзець навалу жанчынам, дзецям, старым.

Але ўсё думалася, што напасць абміне, пройдзе стараной і не зачэпіць гэты маленькі, затулены лесам і адрэзаны балотам ад бойкіх дарог куток.

Думаў пра гэта ненадзейнае шчасце і Іван Цуба. Але аднойчы, на сярэдзіне падслепаватага зімовага дня, калі ён разам з усёй немалой сям'ёй сеў абедаць, у хату ўбег жончын брат.

— Вы што расселіся, як на вяселлі! Абедаеце? Немцы ідуць з Грычынавіч. Зараз тут будуць! — Ён моцна

крычаў, размахваў рукамі, а твар яго быў перапалоханы, белы, і рука, у якой была пуга, дрыжала.

— Не крычы, чалавеча, прысядзь... Грычынавічы — гэта яшчэ не Навіна,— сказаў Іван, і ўсе — і жанчыны, і дзеці — прыціхлі.

Пачулася глухое тарахценне кулямёта. Адна чарга, другая. Зноў чарга, як быццам бліжэй, але ўсё яшчэ далёка — недзе за лесам.

— Во, чуеце? Я ледзь уцёк ад іх. Думаў, канец ужо, не паспею... А яны ідуць і горнуць падчыстую. Што аблава на ваўкоў. У Пузічах вунь усіх — жанок, старых, дзяцей — сагналі ў абору, заперлі, аблілі бензінам і падпалілі.

— Пузічы спалілі?

— Спалілі... І людзей... Збірайцеся хутчэй ды ка мне на сані, а то позна будзе!..

Па вуліцы, хто пешкі, хто на конях, ужо спяшаліся людзі. З боку Грычынавіч далятала страляніна.

— Ну, то паспяшайма,— устаў і Іван.— Апранайцеся добра. Падушкі бярыце, посцілкі. Хто ведае, да чаго вернемся.

У хаце пачалася мітусня. Нехта адсунуў услон, загрымеў чыгунок з прыпечка.

І вось ужо вынесена і ўскінута тое-сёе з вопраткі, што ўпохапкі паспелі ўзяць, пасаджаны ў сані дзеці. Сваяк забег апошні раз у хату, памагчы, але ўбачыў, што Іван не спяшаецца.

— Іван, а ты што?

— Я зараз...— Іван акідваў хату, быццам шукаў нешта і не мог успомніць, дзе яго, гэта «нешта», знайсці.

— Ты што надумаў?

— Гавяду выганю з хлева... Не пакідаць жа яе немцам,— сказаў стары злосна і ўзняў галаву.— Гавяду выганю. А вы паспяшайце. Падавайцеся ў Вербы. Туды карнікі хваробу сунуцца, пабаяцца... А я зараз... толькі валоў выпушчу...

Страляніна тым часам прыціхла, і стары Цуба падумаў, што, можа, карнікі ўжо не пойдуць у Навіну. Вярнуўся ў хату, зачыніў дзверы.

— Выстудзіць усё цяпло.— Запхнуў нагой пад палок хлебніцу, спыніўся сярод хаты, паківаў галавой: — Паглумілі... жанок, старых, дзяцей...— Убачыў пад сталом нож, падняў.— Забыліся... Чым жа хлеб рэзаць будуць?

І толькі калі недзе блізка, ля Панскага алешніку, разанула доўгая кулямётная чарга, ён нібы ачомаўся, кінуўся з хаты да хлява. Ірвануў на сябе вароты, адчыніў закутак і замахнуўся лазіной на валоў:

— А ну, пайшлі! Пайшлі! Ну!..

Ужо на двары ўбачыў, што і брат Міхал на сваім двары і таксама бяжыць да хлява.

— Міхал, немцы! — крыкнуў Іван.

Міхал павярнуў галаву, хацеў нешта сказаць і ўбачыў, як недалёка ў прагале ад дарогі на Грычынавічы мільганула некалькі цёмных постацей, і зараз жа адтуль паласнула аўтаматная чарга. Такія ж постаці перабягалі справа і злева ад прагалу, агіналі канец пасёлка. І тады Міхал павярнуўся тварам да пасёлка, закрычаў што было голасу:

— Людзі, уцякайце! Карнікі!

Голас у Міхала быў моцны, басавіты. У Навіне смяяліся: калі Міхал шэпча ў адным канцы вёскі, у другім чутно ўсё. І цяпер, у гэтай калатнечы, голас не падвёў старога — густа разлёгся над наваколлем, і людзі пачулі яго.

Некалькі постацей — гэта былі нямецкія салдаты ў чорных шынялях — кінуліся з хмызу на двор, схапілі яго за рукі і цераз гарод павялі да стажка сена. Там, ля стажка, на пратаптанай самім Міхалам і партызанамі сцежцы — сена скублі і валам, і коням,— акружаны салдатамі, стаяў высокі хударлявы афіцэр. Адзін з салдатаў, што прыцягнулі Міхала, стаў нешта хутка гаварыць яму. Афіцэр слухаў, увесь час варушачы тонкімі губамі, потым павярнуўся да Міхала і спытаў па-руску:

— Ты знаеш, дзе ест партызан?

Міхал маўчаў.

Афіцэр акінуў позіркам сівую галаву старога з даўно нястрыжанымі валасамі — шапка недзе згубілася, пакуль валаклі салдаты,— шырокія плечы, якім было цесна пад грубай саматканай світкай, расхрыстаную на грудзях кашулю, і нервова смыкнуў губамі.

— Дзе ест партызан?

— Не ведаю,— адказаў Міхал.

— Ты паказвай нам дарогу, дзе ест партызан! — раптам закрычаў афіцэр, коратка размахнуўся і ўдарыў Міхала ў твар.— Паказвай, своляш, дзе ест партызан! — Афіцэр другі раз ударыў Міхала.

І тады стары рвануўся да кала, што тырчаў з-пад снегу.

— Ах ты, гад!

Ён паспеў выхапіць кол, замахнуцца, але не паспеў ударыць: сухі стрэл палажыў яго на снег.

Іван, які стаіўся ля хлява, бачыў, як афіцэр нагнуўся над Міхалам — мусіць, хацеў пераканацца, ці жывы той,— як потым выпрастаўся і ніяк не мог усунуць пісталет у кабуру.

Стаяць было небяспечна. Трэба брацца ў хмыз. Чамусьці незвычайна доўгімі здаліся сцяна хлява, стопачка, прабежка да першай яліны. І раптам пачулася:

— Хальт!

Той жа самы афіцэр запытаў у Івана:

— Дзе ест партызан?

Нечакана для немцаў стары сказаў:

— Я павяду вас...

Адышоўшы крокаў за дзвесце ад вёскі, Іван азірнуўся. Убачыў, як, выцягнуўшыся вужакай, услед за ім з Навіны выпаўзала доўгая калона фашыстаў. Многа саней, на якіх сядзелі салдаты, афіцэры. У чорнай форме, з аўтаматамі, кулямётамі. Многа ішло пешшу. Недзе ўсярэдзіне калоны коні цяжка валаклі некалькі гармат. Над вёскай узвышаўся знаёмы дуб. Ён стаяў у Івана на двары, глуха шумеў у непагоду, лагодна шалясцеў лістотай сонечнымі днямі.

І яшчэ Іван убачыў сваю хату пад шырокай саламянай страхой, а на страсе — невялікую цёмную пляму. Пляма хутка расла, шырылася — у неба ўздымаўся чорны дым. Ужо займаліся і суседскія хаты.

Тады стары павярнуўся і пайшоў па снежнай дарозе. Не бачыў ён, як над вёскай устала чорнае воблака, як тое воблака пачалі лізаць знізу доўгія языкі полымя.

Не чуў, як раўлі, шалеючы, запёртыя ў хлявах валы і каровы. Думаў ён цяпер пра другое.

Праз кіламетр ад Навіны, як толькі мінеш грэблю, стаяць хаты. Што, калі там і цяпер сядзіць хто-небудзь, схаваўся ад холаду? Хаця не, не павінны. Хаты недалёка ад партызанскага аэрадрома, а партызаны ведалі, што пачынаецца блакада, гаварылі, каб усе ішлі ў лес. Павінны былі папярэдзіць і гэтых, у хатах...

Але куды ісці? На Хорастава? Там аэрадром, лагер... А можа, партызаны не паспелі вывезці параненых?.. Не, на Хорастава нельга. Астаецца адна дарога — сюды, паўз гэтыя хаты. Здаецца, у хатах нікога няма... Дзверы расчынены.

Некалькі салдат з аўтаматамі напагатове кінуліся ў цёмныя праёмы дзвярэй. Але зараз жа выскачылі назад.

Зноў за спіной тупат ног, рыпяць палазы, і недзе ў лесе трашчыць сарока. Яна, мусіць, бачыць увесь гэты атрад. А Івану ўспомніліся другая сарока і другі дзень...

Было гэта перад самай вайной, на пачатку лета. Удвух з унукам, чатырохгадовым жэўжыкам, яны выйшлі ў балота, каб нарэзаць лазы на кош, і, мусіць, апынуліся недалёка ад гнязда. Сарока ўзняла такі галас, што яны вымушаны былі шукаць новае месца. Але і тады сарока не адстала ад іх, прычапілася — смала, няйначай.

— Ну, чаго табе трашчаць? Ніхто чапаць цябе не думае,— нязлосна бурчаў Іван.

А ўнук дапытваўся:

— Дзеду, а чаму сарока трохі белая, а трохі чорная?

— Пытаеш, чаму ў сарокі белыя бокі і чорны хвост? — павесялеў дзед. І расказаў унуку ні то казку, ні то выдумку, якую некалі чуў.

Калі сарока была маленькая, яна была ўся белая: і галава, і крылы, і хвост. Яна яшчэ не ўмела лятаць і ўвесь час сядзела ў гняздзе. Бацькі прыносілі ёй жучкоў, мошак розных і наказвалі, каб не вылазіла з гнязда. А то там, на зямлі, і ваўкі ходзяць, і сабакі бегаюць, і ліса можа падпільнаваць. Адзін раз, калі бацькі доўга не прылятал, маленькая сарока не вытрывала, выскачыла з гнязда. Вельмі ж хацелася ёй паглядзець, што робіцца на белым свеце. Толькі яна стала на ногі, а тут з-за куста — воўк. Вялікі, зубаты. Сарока спалохалася ды ўцякаць. А воўк за ёй. Сарока за куст, і воўк туды, сарока на купіну — і не даскочыла, сілы мала было. А кругом купіны дрыгва была, гразь. Яна і ўвалілася ў гразь і давай крыльцамі махаць, каб выбрацца. А гразь ліпкая, чорная... Добра, што прыляцелі бацькі, памаглі ёй выбрацца. Але з таго часу сарока і засталася чорна-белай — запэцкалася...

— А воўк? — дапытваўся ўнук.

— А воўк? А воўк пастрашыўся лезці ў дрыгву і ўцёк.

— Дзеду, пакажы, як воўк плача.

Іван прыклаў згорнутыя ў трубку далоні і зацягнуў:

— У-у-у!

Здавалася, што гэта вые сапраўдны воўк — так працяжна, заложна і паныла цягнуў ён,— і здавалася, што ўслед за рэхам, таксама працяжным і вусцішным, па-

чуецца другі голас — голас сапраўднага воўка. Але адказу не было. І тады ўнук зноў пацерабіў за рукаў:

— А цяпер весела пагукай, дзеду.

І Іван загукаў: «Ого-го-го!» — і звонкае рэха падхапіла яго голас, панесла па лесе, узмацняючы і рассыпаючы.

Успомніўшы той дзень, Іван быццам успомніў і свой голас — зычны, бадзёры, і рэха — маладое і смяшлівае, якое быццам падраблялася пад яго голас, перадражнівала і, як кругі па вадзе, разыходзілася па лесе, усё больш слабеючы і слабеючы. І яму здалося, што ён і зараз пачуў гэта рэха, толькі яно цяпер было нейкае глухое. Можа, таму, што зіма.

Стары прыслухаўся і сапраўды пачуў голас, пачуў, нягледзячы на скрып снегу пад нагамі. Ён азірнуўся на сваіх канваіраў і ўбачыў, што яны таксама ўслухоўваюцца. І тады ў яго з'явілася думка, што гэта нехта з Буцынава ці Патапава ўцякае ад немцаў і кліча сваіх... Кліча, не ведаючы, што сам наводзіць на след, што сам ідзе да фашыстаў...

Афіцэр падаў каманду, і трое салдат кінуліся ў лес.

Калона спынілася.

Нарэшце салдаты вярнуліся. Прывялі перапалоханых жанчын з клункамі.

— Дзе ест партызан? — спытаў у жанчын афіцэр.

Тыя заматалі галовамі: «Не ведаем нічога».

Афіцэр махнуў рукой: няхай ідуць з калонай.

На развілцы дарог, ля невысокага дубка, на белым снезе ляжаў забіты чалавек. Іван зірнуў на яго твар, думаў — можа, пазнае. Не, незнаёмы... Тады павярнуў

на вузкую дарогу, на якой не было ніводнага следу. Ведаў, што за ім паверне і гэты даўгі страшны хвост.

Даўно ўжо скончылася дарога. Даўно фашысцкі атрад, пятляючы, ідзе па нешырокіх прагалах, умінаючы зляжалы снег. Іван ідзе наперадзе атрада, але чуе ўсё, што робіцца за яго спіной. Бач, ужо гарматы не цягнуць... Сілы не хапіла, выпшыкаліся... І коней пакінулі... Пяшочкам ідуць. Расцягнуліся ледзь не на вярсту... Даўгі ланцужок... Вось бы Захаравіча цяпер з яго хлопцамі... Ды разануць добра...

Старому ўспаміналася свая дарога, чамусьці асветленая цяпер яркімі фарбамі. Спачатку па ёй ішлі яны ўдвух — з братам Міхалам, потым — пажаніўшыся — учатырох, з жонкамі. А там, калі пайшлі дзеці і ўнукі,— цэлай грамадой.

Трыццаць год аддалі панам Заманскім. Трыццаць год — не трыццаць дзён... Пасвілі скаціну, аралі чужое поле, валілі чужы лес... І не ведалі зімы, каб лёгка было з хлебам, не чулі слова людскага, ласкі чалавечай.

Сем год судзіліся з панамі за зямлю. Пехатой хадзілі ў Лунінец, у Брэст. Сотні вёрст у лапцях ды анучах... І дамагліся свайго: зямлю адсудзілі... Ды што гэты шматок зямлі... Волі, волі не было. Паны дыхнуць не давалі: лес панскі, луг панскі, балота панскае. Дзе ні ступіў — панскае. А раз ступіў — плаці штраф. Здавалася — гэта навек, назаўсёды. Але вось пайшла пагалоска, што ў лясах пачалі арганізоўвацца партызанскія атрады. Са сваіх мясцовых людзей. Атрады трэслі маёнткі найбольш заядлых паноў, пускалі іх з дымам.

Дасужыя людзі гаварылі, нібыта ў адным з іх бачы-

лі пляменніка жонкі — Васіля Каржа. Гаварылі, ды ці мала што гавораць. Але аднойчы ўночы пачуўся асцярожны стук у шыбу. Іван паўглядаўся ў цемру за акном, але нічога ўбачыць не мог.

— Хто там? — спытаўся ціха.

— Дзядзька Іван, адчыні,— данёсся прыглушаны голас.

— Васіль?.. Адкуль ты?.. Увесь мокры...— ужо ўпусціўшы ў хату пляменніка і шукаючы ў пяколку вуголля, каб раздзьмуць агонь, пытаўся стары.

Устала жонка.

— Агню не запальвайце... І лес вочы мае,— перасцярог госць.— Як нашы — бацька, маці?..

— Забрала дэфензіва. Нехта давёў, быццам ты быў разам з тымі, што варшаўскі поезд супынілі... Ну, той, што вёз новага ваяводу, Даўнаровіча...

У хаце Васіль доўга не затрымаўся. Узяў з сабой хлеба, сала, расказаў, як прымусілі Даўнаровіча танцаваць на вачах у сваіх жаўнераў, і знік, быццам прапаў у цемры...

І цёмна было на дварэ, а ўсё ж нехта ўгледзеў, давёў паліцыі. Івана павалаклі ў пастарунак.

— Сваяк Васіль да цябе не наведваўся? Папаску ты яму не даваў? Дзесятка плётак! Есцэ дзесятка! Двадзесце пенць!

Здаецца, і цяпер пякуць тыя «двадзесце пенць»... Пякуць... Не так балюча было, як крыўдна...

Успомніўся Міхал. Вясёлы, гарачы Міхал, які, не зважаючы на свае семдзесят год, быў мо самы дужэйшы чалавек ва ўсім Хорастаўскім сельсавеце. Ды і ці толь-

кі ў Хорастаўскім! Гэта ж ён неяк пад канец паншчыны, ужо ў трыццатыя гады, купіў у краме жалезны плуг і, радуючыся, што ўрэшце прыдбаў свой, жартуючы, на плячы прынёс дамоў — за цэлых дваццаць вёрст. Потым праходу не давалі яму з гэтым жартам.

І быў яшчэ адзін дзень — пагодлівы вераснёўскі дзень з лёгкай срабрыстай павуцінай і першым жураўліным курлыканнем, які не мог забыць Іван. Яны з Міхалам нечага былі тады ў Хораставе. Ужо збіраліся ісці дамоў, у Навіну, як прыбег нейкі хлапчук і крыкнуў:

— Саветы прыйшлі! Чырвоная Армія!

Крыкнуў і пабег далей, а яны як стаялі, так і кінуліся да пастарунка. І там сапраўды ўбачылі сваіх... І Міхал, які ніколі ў сваім жыцці не танцаваў — не да гэтага было,— кінуўся ў танцы, там, ля пастарунка...

Думаў, успамінаў Іван і сунуўся наперад — усё ў той жа глыбокі, па пахі, снег, дай божа, каб яму канца не было.

Усё больш і больш стаў нервавацца афіцэр. Дзе партызаны? Чаму няма? Столькі часу ідуць, а ніводнага партызана няма...

Пачалося балота. Снег укрыў яго, засыпаў карчы, зараўняў яміны, схаваў ад чалавечага вока чорную кашу, якая рэдкай зімой бралася мёртвай карой лёду. Высокія каравыя вольхі зябка і густа тырчалі на белай пасцелі. Між імі ледзь бачна гарбаціліся купіны сухой асакі і моху.

Пераскокваючы з адной купіны на другую, часта правальваючыся па пояс у снег, усё далей і далей ад людных мясцін, ад партызанскіх стаянак, да нешырокай

плыткай Лані вёў карнікаў Іван. Тонкая ледзяная кара не вытрымлівала цяжару ўзброеных да зубоў салдат, яны правальваліся, вылазілі з гразі, каб праз некалькі дзесяткаў крокаў праваліцца і зноў таптаць густую чорную кашу.

Стары спяшаўся. Ён ведаў, што яму засталося вельмі мала. Кароткі зімовы дзень павінен хутка перайсці ў вечар. На Палессі гэта адбываецца амаль непрыкметна. Балота робіцца глухое, дзікае, толькі вольхі гайдаюцца пад ветрам ды суха шархаціць асака. Потым раптоўна, як чорны мяшок, на зямлю ападзе цемра.

Афіцэр ірвануў старога за плячо:

— Дзе партызан? Дзе?

І тады Іван павярнуўся да яго і, не хаваючы нянавісці, загаварыў:

— Вы хацелі, каб я завёў вас да партызан? Вы хацелі, каб я паказаў месцы, дзе хаваюцца людзі? Вы хацелі паліць, страляць, вешаць. Я завёў вас... завёў у балота — і вы адсюль не выйдзеце... Вы не знайшлі партызан... а яны вас знойдуць! Яны знойдуць вас!..

Стрэл абарваў голас старога. Потым карнікі паклалі на снег заложнікаў (а іх за дарогу сабралася каля дзесяці чалавек) і далі па іх некалькі чэргаў з аўтаматаў. Прынеслі сена, нацерушылі зверху на людзей і падпалілі. Разлік быў просты: жывы не вытрымае агню, заварушыцца. Але ніхто не паварушыўся. І толькі тады, як карнікі рушылі далей, трое з «мёртвых» усталі і, як прывіды, ледзь перастаўляючы ногі, пайшлі шукаць людзей.

Цэлую ноч над балотам, над сцішанай Ланню кру-

ціла завіруха. Цэлую ноч карнікі пускалі сігнальныя ракеты, прасілі падмогі. Але ракеты не маглі ўзняцца ўгору: збітыя моцным ветрам, яны вярталіся на зямлю і дагаралі ў снежных сумётах. А пад раніцу, калі ў шэрым мроіве сталі праглядацца выбеленыя інеем ствалы дрэў, падаспелі партызаны.

Пачаўся кароткі і жорсткі бой.

Калі ён скончыўся, на невялікай выспе, недалёка ад берага Лані, партызаны знайшлі Івана Цубу. Ён ляжаў на зямлі, шырока раскінуўшы вялікія, дужыя рукі...

1967

# ЗМЕСТ

**Кудравец А.**

К 88 На балоце скрыпелі драчы: Апавяданні. [Для ст. шк. узросту / [Маст. В. Валынец].— Мн.; Маст. літ., 1979.— 288 с., іл.

Ранняя ўзмужнеласць хлапчукоў цяжкіх пасляваенных гадоў, пошукі самастойнага шляху, барацьба за дабрату, за праўду — пра гэта апавяданні зборніка.

К $\frac{70803-040}{M\ 302(05)-79}$ 150—79 Бел 2

*Анатолий Павлович Кудравец*

НА БОЛОТЕ СКРИПЕЛИ ДРАЧИ

Рассказы

Для старшего школьного возраста

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар У. Б. Ідэльсон. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктары Е. У. Дзмітрыенка, Л. С. Мануленка.

ІБ № 362

Здадзена ў набор 31.10.78. Падп. да друку 15.02.79. АТ 01054. Фармат 70×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Друк высокі. Ум. друк. арк. 12,60. Ул.-выд. арк. 11,06. Тыраж 14 000 экз. Зак. 1652. Цана 55 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.